Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 15 (4764) 11 красавіка 2014 г.

## Пункціpам

✔ Выстаўка архіўных дакументаў і фота «Край мужнасці і славы», прысвечаная 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, працуе ў фае залы пасяджэнняў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. У цэнтры ўвагі — наступальная аперацыя «Баграціён», дзякуючы якой былі вызвалены ўся Беларусь, частка Літвы, Латвіі і Польшчы. Напрыканцы красавіка экспазіцыю прадставяць на дзвюх міжнародных канферэнцыях у Мінску, а потым накіруюць у Берлін і Вену.

✔ Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі прафесара Міхаіла Фінберга выправіўся ў гастрольны тур па гарадах Мінскай вобласці, прысвечаны юбілейнай даце вызвалення. Для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны ды многіх жыхароў сталічнага рэгіёна створана новая канцэртная праграма «За нашу Перамогу!». Арганізатары тура — Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі, Мінскі абласны выканаўчы камітэт.

✔ На працягу трох дзён у беларускай сталіцы працаваў Міжнародны адукацыйны форум «Еўрапейская якасць адукацыі». Фэст, які стаў пляцоўкай для наладжвання дзелавых кантактаў і арганізацыі новых форм узаемадзеяння, будзе спрыяць выхаду Беларусі на еўрапейскі рынак адукацыйных паслуг. Мерапрыемства прайшло пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Беларусі, пасольства Беларусі ў Вялікабрытаніі і пасольства Вялікабрытаніі ў Беларусі.

✔ Паводле дамоўленасці Пасольства Беларусі ў Францыі з Міністэрствам культуры Францыі для беларускіх рэстаўратараў — супрацоўнікаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі — арганізавана прафесійная стажыроўка ў Нацыянальным інстытуце спадчыны і шэрагу вядучых музеяў Францыі. Абмеркаваны перспектывы наладжвання ўзаемаадносін паміж музейнымі ўстановамі абедзвюх краін, а таксама арганізацыі візіту дырэктараў вядучых музеяў Беларусі ў Францыю.

✔ Сфарміравана праграма культурных мерапрыемстваў да Чэмпіянату свету па хакеі, які адбудзецца ў Мінску. Паводле першага намесніка міністра культуры Уладзіміра Карачэўскага, афішу складаюць музейныя і выставачныя праекты, канцэрты пад адкрытым небам і ў залах, спектаклі, экспазіцыі майстроў народнай творчасці. Падоўжаны графікі работы музеяў і тэатраў. Запланавана правядзенне мерапрыемстваў і ў фан-зонах.

✔ Салістка Белдзяржфілармоніі Людміла Карпук стала лаўрэатам І прэміі міжнароднага конкурсу вакалістаў «Мастацтва XXI стагоддзя», які праходзіў у Італіі. Форум сабраў каля 80 выканаўцаў з Беларусі, Расіі, Грузіі, Арменіі, Даніі, Германіі, Італіі і іншых краін.

✔ Міністэрства культуры Беларусі аб'яўляе адкрыты рэспубліканскі конкурс кінапраектаў на вытворчасць фільмаў па сацыяльна-творчых заказах. Удзел могуць узяць беларускія арганізацыі кінематаграфіі. Заяўкі прымаюцца да 27 красавіка. Разглядаць праекты і падводзіць вынікі конкурсная камісія будзе да 15 мая.

Падрыхтавала
Іна ЛАЗАРАВА


6 Нашы ў Хогвартсе


8 Куляшоў: летапіс і ўспаміны


9 Парыж. Сарбона. Пераклад


16 Людзі і іх лялькі



Фота Кастуся Дробава

Акадэмік Міхась Мушынскі (справа) і галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская навука» Георгій Кісялёў абмяркоўваюць з Тэрэзай Голуб другое выданне «Летапісу жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова».

Чытайце на стар. 8 ▶

## Пытанне да творцы

# Якая літаратура патрэбна сучаснаму чытачу?



**Анатоль Крэйдзіч, старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ:**

— Мяркую, што сёння ўсё яшчэ маюць попыт краязнаўчыя выданні. Ад грунтоўных акадэмічных серый да тых, што распавядаюць пра жыццё асобнай вёскі ці мястэчка. У нас на Берасцейшчыне ў гэтай галіне плённа працуюць Анатоль Бензярук, Зінаіда Дудзюк ды інш. Анатоль Дзенісейка напісаў некалькі кніг пра вёскі. Гэтая літаратура патрэбна не толькі тым, хто жыве ў згаданай мясцовасці, але і студэнтам, выкладчыкам, якія пасля будуць паглыбляць і распрацоўваць даследаванні мясцовых краязнаўцаў. Краязнаўчую дзейнасць трэба пашыраць і сродкамі інтэрнэту.

Праўда, ёсць і другі напрамак — літаратура, запатрабаваная чытачом. На шчасце, хваля «шырспажыву» сплывае і яе месца займаюць творы якасныя, беларускія. Трэба рабіць стаўку на моладзь: бібліятэкары кажуць, што сёння найбольш папулярныя кнігі для дзяцей і падлеткаў. Яны павінны мець трывалы нацыянальны грунт. І, канечне, афармленне такіх кніг мае не меншае значэнне, чым змест. Усімі магчымымі сродкамі трэба пашыраць кола аматараў беларускай літаратуры: ад дзіцячых карацелек да самавітых раманаў, эпапей.



**Уладзімір Дуктаў, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ:**

— Як чытач я шукаю ў сучасным літаратурным працэсе штосьці цікавае для сябе. Заўсёды знаходжу час, каб пагартаць «ЛіМ», даведацца, што пішуць «Полымя», «Нёман» і «Маладосць». Добра, што ёсць сайты, дзе можна знайсці тое, што патрэбна. Мяркую, творы павінны быць розныя: і традыцыйныя, прывычныя сталаму пакаленню, адначасова ўдумлівыя ды зразумелыя, і блізкія моладзі — мадэрновыя. Зрэшты, сёння мы не абдзеленыя добрай літаратурай — трэба толькі ўмець выбіраць!



**Тамара Краснова-Гусачэнка, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення СПБ:**

— Па-першае, шмат залежыць ад самога чытача, яго сацыяльнага статусу, адукацыі, інтарэсаў, узроўню... Дарэчы, сучасная моладзь, перанасычаная прымітывізмам з інтэрнэту і сацыяльных сетак, стала больш цікавіцца класікай, і айчыннай, і замежнай: у ёй адкрываюць сапраўднае харахтво высокага мастацтва. Упэўнена, што літаратура, у якой былі Янка Купала, Якуб Колас ды іншыя сур'ёзныя майстры слова, мае вялікую будучыню. Галоўнае, што трэба нашаму сучасніку, — адрозніваць добрыя творы ад пафаснага напластавання слоў. Я сама падоўгу працую над кожным вершаваным радком і лічу, што аўтар найперш павінен быць патрабавальны да сябе, бо мода мяняецца, а напісанае па-майстэрску патрэбна заўсёды.

*Прэміі*

# Зоркі ўсіх краін, яднайцеся!..

**Прэміяй СНД «Зоркі Садружнасці» адзначаны дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч і намеснік дырэктара — галоўнага рэдактара — галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Алесь Бадак.**


Фота Кастуся Дробава

Летась такой узнагародай быў ушанаваны старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі празаік Мікалай Чаргінец. Сёлетняя адзнака — ацэнка работы па стварэнні шырокамаштабнага творчага праекта «Сугучча сэрцаў». Дакладней — серыі з 11 кніг, дзе прадстаўлена літаратура народаў СНД у асноўным апошніх двух дзесяцігоддзяў.

Вынікі работы над гэтым творчым праектам падсумоўвае укладальнік Алесь Мікалаевіч Бадак:

— Мне асабіста было вельмі цікава працаваць над рэалізацыяй праекта. Вельмі істотную падтрымку ў стварэнні літаральна кожнай з кніг аказала першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. У серыі — арыгінальнае мастацкае рашэнне па афармленні. Чытач ужо з вокладкі можа зразумець, якую краіну прадстаўляюць у тым ці іншым томе. Прыемна, што серыя грунтоўна паказала сучасную беларускую літаратуру: Янка Брыль, Іван Шамякін, Уладзімір Карызна, Мікалай Чаргінец, Георгій Марчук, Генадзь Пашкоў, Алесь Савіцкі, Алег Буркін, Сяргей Трахімёнак, Тамара Краснова-Гусачэнка, Уладзімір Саламаха, Віктар Гардзей, Казімір Камейша, Алег Ждан, Таццяна Сівец, Рагнед Малахоўскі… Пісьменнікі розных пакаленняў, яны прыйшлі да чытача ў большасці сваёй з новымі перакладамі з беларускай ці арыгінальнымі творамі на рускай мове. Публікацыі як быццам падсумоўвалі, а што ж зроблена за апошнія гады, што перакладзена.

У стварэнні кніг серыі магутную падтрымку аказалі нацыянальныя саюзы пісьменнікаў розных краін. Працуючы над «Сугуччам сэрцаў», у Выдавецкім доме «Звязда» пазнаёміліся з многімі літаратарамі з краін СНД. Вельмі ўважлівымі да работы над беларуска-азербайджанскім томам аказаліся азербайджанскія калегі. Найперш — Чынгіз Алі аглу. Паэт, якога цяпер часта друкуюць у перакладах на беларускую мову ў «Полымі» і «Літаратуры і мастацтве». А ўлічваючы абсягі зроблenага ў гэтым кірунку перакладчыкамі Таццянай Сівец, Міколам Мятліцкім, Алесем Бадаком, Віктарам Гардзеем, можна спадзявацца, што неўзабаве беларускі асобны зборнік Чынгіза Алі аглу пабачыць свет. Не так хутка складалася кніга, якая прадставіла сучасную казахскую літаратуру. З арыгінал-макетам зборніка беларускаму боку давялося пабываць у Алматы, прэзентаваць яго ў Нацыянальным Саюзе пісьменнікаў Казахстана, на міжнароднай кніжнай выстаўцы ў Алматы. Высокую ацэнку укладанню кнігі даў народны паэт Казахстана Мурад Шаханаў.

— Работа над серыяй — і ўнікальны досвед знаёмства з нацыянальнымі літаратурамі на сучасным этапе, — заўважае Алесь Бадак. — Па стварэнні сённяшняга партрэта ўкраінскай літаратуры шмат парупілася празаік і паэт Галіна Тарасюк з Кіева. Мы вельмі ёй удзячны. Дарэчы, як адказ на наш праект нядаўна выпушчаны «беларускі» нумар часопіса «Кіеў». Дзякуй за гэта ўкраінскім сябрам! Прэзентацыя зборніка з серыі «Сугучча сэрцаў» адбылася, між іншым, у Кіеве.

Два расійскія тамы з серыі збіраюцца перавыдаць у Маскве. Вядуцца перамовы пра перавыданне казахска-беларускай кнігі ў Алматы. Прэзентацыі кніг «Сугучча сэрцаў» правялі ў Мінску таджыкскае і туркменскае пасольствы, а таксама штаб-кватэра СНД.

Віншавальныя тэлеграмы, лісты з высокай адзнакай творчага праекта «Сугучча сэрцаў» даслалі ў Беларусь пісьменнікі Украіны — Аляксей Кананенка, Міхайла Слабашпіцкі, Барыс Алейнік, Расіі — Роберт Мінулін, Рэнат Харыс, Рыма Ханінава, Вячаслаў Ар-Сяргі, Любоў Турбіна, Мікалай Іваноў, Таджыкістана — Муміна Канаат, Ато Хамдам, Казахстана — Любоў Шашкова, Святлана Ананьева…

У Выдавецкім доме «Звязда» працуюць над развіццём праектаў па стасунках літаратур краін нараодаў СНД. Рыхтуецца гадавы выпуск альманаха «Сугучнасць». Яго збіраюцца прэзентаваць напярэдадні Дня беларускага пісьменства. У партфелі выдавецтва — шэраг перакладных кніг: том сучаснай украінскай паэзіі і прозы, кнігі пісьменнікаў Расіі, Таджыкістана, Казахстана, Азербайджана, іншых краін СНД. Спраектаваны таксама інфармацыйны і мастацка-публіцыстычны электронны партал «Сугучнасць». Яго прадставяць у хуткім часе на сайце Выдавецкага дома «Звязда». Каардынатарам работы па рэалізацыі такога сапраўды міжнароднага праекта выступае публіцыст Юрый Царык. Мяркуецца, што ў насычэнні электроннага партала дапамогу беларускаму боку акажуць усе краіны Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Літаратура сёння становіцца сапраўдным мостам дружбы, дапамагае ў паразуменні памкненняў розных народаў.

**Алег ЗАРОКАЎ**

# Вандроўкі «Маладосці»

**Зусім нядаўна самае «маладое» літаратурна-мастацкае выданне краіны, часопіс «Маладосць», адсвяткавала 60-годдзе. Чарада святочных мерапрыемстваў і сустрэч, якімі поўніўся юбілейны год, мае працяг і сёлета. Так, на пачатку сакавіка супрацоўнікаў рэдакцыі віталі ў Гродне, а першымі красавіцкімі днямі «Маладосць» завітала да свайго гомельскага чытача.**

На гасціннай палескай зямлі вясна яшчэ мацней адчувалася ад цёплага прыёму гаспадароў: Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Ф. Скарыны сардэчна вітаў поўнай залай і прыязнымі ўсмешкамі. Арганізатарамі сустрэчы выступілі бібліятэка і кафедра беларускай літаратуры ГДУ, якая сябруе з часопісам шмат гадоў. Як заўважыў у прывітальным слове яе загадчык, доктар філалагічных навук прафесар Іван Штэйнер, «Гомельская зямля падарыла беларускай літаратуры не аднаго славутага пісьменніка, якія пачыналі свой творчы шлях з «Маладосці».

Актуальнасці сустрэчы надавала і тое, што ў гэтым годзе вераснёўскі нумар часопіса будзе прысвечаны Гомельшчыне, а яго старонкі напоўняцца творчасцю таленавітых аўтараў паўднёвага рэгіёна. Таму рэдакцкарскі калектыў «Маладосці» бліжэй пазнаёміў чытачоў з гісторыяй часопіса, спецыфікай працы ў літаратурна-мастацкім выданні і творчымі планамі. Рэдактар аддзела крытыкі Ціхан Чарнякевіч расказаў пра функцыянаванне сайта, пазнаёміў прысутных з кніжнымі навінкамі адноўленай серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць». Рэдактар аддзела паэзіі Ірына Чарняўская падрабязней спынілася на тэматычных нумарах, а таксама запрасіла студэнтаў да супрацоўніцтва ў межах новай рубрыкі «ГістФАКТ».

Па словах І. Штэйнера, у хуткім часе на базе кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны будзе створаны музей пісьменнікаў-выпускнікоў універсітэта. Відавочна, пачэснае месца ў гэтай галерэі літаратурнай славы зойме і рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць» Анатоль Казлоў. Былы студэнт ГДУ, ён з цеплынёй распавёў пра гады вучобы, з удзячнасцю ўзгадаў выкладчыкаў і пажадаў студэнтам паважліва ставіцца да працы педагогаў. Творчую кампанію «маладосцеўцам» склала начальнік Адукацыйнага цэнтра Нацыянальнага інстытута адукацыі Ірына Шаўлякова-Барзенка. Аднак у гэты дзень ад аўтарытэтнага літаратурнага крытыка гучалі толькі словы пашаны і любові да гамяльчан. Цікавасць прысутных да часопіса «Маладосць» і літаратурнай творчасці ў цэлым пацвердзілася шматлікімі пытаннямі слухачоў, якія яшчэ доўга не адпускалі запрошаных з утульных універсітэцкіх сцен. На развітанне Анжэла Мельнікава і Таццяна Фіцнер, дацэнты кафедры беларускай літаратуры, правялі захапляльную экскурсію па гістарычных мясцінах горада.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

# Сюрпрыз ад творцы

У сталічнай бібліятэцы № 22 на чарговым пасяджэнні літаратурнага клуба «Шчырасць» сустракалі адразу чатырох творцаў.

На пачатку сустрэчы ў аўтарскім выкананні прагучалі вершы Аліны Легастаевай. Кіраўнік аб'яднання Міхась Пазнякоў адзначыў актыўнасць, з якой паэтэса ідзе па жыцці. Затым адбылася прэзентацыя кніг Сяргея Трахімёнка «Геном Ньютана» і «Феномен Бубна», якія пабачылі свет у Выдавецкім доме «Звязда». Міхась Пазнякоў адзначыў, што Сяргей Трахімёнак адзін з лепшых аўтараў у жанры палітычнага рамана. Пасля невялікага экскурсу па старонках новых кніг Сяргей Аляксандравіч выканаў пад гітару песні на вершы Віктара Верстакова, Мікалая Шыпілава і Віктара Леанідава. Такое прадстаўленне іх творчасці — своеасаблівая даніна памяці ўсім ахвярам мінулых войнаў. Не абышлося і без прыемных сюрпрызаў. Аўтарам трох самых цікавых і нестандартных пытанняў Сяргей Трахімёнак уручыў свае кнігі з дарчымі подпісамі. А пытанняў прагучала шмат, і найбольш па кнізе «Родная крывінка».

У межах імпрэзы быў прадстаўлены дакументальны фільм пра творчасць Міхася Пазнякова, пісьменніка, паэта, мовазнаўцы, перакладчыка, грамадскага дзеяча. Заключным акордам вечарыны сталі яго лірычныя вершы, у якіх моцна, нібыта карэнне, пераплецены любоў і боль. Дарэчы, гэта і з'явілася адказам на пытанне пра ролю паэзіі ў жыцці творцы.

**Ганна СТАРАДУБ**

# Па-шляхетнаму

**У гасцінным Доме Ваньковічаў адбылася арыстакратычная падзея: Мінскі салон беларускай шляхты.**

Напачатку госці салона — нашчадкі беларускай шляхты — паслухалі канцэрт класічнай фартэпіяннай музыкі (Бах, Гайдн, Шуман, Скрабін). Нягледзячы на тое, што выканаўцы — не сталыя майстры, а навучэнцы Рэспубліканскага каледжа мастацтваў пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, узровень іх падрыхтоўкі вельмі высокі. Музычная «уверцюра» — невыпадковая. Як адзначыў старшыня Мінскага згуртавання нашчадкаў шляхты і дваранства Ігар Чакалаў-Шыдлоўскі, музыка дапамагае настроіцца на ўспрыманне непрагматычных рэчаў — такіх, як традыцыі беларускай шляхты і іх значэнне для сучаснікаў.

І. Чакалаў-Шыдлоўскі ўручыў асобным гасцям шляхецкія адзнакі. Дыплом ганаровага згуртавання нашчадкаў шляхты і рэканструяваную шляхецкую грамату атрымаў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус. Дарэчы, зусім не абавязкова мець адпаведнае паходжанне, каб стаць «сваім чалавекам» у шляхецкай суполцы: дыплом атрымаў і вядомы пісьменнік, перакладчык, грамадскі дзеяч Анатоль Бутэвіч «за унёсак у адраджэнне шляхецкіх традыцый».

Аўтар шматлікіх гістарычных кніг, сярод якіх «Таямніцы Мірскага замка», «Таямніцы Нясвіжскага замка», «Паміж Княствам і Каронай» і інш., Анатоль Бутэвіч сапраўды зрабіў значны ўнёсак у выхаванне духоўна-культурнай і нацыянальнай ідэнтычнасці сучасных беларусаў. Госці салона з вялікай цікавасцю паслухалі выступленне пісьменніка. Як паступова змянялася погляд на беларускую гісторыю як на «лапатную» з'яву? Справа, вартая увагі, таму што, падкрэсліў спадар Бутэвіч, ніхто не будзе з павагай ставіцца да народа, які не паважае сам сябе. «У нас слаўная, багатая, высакародная гісторыя. Пацвярджэннем таму 180 замкаў, што існавалі на Беларусі ў часы ВКЛ, асоба Францыска Скарыны, імя якога ведае ўся адукаваная Еўропа... Кожная мясціна мела сваю атрыбутыку», — падкрэсліў А. Бутэвіч (лапці — таксама гонар, калі яны дарэчы). Беларусь падарыла свету шмат выбітных людзей, якія сталі нацыянальнымі героямі краін, дзе апынуліся воляй лёсу (Тадэвуш Касцюшка, Ігнат Дамейка ды інш.) Узгадаў пісьменнік караля Ягайлу, якога паклікалі на трон палякі. Улічыўшы, што жонка Ягайлы, беларуска, нарадзіла трох сыноў, якія сталі еўрапейскімі арыстакратамі, — нязяжка зразумець, што беларуская кроў скрозь прысутная на нашым кантыненце.

Пасол Літвы ў Беларусі Эвалдас Ігнатавічус заўважыў, што ўсё гэта сведчыць пра «агульнасць вытокаў еўрапейскай культуры і духоўнасці». Ад нас залежаць лёс і перспектывы гэтага скарбу. Спадар Пасол выказаў спадзеў на пераклад кніг Анатоля Бутэвіча на літоўскую мову і сучасных гістарычных ды гістарычна-мастацкіх даследаванняў у Літве — на беларускую.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

*Спадчына*

# Пуцявінамі Песняра



*Фрагмент выстаўкі «Пуцявінамі Якуба Коласа».*

Адзін з асноўных кірункаў дзейнасці супрацоўнікаў Коласавага дома — папулярызацыя спадчыны Якуба Коласа. Мэта перасоўных выставак — паказаць сувязь класіка з пэўным рэгіёнам ці мясцінай.

Дзякуючы арганізацыі гэтых экспазіцый летась да творчасці Песняра далучыліся жыхары Лепельшчыны. А цяпер у Светлагорскім гісторыка-краязнаўчым музеі працуе выстаўка «Пуцявінамі Якуба Коласа» з фондаў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. У экспазіцыі прадстаўлены матэрыялы, якія ілюструюць сувязь паэта з Гомельшчынай, дзе ён неаднаразова бываў падчас творчых вандровак.

Напрыканцы 1931 года, у адзін з першых прыездаў у Гомель, Якуб Колас сустракаўся з калектывам Беларускага драматычнага тэатра-II і чытаў артыстам сваю драму «Вайна да пабеднага канца» (з 1937 г. п'еса займела новую назву — «Вайна вайне»). Праз шэсць гадоў наведаў Гомель, каб паглядзець гэтую п'есу ў БДТ-II.

Наступная сустрэча з горадам адбылася толькі ў 1944 годзе. У сакавіку тут праходзіла выязная VI сесія Вярхоўнага Савета БССР. Якуб Колас з групай дэпутатаў прыехаў у Навабеліцу. У гэты ж дзень пакінуў запіс у сваім дзённіку: «Першае спатканне з роднай зямлёй, разбуранай, апаганенай, зрабіла вялікае ўражанне, усхвалявала». Менавіта ў Навабеліцы напісаны верш «Над Прутам». На сесіі Якуб Колас выступае з прамовай, абіраецца намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Паралельна працуе над 17-м раздзелам паэмы «Адплата».

Разам з членамі Надзвычайнай Дзяржаўнай камісіі па ўстанаўленні і расследаванні злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых наведвае былы нямецкі канцлагер «Азарычы». Па звароце ў Маскву пад уражаннем убачанага напісаў нарыс «Лагерь смерти», які быў надрукаваны ў газеце «Известия». Гэта быў адзін з першых твораў, што стаяць ля вытокаў беларускай дакументалістыкі пра вайну. Ён уяўляе сабой дакументальны запіс расповедаў вязняў пра злачынствы акупантаў.

У лісце да паэтэсы Эдзі Агняцвет паэт піша: «Мілая Эдзінька!... Ад'ехаўшы кіламетраў сто, а можа і меней ад Масквы, пападаеш у зону, дзе кіпелі бітвы. Нідзе няма цэлае станцыі... У Гомелі амаль ніводнага цэлага будынка не засталося. Захаваліся вуліцы на ўскрайку горада, дзе стаяць драўляныя домікі. Гомель — гэта труп горада: руіны, кучы друзу, бітай цэглы, гарэлага жалеза». І там жа: «У дзень майго прыезду ў Навабеліцу была ясная пагода. Калі я пабачыў родныя беларускія землі і лясы, дык мяне ахапіла пачуццё, што мне захацелася плакаць».

Сувязі з гэтым краем і людзьмі не парываліся. Сведчаннем таму — шматлікія лісты ад жыхароў Гомельшчыны да паэта з нагоды самых разнастайных грамадскіх і жыццёвых праблем. Калі Якуба Коласа не стала, адна з першых спачувальных тэлеграм прыйшла менавіта з Гомеля.

**Яўгенія МЯТЛУШКА**

# Красавік дыктуе тэму

Сёлетні красавік пазначаны дзвюма пафарбаванымі ў розныя колеры падзеямі: у гэтым месяцы мы будзем святкаваць Вялікдзень і смуткаваць з нагоды чарговай гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Менавіта пад знакам гэтых дат і прайшлі сустрэчы вучняў і настаўнікаў сярэдніх школ № 2 і № 3 г. Бярозы з пісьменнікамі з Мінска.

Уладзімір Мароз распавёў пра здымкі дакументальнага фільма па яго сцэнарыі пра сыходжанне Дабрадатнага агню на Свяшчэннай зямлі, сведкам чаго ён быў сам. Анатоль Зэкаў падзяліўся ўражаннямі ад камандзіроўкі — адразу пасля чарнобыльскай трагедыі — у Нараўлянскі раён, пасля якой і нарадзілася паэма «Аварыя сумлення». Гучалі падчас выступлення сталічных літаратараў і паэтычныя творы на іншую тэматыку — як сур'ёзныя, так і вясёлыя.

А завяршалася кожная сустрэча музыкай: свае песні на словы беларускіх паэтаў Навума Гальпяровіча, Алеся Пісьмянкова і Анатоля Зэкава юным бярозаўскім слухачам прадставіў лаўрэат і дыпламант многіх рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, фестываляў бардаўскай песні Аляксей Нежавец.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

# Чаму б не пасмяяцца?

Атмасфера вечара гумару «Жартуюць беларусы», што прайшоў у сталічнай бібліятэцы № 7, сталася па-сяброўску цёплай. Арганізавала імпрэзу Мінскае гарадское аддзяленне СПБ сумесна з рэдакцыяй часопіса сатыры і гумару «Вожык».

На пачатку вечарыны загадчыца бібліятэкі Людміла Каляда прадставіла публіцы выканаўцу аўтарскай бардаўскай песні (гэтым разам — пра вясну) Марыну Заманас. Паэт, празаік, гумарыст Павел Саковіч распавёў, што сярод сяброў сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, якія пішуць гумарыстычныя творы, склалася завядзёнка збірацца разам у кніжніцы або ў Доме літаратара.

Відома, не абышлося на імпрэзе без жартаў і смеху. Выступілі са сваімі творамі пісьменнікі Сяргей Давідовіч, пэндзлю якога належыць шэраг карцін гумарыстычнага характару, Янусь Малец, Уладзімір Мацвеенка, Васіль Найдзін, Пётр Радзечка, Вольга Сакалова, Мікола Шабовіч.

Галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая правяла вікталіну па гісторыі гэтага выдання. Аўтары правільных адказаў атрымалі прызы.

Завітаў на вечар кампазітар, музыкант, паэт Іван Раманчук. Вядучы Павел Саковіч выступіў з эпіграмамі на сталічных творцаў, сатырычнымі мініяцюрамі, гумарэскамі. Актыўна ўдзельнічалі ў імпрэзе і слухачы.

Падчас вечарыны публіка давала пісьмовыя адказы на пытанне: «Што для вас гумар?» Аўтары лепшых атрымалі ў падарунак кнігі ўдзельнікаў вечара з аўтографамі аўтараў.

**Арына КРАЙКО**

# Ад прытчы да радка

Сталічная бібліятэка № 5 запрасіла аматараў літаратуры на вечарыну паэтэсы Алены Сініцы. Сапраўднае імя творцы — Марына Шылай. Працуе яна ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце старшым выкладчыкам кафедры фізічнага выхавання і спорту. Піша на рускай і беларускай мовах. У сваіх вершах разважае пра каханне, духоўныя каштоўнасці, пра месца чалавека (і, у прыватнасці, сваё) у свеце.

Гэтым разам паэтычныя творы Алены Сініцы прадставілі публіцы студэнты-першакурснікі МДЛУ, якія і дапамаглі аўтарцы падрыхтаваць імпрэзу. Адметна, што адной з крыніц натхнення для яе з'яўляецца філасофія прытчаў, да асобных з якіх — «Прытчы пра трох старых» і «Прытчы пра дзве сняжынкі» — Алена Сініца звярнулася падчас вечарыны.

Паэтэса ўпэўнена: калі вы клічаце ў дом любоў, там абавязкова будуць і шчасце, і багацце. У той жа час, згодна з «Прытчай пра дзве сняжынкі», чалавек ідзе насустрач лёсу, які вызначыць для сябе сам.

Верш Алены Сініцы «Я с актёрской своей судьбою…» надрукаваны ў часопісе «Нёман» разам з творамі іншых сучасных паэтаў пад агульнай рубрыкай «Одно стихотворение». Верыцца, што гэтая публікацыя — пачатак шляху аўтаркі да першага ўласнага паэтычнага зборніка.

**Яна ЯВІЧ**

# Калі фізік стварае лірыку…

Прэзентацыя зборніка айчыннай паэтэсы, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Ганны Васільевай «Эффект тетивы» (Мінск, А. Н. Вараксін, 2014), што прайшла ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна, сталася сапраўдным паэтычна-музычным святам.

Дарэчы, гэта чацвёрты па ліку паэтычны зборнік Ганны Яўгенаўны: раней пабачылі свет яе кнігі «Моя печаль нашла плечо...», «Движение лёгкого крыла» і «Вопреки».

На імпрэзу прыйшлі сябры і родныя Г. Васільевай. Гасцямі сустрэчы былі і ўдзельніца тэлепраекта «Акадэмія талентаў» Ганна Гакінаева, музыканты Раман Шуманец (саксафон) і Анастасія Казакова (фартэпіяна), а таксама струнны квартэт «Счастливый день».

Г. Васільева скончыла БДУ па спецыяльнасці «Фізіка», але ў яе вершах «Дети солнца — в саду георгины…», «Знаешь, а я изменилась…», «Как хрустальный флакон от французских духов…» і г. д. — філасофія жыцця і кахання, элегічны роздум, дыялектыка душы. Словам, сапраўдная жаночая — і жаноцкая! — паэзія.

**Дана ХОДНІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

11 красавіка — на вечар духоўнай паэзіі і музыкі «У чаканні светлага дня», які адбудзецца ў Палацы мастацтваў (вул. Казлова, 3). Удзел бяруць вядомыя паэты і барды. Пачатак а 17-й гадзіне.

15 красавіка — у літаратурную гасцёўню «Дыялог сяброў» на сустрэчу з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі Беларусі і Турцыі. Мерапрыемства пройдзе ў офісе Міжнароднай грамадскай арганізацыі «Дыялог Еўразія» (вул. Е. Полацкай, 1). Пачатак а 17-й гадзіне.

17 красавіка — у паэтычны клуб «Парнас» на творчы вечар паэта і мастака Хізры Асадулаева. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.

# «Размаўляй са мной па-беларуску»

Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі на Смаргоншчыне распачаўся зацікаўленай сустрэчай гімназістаў і вучняў СШ № 1 з беларускім пісьменнікам, выдаўцом Уладзімірам Ягоўдзікам. Творца вядомы як літаратурны крытык і перакладчык з рускай і ўкраінскай моў. Дзякуючы яму па-беларуску загучалі раман В. Астаф'ева «Сумны дэтэктыў», камедыя А. Астроўскага «Лес», раманы Ю. Бондарава.

Адметнае месца ў яго творчасці займаюць казкі, апавяданні і аповесці для дзяцей. Некаторыя п'есы («Залатое зярнятка», «Пякла баба калачы», «Усміхніся, прынцэса!») ставіліся ў лялечных і драматычных тэатрах краіны, на беларускім радыё і тэлебачанні. Не менш цікавыя творы аўтара пра гістарычнае мінулае. Яго кнігай «Сем цудаў Беларусі» распачата аднайменная серыя гісторыка-пазнавальных твораў.

Аўтар адказаў на шматлікія пытанні ўдзельнікаў сустрэчы, а свой аповед дапоўніў паказам фільма пра стварэнне гербаў гарадоў Беларусі.

**Ала КЛЕМЯНОК**

# Тэмпераментны тэатр

Сустрэча з грузінскім крытыкам Лаша Чхарцішвілі адбылася ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Ён распавёў студэнтам пра сучасны грузінскі тэатр, прадэманстраваў відэа пра розныя напрамкі ў тэатральным мастацтве Грузіі.

Энергія акцёраў, як бачна, літаральна вырываецца за межы сцэны, не адчуваецца строгага падзелу паміж сцэнай і залай.

У ліку асноўных тэндэнцый грузінскага тэатра — мультымедыя і змяшэнне жанраў. Камедыю лёгкаператвараюць у трагедыю, тэму вайны раскрываюць праз іронію. Такі своеасаблівы аксюмаран.

Назіраецца сінтэз мастацтваў: у тэатры часам можна пабачыць элементы кіно або цыркавыя нумары. Галоўнае, на думку Л. Чхарцішвілі, зразумець логіку і матывацыю рэжысёра.

На пытанне, як крытыкаваць, каб выявіць свае здольнасці і не пакрыўдзіць выканаўцаў, Л. Чхарцішвілі з усмешкай адказаў: «Крытыкую, калі бачу перспектыўнага акцёра. Значыць, ёсць над чым працаваць, каб стаць сапраўдным майстрам».

Спадзяёмся, грузінскі тэатр яшчэ пакажа свае «тэмпераментныя» пастаноўкі беларускім гледачам.

**Вольга РОПАТ**

Савет Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі смуткуе з нагоды раптоўнай смерці паэта, публіцыста, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі ДУБРОЎСКАГА Аляксандра Сцяпанавіча і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім памерлага.

Савет Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне празаіку, члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Кавалерчыку Барысу Лазаравічу з нагоды напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.



Яўген ХВАЛЕЙ

## Там, дзе пальмы, апельсіны...

Канец снежня мінулага і пачатак гэтага года я правёў у іспанскім горадзе Барселона. Уражанні ад паўднёвай прыроды, жыцця каталонцаў я паспрабаваў выказаць у вершах, якія прапаную чытачам «ЛіМа».

**Аўтар**

* * *

*Пачаў год новы я ў чужой краіне,*
*Не ведаю, дзе скончыцца яму...*
*У той краіне — пальмы, апельсіны...*
*Бы школьны ўрок калісьці,*
*я прапусціў зіму.*

## Зімовыя кветкі

*Збоч вуліцы — кветкі:*
*Сінія вочы,*
*Быццам улетку,*
*Сінія ночы.*
*Я іх у жанчыны*
*Бачыў аднойчы,*
*Сінія вочы.*
*Зімы барселонскай*
*Не снег — а скрозь кветкі,*
*Зямлі каталонскай*
*Родныя дзеткі,*
*Палоняць штодзень*
*Маё сэрца вачыма...*
*А сэрца глядзіць*
*Туды, дзе Айчына*
*У снезе бялее...*
*Мароз — за плячыма...*

## Пейзаж

**1**

**У студзені**

*Паўдзённае мора...*
*Рыбацкія шхуны...*
*Твар сонца праз дымку,*
*А хвалі — як руны...*

**2**

**У лютым**

*Міндаль, чарэшні ў срэбным квеце,*
*Мімозаў золата на вецці,*
*Рамонкі белыя, як снег...*
*А мне здаецца — гэта ў сне...*

## Птушкі-нявольніцы

*Выносяць кенараў мужчыны*
*Штодзень на сонца...*
*Бераг... Мора...*
*У клетках птушачак-нявольніц*
*Страчае сіняя прастора.*
*Ім, птушкам, хочацца на волю,*
*Дзе ў хвалях ветразі бялеюць...*
*Мужчыны, клеткі адчыніце —*
*Пабудзьце ў стане канарэек...*

## На вуліцы Федэрыка Гарсіа Лоркі

*На вуліцы Лоркі*
*бела-ружова*
*Адцвітае пахучы міндаль...*
*Мне падалося: колеры слова,*
*А не пялёсткі,*
*сплываюць удаль...*

*Гойя, Веласкес, Эль-Грэка, Пікаса*
*І экспрэсіўны Далі,*
*Лопе дэ Вега, Сервантэс і Лорка,*
*Быццам над морам яркія зоркі,*
*Тут у душы маёй усплылі...*

* * *

*Сляпучае сонца над морам зімою,*
*Быццам у нас летняй парою.*
*Гляджу на марскую сонца дарожку,*
*Што на мой Нёман падобная трошкі,*
*Калі ён замерзне, заблішча пад сонцам...*
*...Хоць на імгненне —*
*я ў роднай старонцы...*

* * *

**А.**

*Ты далёка ад мяне...*
*Дні і ночы...*
*Кветкі-зоркі на зямлі —*
*Твае вочы.*
*Сінь такая, аж душу працінае...*
*Сінь, як мора, што ляжыць*
*Паміж намі...*
*І забудуся, што я*
*Так далёка...*
*Быццам чую не цыкады —*
*Буслаў клёкат...*

## Гарадскія горы

**1**

*Там, дзе спіць Цібідаба, —*
*Пальмы скрозь венцаносныя,*
*Аблачыны над імі*
*і сонца між іх.*
*Тут, нібы ў Беларусі, —*
*бранзаствольня сосны:*
*Мне па сэрцы,*
*бліжэй ты, гара Мантжуік.*

**2**

*Гарыць куст ягадны чырвоны,*
*Нібы каліна наша ўвосень*
*Паганскім яркім вогнішчам...*
*А кактусы зялёным вожыкам*
*Паўзуць уверх па сцежках горных*
*Туды, дзе ў небе светла-сінім,*
*Нібы буслянкі, — кедраў кроны,*
*А ўнізе спеюць апельсіны...*



Наталля БІНКЕВІЧ

## Твой уяўны верш мне

*Гучна праз самкнёныя вусны —*
*Чырвоны.*
*Апускаючы вочы долу*
*Ў поўных табой адзінай калідорах —*
*Зялёны.*
*Ніягарскім снегападам*
*Закунежу —*
*Бела-блакітны.*
*Ланцужкамі радкоў —*
*Навагодніх гірляндаў —*
*Мастак*
*Па палітры*
*Расцягвае словы —*
*Назовы для карцін.*
*Гэта Марк Шагал вучыў:*
*Закаханыя = закаханы Я.*

***

*Ты кажаш,*
*у вершах стала больш трагізму,*
*Што ў прызме дзён — асэнсаваны свет,*
*Што раніцай дзіцём капрызным*
*Ныю, а ўвечар я сутулы мудры дзед.*

***

*Інтарэс прачынаецца моўчкі,*
*Ладзіць ложак,*
*Гатуе чай.*
*З зіхаценнем лепіцца ў вочы.*
*У зіхценні — праўда.*
*Чакай!*
*За душой*
*Прачынаецца вера.*
*І настойлівы прагны*
*Кліч:*
*«Жыць!»*
*І ведаць тое.*
*І любіць!*

***

*То ён —*
*Мой супярэчлівы дзень.*
*Агонь —*
*Гарыць сардэчны камень.*
*Увушшу*
*Трымціць твой голас і спеў.*
*Гляджу —*
*На маіх вуснах спадзеў.*
*То ты —*
*Бясконцы верш пра любоў.*
*Варты*
*Найлепшых цёплых сяброў.*
*Лягчэй*
*Прымусіць сябе маўчаць.*
*Пячэ,*
*І трэба спаць, засынаць.*
*То я —*
*На спіне вочы і пульс.*
*Жняя —*
*Журбу пасею — дзіўлюся,*
*Калі*
*Мой патаемны радок*
*Чытаць*
*Мы будзем удвох.*
*Будзем удвох.*

***

*Зноў поўня ладзіць*
*Аблокам на плечы*
*Сваю выразна-невыразную*
*Самоту.*
*Як і тады, у той вечар,*
*Калі па ўзору кашулі*
*Я вызначала, адкуль*
*І хто ты.*
*Зноў неба вечнае тлустае*
*Шэрым і шчырым плёнам*
*Ліпка так неспакуслівa*
*Вешае ў сталіцы*
*Стому.*
*Як і тады, у тым месяцы —*
*Ліпень і жнівень сышліся —*
*Я вызначала ў холадзе,*
*Дзе*
*Знаходзіцца*
*Ніца...*



Фота Кастуся Дробава



Серафіма БЕСТАВА

## Беларускае

*Ля вокан вішня расцвітае,*
*І дождж сягоння не імжыць.*
*Я пра нягоды забываю,*
*Адно жаданне: жыць ды жыць.*
*І хочацца ўзляцець над лёсам, —*
*Душа для дзеяў аджыла,*
*Малітвай дзякую нябёсам*
*За кожны промнічак святла.*

***

*Адышоў мой цягнік далёка.*
*Не дагнаць яго, не спыніць.*
*Маё сэрца пад буслаў клёкат*
*Так шукала святла, чысціні.*
*А шукаць ёй было нялёгка.*
*То дажджыла,то хмарылі дні.*
*Адышоў мой цягнік далёка,*
*Не дагнаць яго, не спыніць.*

## Ля ракі

*Ах, як сонейка сёння ззяе,*
*Акрыляйцеся, ўсе надзеі,*
*Ветрык сцішыўся,назірае,*
*Як вада калыша лілеі.*
*Матылі ля ракі мітусяцца,*
*Пчолка руніцца дзень пра нас.*
*Краю родны, ў любові прызнацца*
*Самы час, я скажу, самы час.*

## Маёй Аршаншчыне

*Стаю на беразе Дняпровым,*
*Дзіўлюся срэбру хваль тугіх.*
*Аршаншчына, мой кут вясновы,*
*Які ж ты сэрцу дарагі!*
*Сінеча ў небе разлілася,*
*Праменна тут і ў вышыні.*
*Душа мая, паспавядайся*
*Набожнай гэтай цішыні.*



Паліна ЛУК'ЯНОВІЧ

# Прыцягненне Селены

*Апавяданне*

Поўня безуважна глядзела на бляклагністы горад. Яна не любіла плялёхкацца ў брудным ружовым марыве, спрэс зацягнутым раскай цёмных аблачын. Такое неба, адзінокае, бяззорнае, прыкрае, часта навісала над пекнымі навабудоўлямі і старэнькімі «хрушчоўкамі», расквечанымі праспектамі і патаемнымі ўтульнымі дворыкамі.

Ноч разлівалася густая, наварыстая, крыху разбаўленая водсветамі ліхтароў і ўсё ж прывабная для гурмана. Пэўна, яе смак і адмысловы водар прываблі поўню: белабокая самотніца выплыла на небасхіл і, захутаўшыся ў лёгкую смугу, пачала аглядаць наваколле. Тут, ва ўладаннях бетону, асфальту і шкла, ніхто не радаваўся яе мяккаму святлу, не ўзнімаў угару зачараваныя вочы. Таму не дзіва, што поўня была не ў гуморы, а ўсё ж, пакрыўджаная, не пакінула няўдзячны куток. Яе зацікавілі… людзі. Так, нягеглыя стварэнні, што ўдзень не ведаюць спакою, а цудоўныя начныя гадзіны бавяць у абдымку з падушкай. Вартаўніца змрочнага неба не раз прыслухоўвалася да сцішанага дыхання тысяч зямных сонь, але цяпер ёй неадольна захацелася падглядзець у цёмныя дрымотныя вокны. Навошта?

У невялікім дзіцячым пакойчыку панавалі аксамітныя, мяккія на поступ цені. Яны хаваліся ў кутках, пасоўваліся ўздоўж сцен, сцелючыся, абміналі вузкую палоску святла на падлозе, што прасачылася ў шчыліну паміж фіранкамі. Патанаючы ў чорным-чорным футры ценяў, мірна спалі цацачныя медзведзяняты, зайчыкі, лялькі, стомленыя гульнямі.

Маленькая гаспадыня ўсяго гэтага багацця ціхенька сапла, схаваўшыся пад цёплую коўдру. Дзеля справядлівасці варта сказаць, што Янечка трымалася мужна: напярэдадні яна вырашыла не спаць цэлую ноч і прычакаць момант, калі ўсе цацкі ажывуць і пачнуць ладзіць свой баль. Так, Яня ў гэта верыла. І ўсё ж хацелася б пабачыць тое на ўласныя вочы, таму і сцерагла, ды марна: цацкі, відаць, зразумелі, што яна цікуе, і не спяшаліся сябе выдаваць. А дзяўчынку неўзабаве залюлялі лагодныя цені, і гарэзніца заснула ў сваім утульным гняздзечку пад задаволенае вуркатанне кацяняці.

У сне Янечка збіраецца з бацькамі ў вёску, да бабулі. Вось дык шчасце! У калідоры стаяць торбы — большая і меншая, а побач — яе пекны рукзачок. Тата ў любімай зялёнай куртцы выходзіць з балкона, шумна зачыняе дзверы — аж зазвінелі шыбы. У руцэ ён трымае вуды: як заўжды, спадзяецца на капрызлівую рыбацкую ўдачу. Матуля завіхаецца, мітусіцца, правяраючы, ці выключана святло, ці не шугае газ, ці мо фортка не на зашчапцы.

Нарэшце, кожны са сваёй ношкай пакідае кватэру. Весела гамоняць бацькі, амаль подбегам шыбуе за імі Янечка, на хаду падлічыўшы ўсе чырвоныя машыны ў двары. Не паспела вокам міргнуць, як яе неўтаймоўныя сандалікі ўжо скачуць па вакзальнай платформе. Мажная, усмешлівая праваднiца прымае ад мамы білеты, запрашае ў вагон. Дзяўчынка пераможна ступае па вузкім праходзіку, наперадзе пагойдваюцца татавы вуды, няёмка гнецца яго зялёная спіна, а ў плячы мякка, клапатліва прыспешвае матчына рука…

Янечка адразу прыліпла кірпаценькім носам да шкла і, нібы смешнае вірлавокае савяня, глядзела з ненасытнай цікаўнасцю. Паволі праплыў перон: лаўкі, сходы, вагоны, людзі… Быццам у кіно. А потым цягнік раззадорыўся, пабег байчэй, і яшчэ, і яшчэ! Раптам яны выслізнулі з горада, лёгка, імкліва, як не па рэйках, а па жоўценькім сметанковым масле.

Навокал раскінулася блакітна-зялёная прамяністая зямля. Як хвалі, наплывалі пагоркі, стракатыя ад красак, ад вясёлай гульні сонечных зайчыкаў і палахлівых мышак-ценяў. Малочна-белыя каровы ў лакрычна-чорных плямах няспешна і задумліва снедалі на зялёных абшарах лугоў. Знікалі паважныя рагулі — неба выплёсквала на палі сінюю-сінюю кветань ільну. Часам усё гэта накрывала касматая лапа лесу, грозная і велічная, але бяскрыўдная. А бывала, з якой-небудзь лагчыны вынырне рэчка альбо ручаіна і цячэ-струменіцца, то ахінаючыся травяным пухам, то падстаўляючы сонцу бліскучыя бакі.

Калі перад Янечкай разлілося залатое мора збажыны, на даляглядзе паказалася вялізная белая рыбіна. Воблачнае Цуда-Юда свавольна выгінала агромністы хвост, быццам жадала ўзбіць моцныя хвалі на спакойнай гладзі каласоў. Спякотны вецер ускалыхнуў ніву і падагнаў рыбіну — тая рушыла за поездам. Яна чапляла плаўнікамі-аблачынкамі сонца і невялічкі бярозавы гай, курчавая шапка якога паказалася ўдалечыні.

— Татка, глядзі! Вось дык рыба! Лаві яе хутчэй! — без голасу закрычала Янечка (так часта бывае ў сне). Бацька і сапраўды адчыніў фортку надзвіва шырока і неўзабаве закінуў лёску. Хвастатае воблака трапіла на кручок, тарганулася.

— Цягні! Цягні! — дружна крычалі мама і Янечка, але тату аднаму было не пад сілу адолець такое страшыдла, і тады яны кінуліся дапамагаць. Дзяўчо ўхапілася за бацькаву спартыўную апранаху, ірванула на сябе што было моцы, потым ізноў… Тым часам рыбіна пачала паддавацца. Неахвотна воблака паплыло ім насустрач, нагадваючы неабдымны пухнаты паветраны шар.

Малая пасміхалася ў сне, перабірала пальчыкамі, а рыжае кацяня побач лашчыла дзіцячы тварык пушыстым вушкам…

У аднапакаёўцы было глуха і цёмна. Засяроджана гула старая лядоўня, няспраўны кран сплёўваў раз-пораз у парыжэлую ракавіну: «Тапль, тапль, тапль…»

Ноч стаяла свежая, крыху стылая, але яшчэ не зусім асенняя, таму дзверы на балкон ніхто не прычыніў. Поўня крадком падпусціла ў пакой сваё цьмянае святло і затаілася, скоса паглядаючы на неверагодна скручаную фігуру. Гэта быў хлопец-студэнт, які начаваў у таварыша пасля позняй вясёлай гулянкі. Зарыўшыся ў пакамечаную падушку, няўдала падагнуўшы нагу, ён спаў на раскладушцы, укрыты клятчастым пледам. Побач валяліся нядбайна кінутыя джынсы з разрададжаным мабільнікам у кішэні, на стуле — футболка, амаль пусты пачак цыгарэт. Старая гітара стомлена прыхінулася да сцяны, нездаволеная суседствам з выпітай пляшкай піва.

Хлопцу снілася, нібыта ён спяшаецца пасля заняткаў у сталоўку. Прадчуваў, што гэтым разам запозніцца і ў «маўзалеі» (так называлі сталоўку студэнты) ужо застане неаглядную, без канца і краю чаргу. Юнак спяшаўся, бег нейкімі пустымі калідорамі, не пазнаваў нічога навокал і блукаў у вялікай трывозе. Ён смутна ўсведамляў, што ў жыцці можна было б заскочыць у буфет і хоць як замарыць чарвячка альбо падсілкавацца ў «Хутка. Смачна» на рагу вуліцы, але сон вымушаў яго пакутліва шукаць менавіта аблезлую казённую сталоўку. Малады чалавек узнімаўся па лесвіцы, трапляў у невядомыя закуты. Ён выдатна ведаў дарогу, але чамусьці губляўся, шалеў, кідаўся ўніз па сходах, ізноў губляўся і шалеў.

Ад дзікай гонкі хлопца праняў халодны пот, ён ужо не спадзяваўся калі-небудзь выбрацца з гэтага лабірынта, але нечакана зусім неверагодным чынам дзяцюк апынуўся акурат перад дзвярыма злашчаснай сталоўкі. Увайшоўшы, юнак, на сваё здзіўленне, не пазнаў звыклае месца паломніцтва галоднай і непераборлівай моладзі. «Маўзалей» выглядаў дужа раскошна: ні замурзаных сталоў, аблепленых гаманкім роем студэнтаў, ні талерак з шэрай кашай і падазронымі катлетамі, ні сварлівай павархі. Хлопец трапіў у шыкоўны, з густам аздоблены рэстаран з ветлівай, увішнай абслугай і заможнай публікай. Абыходлівы адміністратар правадзіў новага кліента за вольны столік і адразу загадаў паднесці фірменныя стравы. Сурвэткі, прыборы, келіх — усё выглядала па-панску, і малады чалавек ужо рыхтаваўся пакаштаваць далікатэсаў, але на першым вялізным блюдзе яму падсунулі… кнігу! Аблітая соусам, яна падавалася з зелянінай, нейкім экзатычным карэннем і адмыслова прыгатаванымі пладамі. Хлопец збянтэжана агледаў дзіўны пачастунак і нарэшце спытаў, навошта яму падаюць зусім непрыдатныя да ежы рэчы. Афіцыянт, замест таго каб апраўдвацца, ніколькі не разгубіўся:

— Выбачайце, але наведвальнікам мы прапануем толькі самае вытанчанае і, зразумела, ядомае. Будзьце ласкавы, вазьміце нож, відэлец і пераканайцеся самі.

Студэнт вагаўся, асцярожнічаў, грэбліва прынюхваўся, але нарэшце здаўся: цікаўнасць спакусіла яго адрэзаць лустачку і адправіць у рот. Што гэта быў за смак! Непараўнальны, казачны, незямны! Быццам усе кухні свету размясцілі свае выдумкі на адной талерцы, спалучыўшыся самым невымоўным чынам.

Кулінарны шэдэўр хлопец умінаў — аж за вушамі трашчала. Стол тым часам ужо прагінаўся ад разнастайных кніжных закусак (нават бутэрброды былі не чым іншым, як кішэннымі кніжачкамі, абмазанымі маслам ды ікрой). Афіцыянт шчыраваў, сноўдаючы з кухні ў залу, а юнак з зайздросным імпэтам паглынаў рэстаранныя прысмакі. Пір амаль скончыўся, калі перад кліентам апынуўся рахунак. Зірнуўшы на выведзены падлік, студэнт аслупянеў: жахлівая, непамерная сума! Малады чалавек адчайна мацаў, выварочваў кішэні, але дарма: з сабой, як на ліха, не было ні капейкі! Вось дык трапіў! Што ж цяпер рабіць, як выкручвацца?! Хіба ўцякаць?!

Юнак маланкава ўскочыў, ірвануў да выхада і кінуўся па лесвіцы з усіх ног, але праз колькі крокаў ногі перасталі слухацца, нібыта завязлі ў загусцелым кісялі. Хлопец адчуваў блізкую пагоню і працягваў бегчы, у роспачы напружваў астатнія сілы, але на самай справе не мог нават крануцца з месца. Сэрца адначасова працялі страх і сорам, цяжкім каменем наваліліся бездапаможнасць…

Нечакана студэнта абудзіў удар па галаве. Агаломшаны, падхапіўся, з хвіліну няўцямна лыпаў соннымі вачыма, паціраў прымятую падушкай шчаку. Агледзеўшыся, сцяміў: гэта старая гітара, падаючы, грыфам выцяла яго па патыліцы… Хлопец нешта буркнуў і зноў заваліўся на бок, аж рыпнула раскладушка…

Акно — зашклёная чарната, дзе застыў тварожна-белы акрайчык поўні. На стале ў жоўтым прыглушаным святле лямпы — разгорнутыя слоўнікі, спісаныя аркушы, алоўак, абламаны з аднаго канца і востра натачаны з другога… Каля стоса раздрукоўвак — адкінутая флэшка, недапіты кубак моцнай, без цукру, кавы і попельніца ў выглядзе турэцкага туфліка.

Перад пагаслым ад доўгага чакання камп'ютарным маніторам спіць жанчына. Знясілена апусціўшы на рукі раскудлачаную галаву, яна паддалася стоме, відаць, пасля доўгага ўпартага змагання.

Была позняя ноч. На сценах грувасціліся ненатуральна вялікія цені. Гадзіннік — маленькае механічнае сэрца — нетаропка адлічваў пульс пакоя. Схіліўшыся над няскончанымі распрацоўкамі, перакладчыца патрапіла ў абладу сну…

Мроілася нейкая несусвеціца: нібыта начальніца наведалася ў госці з тортам. Трымалася кабінетная фурыя зусім па-хатняму, па-сяброўску (мусіць, была ў гуморы): весела гаманіла, распранаючыся, пасміхалася, жартавала, ідучы з вітальні ў кухню. З такой нагоды яна, пэўна, вырашыла пафарсіць: апранула свой парадны клятчасты жакецік, што наяве рабіла нячаста.

Гаспадыня вырашыла не паказваць здзіўлення, замітусілася, пачала, грукаючы посудам, збіраць на стол. Пакуль жанчына гатавала гарбату, хвалілася пачастункамі і як магла забаўляла госцю, тая ўладкоўвалася ў крэсле бліжэй да акна.

«У самы кут забралася. Відаць, няхутка пойдзе», — міжволі адзначыла перакладчыца і з чароўнай усмешкай паклала начальніцы кавалачак торта. «Клятчасты жакецік» ласаваўся з відавочным задавальненнем і нечакана прапанаваў згуляць у дурня. Гаспадыня крыху сумелася, але адмовіць не выпадала, і, каб улашчыць непрадказальную асобу, жанчына адшукала карты.

— Проста гуляць нецікава, — капрызіў «жакецік», — зробім па-даросламу: я пастаўлю на кон сваю пасаду, але і вы рызыкніце.

«Ну і ну! Хіба яна з глузду з'ехала?!» — мільганула шаленая думка. Але надта ўжо карцела паспытаць удачы, і перакладчыца ахвотна пагадзілася: жартачкі, такі шанц! З апаламяльным нахабствам падначаленая заявіла:

— Мая стаўка — карова!

«Якая карова?! Скуль у цябе карова?!» — вішчаў збіты з панталыку розум, але пярэчыць снам — пустая справа.

— Кіньце, — недаверліва мовіла госця, — вы, мусіць, маніце.

Гаспадыня паціснула плячыма і з самым абыякавым выглядам узяла мабільны тэлефон. Пальцы жвава забегалі па кнопках, а ўнутраны голас спалохана і дакучліва зудзеў: «Хітрыкамі не ўратуешся! Гула табе асмаленая, а не пасада! І пацягнуў жа чорт за язык!..» Але тут — дзіва! — немаведама адкуль на сотавым апынуўся фотаздымак самай сапраўднай цялушкі.

— Вось мая прыгажуня, глядзіце…

Твар начальніцы выцягнуўся, бровы папаўзлі ўгару. Аправіўшыся, яна больш ні пра што не пытался, а толькі няўпэўнена буркнула:

— Малавата будзе…

— Зверху дадам ананас, — перакладчыца хлусіла на праміла бог (а як інача?!), і той нарэшце давялося саступіць.

Гульня для гаспадыні пачалася з расчаравання: ніводнага козыра, а значыць, першы ход за «жакецікам». Начальніца зняла, бы начышчаны самавар, але неўзабаве карта «пайшла» саперніцы. Рэдактарскі кабінет ужо быў гатовы выслізнуць з учэпістых рук уладальніцы і сплыць у далоні дасціпнай кар'ерысткі… Але сон зацямніўся, як старая сапсаваная кінастужка, пачаў згасаць, вытыхаць і пакрысе растаў…

Світала. Ноч, быццам немаладая какетка, шарэла і на вачах губляла шарм і прывабнасць: дыяменты-зоры ператвараліся ў бляклыя пацеркі, чорны аксаміт сутоння — у палінялую бавоўну. Ноч адступала, спяшалася схавацца, а з яе шырокіх рукавоў на дрымотны горад асыпаўся новы дзень. Толькі поўня марудзіла: сцерагла ранішнія сны, аж пакуль залатая рука сонца не ўшчыкнула яе за бледную шчаку. Надышоў час саступіць варту. Што ж, няхай!..

Збоку на поўню лёг блакітны цень ранішнай хмаркі, і, здавалася, яна, Селена, дорыць сонцу таямнічую развітальную ўсмешку: «А ўсё ж я ведаю пра людзей нашмат больш за цябе…»

# Кнігі дзяцей: унікальнасць ці заканамернасць?

**У 1980-я гады ў Швейцарыі праходзіў літаратурны конкурс на лепшую кнігу для падлеткаў. Конкурс ананімны, рукапісы ішлі пад дэвізамі. Урэшце аказалася, што першую прэмію атрымала дзяўчынка чатырнаццаці гадоў: яна найлепш апісала псіхалогію і жыццё падлеткаў, бо каму, як не ёй, іх ведаць. У Фінляндыі ў той жа час жыла дзяўчынка шаснаццаці гадоў — аўтар некалькіх раманаў. У савецкі час праславілася маленькая паэтэса Ніка Турбіна, лёс якой, аднак, склаўся трагічна.**


*Ілюстрацыя Мары Гранпрэ.*

*Лада Ксенафонтава пераносіць сваю гераіню ў свет кніг Дж. Роўлінг, але пры гэтым пераасэнсоўвае і нават перастварае яго.*

Прыведзеныя факты запомніліся. Але потым нічога падобнага сустракаць не даводзілася. Усё ж літаратурная творчасць дзяцей — рэдкая з'ява. Асабліва ў галіне прозы. Тут неабходны жыццёвы досвед, уменне сінтэзаваць назіранні, аналізаваць факты рэчаіснасці, урэшце, пэўны навык пісання, які, безумоўна, фарміруецца не адразу. Мы ведаем геніяльных дзяцей-мастакоў, напрыклад, Надзю Рушаву, цудоўных дзяцей-акцёраў — Яну Паплаўскую, Сашу Лае, Уладзіслава Галкіна, які пачаў здымацца яшчэ ў дзяцінстве, ведаем, што многія пісьменнікі-класікі пачыналі пісаць надзвычай рана (Ё. Гётэ, Г. Флабер, М. Лермантаў, А. Куляшоў). І ўсё ж дзіцячая літаратурная творчасць — з'ява ўнікальная.

Імкненне да фіксацыі сваіх назіранняў узнікае прыкладна ў чатырнаццаць-пятнаццаць гадоў. У гэтым узросце шмат якія падлеткі пачынаюць весці дзённікі, ствараюць вершы. Сёння творчасцю менавіта маладых паэтаў запоўнены інтэрнэт. Гэта натуральная, уласцівая кожнай асобе прага выказацца і данесці свае назіранні, думкі, мары да іншых. Прага, можна сказаць, генетычная, закладзеная глыбока ў свядомасці чалавека. І ўсё ж надзвычай рэдка свае фантазіі маленькім аўтарам удаецца выкласці сістэматызавана, лагічна і аформіць сюжэтна — у выглядзе кнігі. Такі ўдалы вынік творчасці — вялікая рэдкасць. І калі мне трапілася ў рукі аповесць дванаццацігадовай аўтаркі, я зацікавілася феноменам як чалавек, які займаецца псіхалогіяй літаратурнай творчасці і чытае адпаведную дысцыпліну студэнтам.

Кніга «Волшебство наяву. Даниэла в Хогвартсе» Лады Ксенафонтавай выдадзена, праўда, у Кіеве і па-руску, але сама аўтарка — беларуска. На першы погляд здаецца, што твор — звычайны фанфік, якіх з'явілася шмат у свеце пасля выхаду кніг Джоан Роўлінг пра Гары Потэра. Нас, дарослых, таксама зацікавіла надзвычайная папулярнасць англійскай аўтаркі. Кнігі, а затым фільмы паводле цыкла пра хлопчыка-мага шырока разышліся па свеце. Гэта быў, бясспрэчна, выдатнейшы камерцыйны праект — піярыўся ён не проста выключна ўмела і маштабна, а, можна сказаць, геніяльна. Але стаўка зроблена правільна — дзяцей усёй планеты захапілі кнігі і сам галоўны герой. Можна лічыць выключна станоўчым фактам ужо хоць бы тое, што многіх малых гэтыя раманы прывучылі да пастаяннага чытання. А чытаць даводзілася шмат, бо кніг сем і яны тоўстыя. Мне яны здаліся занудлівымі, бо памяць філолага захоўвае многія літаратурныя факты з нашмат большай сілай фантазіі і майстэрствам іх аўтараў, але ў дзяцей свая логіка і сваё ўспрыманне рэальнасці, тым больш рэальнасці казачнай. Яны ўважліва прачыталі кнігі Роўлінг, якія сталі стымулятарам, узбуджальнікам фантазіі, абудзілі прагу да фантастычнага змянення свету. Але што да твора Лады, ён напісаны ў іншым стылі — не занудлівым, а дастаткова лаканічным і сюжэтна дынамічным, з добра распрацаванымі дыялогамі. Гэта першае, што кідаецца ў вочы, — самастойнасць кнігі на тэму цыкла пра Гары Потэра.

Мяркую, падобнай рэчы можна было чакаць. Хто з нас у дзяцінстве не марыў стаць чараўніком і здзяйсняць цуды! Яшчэ ў выключна таленавітага савецкага пісьменніка Мікалая Носава ў яго трылогіі пра Нязнайку герой у нейкі момант дзейнічае з дапамогай чарадзейнай палачкі. Праўда, М. Носаў іранічны ў дачыненні да свайго героя і яго прататыпаў. Мы, чытачы-дзеці, натуральна, пра дарослых прататыпаў любімых герояў не ведалі, але і самі захапіліся марай пра магчымасць чараваць уласнымі рукамі. І ў нас былі не меншыя, а, бадай, большыя ўзбуджальнікі фантазіі: у сваім дзяцінстве мы чыталі неверагодную колькасць самых розных казак — народных і літаратурных, дзе на кожным кроку — цуды, чараўніцтва, незвычайныя прыгоды. Сённяшнія дзеці ў такой вялікай колькасці казак не чытаюць і (як мы высветлілі на філфаку БДУ) не ведаюць самых папулярных, класічных. Затое цыкл пра Гары Потэра быццам замяніў іх усе разам! Англійская пісьменніца ўлавіла тое, што хвалюе кожнае дзіця, — магчымасць не залежаць ад жыццёвых абставін дзякуючы свайму магічнаму ўмельству.

**Як ставіцца нам, крытыкам, да творчасці дзяцей? На мой погляд, абавязкова падтрымліваць, але не захвальваць. Тактоўна скіроўваць. Прапагандаваць у дзіцячай аўдыторыі менавіта як прыклад. Спрактыкаваным аналітыкам уключаць у свае разважанні пра сучасны стан літаратуры.**

Гераіня кнігі Лады Ксенафонтавай Даніэла трапляе ў тую ж школу чарадзейства, дзе вучыцца Гары Потэр, і, безумоўна, заслужыла гэта як узнагароду — аднакласнікі называлі яе «хадзячай Вікіпедыяй». Сапраўды, з першых старонак маленькая гераіня паўстае рухавай, дапытлівай, няўрымслівай, па-свойму чараўніцай, бо здольная ствараць уласныя чарадзейныя светы ў сваёй свядомасці. Далёка не ўсё ў кнізе Лады пазычана з твораў Роўлінг. Апушчаны многія падрабязнасці і сістэмныя сувязі. Дзяўчынка-празаік свабодна абыходзіцца з тым, што дарослая аўтарка вымушана была падрабязна, не так ужо і па-мастацку апісваць. Многія рэчы Ладай проста ігнаруюцца. Напрыклад, прывід Міртл ніколі не з'яўлялася ў калідорах школы, як у кнізе пра Даніэлу. Перад намі — кніга-мара, кніга, набліжаная да пасцішу, — на тэму Гары Потэра, але са сваім сюжэтам і сваім уласным стылем. Мастацкі свет Дж. Роўлінг не запатрабаваў поўнага аднаўлення ў кнізе беларускай аўтаркі — дастаткова, што Роўлінг дала штуршок фантазіі, стварыла абаяльнага героя. Таму ўсе абвінавачванні ў неадпаведнасці «канону», а іх шмат, адразу можна адвесці. «Канон» — усяго толькі структурны элемент мастацкага свету аповесці.

Сапраўды, Лада агаляе прыём, як і належыць у пасцішы, і прама гаворыць пра літаратурную аснову свайго твора. Вось гераіня трапляе ў школу чарадзейства: «Данка акінула поглядам велізарную залу. Усё здавалася новым і нязвыклым, а ў той жа час такім родным і знаёмым. Знаёмым па кінастужках, якія глядзела мноства разоў, і тоўстым, перачытаным столькі ж разоў кнігам Джаан Роўлінг з жаўтаватымі, цёплымі старонкамі і залатымі літарамі на вокладках».

Неабходна сказаць, што Даніэла спадзявалася на такое навучанне, якое стане «прыгодай, а не надакучлівым абавязкам», але вучоба ў школе чарадзейства не так ужо захапляе дзяўчынку. Аказваецца, што ўнікальная навучальная ўстанова мала чым адрозніваецца ад звычайнай школы. Па вялікім рахунку, гэта тое, што ў кнізе пра цуды выглядае сапраўдным рэалізмам: дванаццацігадовая аўтарка яшчэ не можа ўявіць сабе іншыя методыкі і формы навучання акрамя тых, да якіх прызвычаілася. Таму міжволі ў творы прабіваецца расчараванне гераіні. Яе дасціпнасць, гнуткі розум, жывы характар скіроўваюцца на іншае — на адносіны паміж ёю і Гары Потэрам. Яны сябруюць. І разам змагаюцца супраць Тома Рэдла, які на пачатку кнігі ўвасабляе абсалютнае зло — да перамогі яго Гары Потэрам у двубоі.

Фактычна стасункі з Рэдлам робяцца галоўнай спружынай фабулы кнігі. У перыпетыях сюжэта ёсць лагічныя няўвязкі, скажам, у адных выпадках аўтарка памятае пра канон, у іншых — абсалютна яго ігнаруе. І гэта, безумоўна, можа выклікаць пярэчанні і нават крытыку з боку прыхільнікаў кніг. Але літаратурны твор неабходна ацэньваць па яго ўласных законах. Тут ёсць свая мастацкая ўмоўнасць, якую варта зразумець і прыняць. Аўтарка знаходзіцца пад уплывам любімых кніг і ў той жа час перарасла іх. Яе цікавіць ужо не погляд васіліска, ад якога звычайна камянеюць (але з яе героямі гэтага не адбываецца), а законы чалавечай псіхалогіі, стасункі паміж людзьмі, перамена жыццёвых установак, як гэта здарылася з Томам Рэдлам. Саперніцтва паміж юнакамі (а ў арыгінале Том — стары чалавек), іх двубой, подзвігі — усё, чым захапляюцца падлеткі, адыходзіць на другі план. «І раптам яна зразумела, як ёй добра з Гары. І не таму, што ён герой, які выратаваў магічны свет, а проста таму, што ён такі добры, разумны і смелы».

У творы юная пісьменніца дэманструе, як і яе гераіня, выдатную эрудыцыю. Скажам, адчуваюцца тут алюзіі на Біблію — кобра абвіваецца вакол дрэва, пад якім размаўляюць закаханыя. Акрамя дынамічнага разгортвання сюжэта ў кнізе Лады ёсць і клопат пра дакладнасць апісанняў, мастацкія дэталі. Напрыклад, дробы ў яе школьным сшытку як быццам ажываюць і «змяяцца хітрай усмешкай».

Гэтыя і многія іншыя эстэтычныя знаходкі Лады Ксенафонтавай сведчаць, што ў яе асобе мы маем перспектыўнага маладога аўтара, чалавека з яўнымі літаратурнымі здольнасцямі. У яе хапіла працалюбства і настойлівасці, каб аформіць свае казачныя фантазіі ў вербальную форму з уласнай фабулай і імкненнем да распрацоўкі характараў. Бясспрэчна, не варта патрабаваць ад маладой аўтаркі таго ж майстэрства, што і ад дарослых пісьменнікаў. Перад намі проба пяра. Але ў многім — надзвычай важны прэцэдэнт, бо можа стаць прыкладам для яе аднагодкаў. Уласна, для іх яна і пісала. Кніга атрымалася душэўная, добрая, як і належыць казцы.

**Імкненне да фіксацыі сваіх назіранняў узнікае прыкладна ў чатырнаццаць-пятнаццаць гадоў. У гэтым узросце шмат якія падлеткі пачынаюць весці дзённікі, ствараюць вершы.**

Увогуле ж на першы твор маленькай пісьменніцы можна паглядзець з розных пазіцый. Скажам, з такой: як ставіцца нам, крытыкам, да творчасці дзяцей?

На мой погляд, абавязкова падтрымліваць, але не захвальваць. Тактоўна скіроўваць. Прапагандаваць у дзіцячай аўдыторыі менавіта як прыклад. Спрактыкаваным аналітыкам уключаць у свае разважанні пра сучасны стан літаратуры. Дзіцячыя кнігі не могуць паўплываць на нацыянальны літаратурны працэс. І ўсё ж, калі ўжо яны з'явіліся, то патрабуюць уважлівага разгляду — хоць бы для мэт адукацыі, для развіцця слоўнай творчасці вучняў.

Звяртае на сябе ўвагу і іншы момант. Свежасць, наіўнасць погляду на жыццё — прэрагатыва, безумоўна, дзяцінства. Да дарослых аўтараў іншыя патрабаванні. Але эмацыянальнасці і сіле фантазіі дзіцяці могуць пазайздросціць залішне рацыянальныя прафесіяналы. І вось тут варта нам усім задумацца: што страцілі мы на жыццёвай дарозе?

**Таццяна ШАМЯКІНА**

# «У Вілейцы?!»




Алена Турава працягвае радаваць: дзяцей, можа быць, дарослых, якія глядзелі яе фільмы, але больш за ўсё, напэўна, мяне.

Лёгкі, вытанчаны стыль, вельмі бойкі, не строга літаратурны (пачытаўшы, вы зразумееце, што я маю на ўвазе), але вытрыманы цягам усёй кнігі. Не памятаю, хто сказаў, што словы на сваім месцы мае вялікую сілу. У Алены Туравай усе словы на сваім месцы, і гэта дазваляе ёй «эканоміць моўныя сродкі», пазбягаючы шматслоўя, якое заўжды пустое. Гэтай сваёй невераготнай па сённяшнім рахунку якасцю кніга прыцягвае да сябе і не адпускае да апошняй старонкі.

Вы ўжо знаёмыя з іншай кнігай Алены Туравай — «Рыжык у Залюстрэччы», якая таксама пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда» і мела падобныя якасці. Яшчэ адна агульная іх рыса — гульня з цытатамі, вобразамі, спасылкамі на класічную дзіцячую літаратуру. Тут самая яўная спасылка — на «Кентэрвільскі прывід» Оскара Уайльда. Гэта нават не спасылка, але перапрацоўка і пераасэнсаванне. Акрамя ўайльдаўскага следу мы бачым гульню з «Дракулам» Брэма Стокера: ратаваць сямейства ад прывіду з'яўляецца экзарцыст Ян Хмельсінг, які падобны нават не да кніжнага прадка, але да яго ўвасаблення ў фільме «Ван Хельсінг» 2004 года: паліто, капялюш закрывае шчаціністы твар, баявы арсенал за плячыма — усё тут. Таксама ў выкляты дом наведваюцца Браты Грым, Вільгельм і Якаў, праўда, не ў якасці пісьменнікаў, але як прыватныя прадпрымальнікі. Трэці след пакінуў «Фаўст» Гётэ, а дакладней — чорны пудзель Мефіста. Ёсць у кнізе «прывітанні» ад Гогаля, Кэрала, Булгакава і мастака Рэпіна. Як вы зразумелі, «Кіндэрвілейскі прывід» — гэта фантастычны ўва ўсіх сэнсах мікс з гатычных і псеўдагатычных матываў. Агулам феерыю можна назваць пародыяй на пародыю на гатычны раман.

Але вернемся да наследавання Уайльду. Турава пазычае не толькі назву, але збольшага і сюжэт. Як і ў арыгінале, існуе сядзіба, над якой навіс стары праклён у выглядзе прывіду. Там — Сімон, у нас — Сямён. І той і другі некалі забілі сваіх жонак. У абодвух творах у сядзібу прыязджае сямейства, якое прывід спрабуе выгнаць з дома. Алена Турава пазычае ў спадара Оскара нават братоў-блізнят, неўтаймоўных гарэз.

«Кентэрвільскі прывід» Уайльда пісаўся як сатыра на грамадства XIX стагоддзя; магчыма, такі настрой арыгінальнага твора натхніў спадарыню Алену на развагі больш глыбокія, чым у папярэднім «Рыжыку ў Залюстрэччы».

«Першы паверх» праклятай сядзібы складае сама гульня, перапляценне алюзій, смех дзеля смеху. Тут весела, цікава, тут можна пасмяяцца. Але мы ўздымаемся на другі паверх і ўжо адсюль глядзім на гэтую гульню.

Цяпер мы бачым яшчэ не сатыру на сучаснае жыццё, але ўжо і не іронію з яго: смех ахоплівае моладзевыя субкультуры, «прымхі і забабоны», якія дасюль жывыя, праблемы бізнесменаў (гісторыя з падаткам у 300 %, а таксама беды вытворцаў радасці — прадзюсараў; цікава, што пра гэта пісала ўжо Алёна Беланожка); тут жа — жыццё шматдзетнай сям'і, іх барацьба з безграшоўем і як вынік — заключэнне, што сям'я ёсць і самы галоўны скарб, і самая магутная крыніца нашай сілы.

Пераходзім на «трэці паверх». Вось яно, тое, што ў вэрхале было незаўважна: трывога за гістарычную спадчыну, а шырэй — за лёс нашага агульнага Дома. Краіна, як і стары дом, населена прывідамі, якія пачынаюць шкодзіць, калі мы да іх не прыслухоўваемся; гэтыя прывіды, наша мінулае, адначасова ўвасабляюць і загану — у тым ліку састарэлы погляд на рэчы, які замінае развівацца, — і лепшае, што ў нас ёсць, саму спадчыннасць. Гэтыя прывіды — таксама частка нашай сям'і; у рэшце рэшт, менавіта яны будавалі дом, у які мы прыйшлі і трымаемся часам нахабна. Паглядзіце: прадпрымальны бацька сямейства хоча зрабіць незмывальную крывавую пляму прыманкай для турыстаў, а яго дзеці — ператварыць рыцарскія даспехі ў трансформераў. Можна зразумець абурэнне далёкага продка. І бяда не толькі ў тым, што падчас бітвы паміж продкам і нашчадкам руйнуецца старая сядзіба.

Паверхам вышэй у сваім пакойчыку сядзіць дзяўчо, якое спрабуе пабудаваць свой, хоць і лялечны, домік. Дзяўчо разважае: «Тата — гэта хлопчык. А хлопчыкі гуляюць у незразумелыя гульні, мы ім будзем толькі замінаць». Самае ж страшнае — калі дрыжаць вялікія сцены, маленькі домік дзяўчынкі развальваецца.

Вось пра што кніга.

# Птушыныя казкі

*Уяві: за туманам, за дымкай,*
*Несучы шмат святла і надзей,*
*У цярновым вянцы невідзімкай*
*Скача князь Усяслаў Чарадзей.*

Спачатку, убачыўшы, што кніга Віктара Гардзея «Мудры воран» Выдавецкага дома «Звязда» напісана ў вершаванай форме, я мела даволі скептычны настрой. Справа ў тым, што часта — думаю, вы са мной пагодзіцеся — дзіцячыя кнігі, пісаныя ў рыфму, не адрозніваюцца высокай мастацкай якасцю. Зарыфмаваўшы, аўтар прыкрывае сваю нямогласць, брак ідэй, адсутнасць жыцця ў слове. Праўда, той факт, што ўсе гэта заўважаюць, паказвае, як мала дзейнічае падобны рыфмакамуфляж.

І як вы ўжо здагадаліся, Віктар Гардзей у нашым выпадку — шчаслівае выключэнне. Хоць Мудры воран гаворыць вершамі, яны ўспрымаюцца без усялякага ўнутранага супраціўлення. Вялікая рэч: кніга напісана вершам не таму, што аўтар паставіў такую мэту, але таму, што так яна і нараджалася; гэта з'ява натуральная, і чытач гэта адчувае. Голас аўтара — не гарланне драпежнага крумкача, згаладалага па чытачу. Спакойная, ураўнаважаная інтанацыя, падсвечаная вялікім досведам аўтара, талентам і гумарам, ціхім і лагодным, інтэлігентным. Зрэшты, такі і сам Віктар Гардзей — быццам бы ціхі. І ў гэтым «быццам бы» — уся соль.

«Мудры воран» працягвае традыцыю Васіля Віткі, Рыгора Барадуліна, самога Віктара Гардзея. Кніга мае тры раздзелы: «Лебядзіная песня» (легенды), «Целяшоў дуб» (паданні), «Чаму ў зайца хвост кароткі» (прымхі, павер'і, казкі). Першыя два раздзелы будуць цяжкія для ўспрымання малым дзеткам, таму чытаць іх лепей з дарослымі. А вось трэці, з кароценькімі бойкімі вершыкамі, прыйдзецца якраз да густу дзятве — перадусім таму, што яны смешныя. Гэтыя вершыкі, як і мае быць, павучальныя. Да таго ж, у некаторых з іх Віктар Гардзей іранізуе з нашага свету, а расчытваць аўтарскую іронію заўсёды надзвычай прыемна: адчуваеш сябе гэткім змоўнікам. У вершы «Сава» я, напрыклад, угледзела самога аўтара. Цудоўны аўтапартрэт. Звярніце ўвагу таксама на верш з красамоўнай назвай «Сучасная курыца».

Калі ж вярнуцца ў пачатак, то першы раздзел можна назваць вершаванай энцыклапедыяй фаўны Беларусі. Кожны «артыкул» у ёй пабудаваны па схеме «ўласна легенда (адкуль узялася жывёла) — звычкі лірычнага героя, яго цяжкі побыт — квазіфіласофскае завяршэнне». Напрыклад, «Нічога лішняга ў прыродзе дзікай, / І бедны воўк пры гэтым не ўбаку. / Ці Англіі зайздросціць невялікай? / Ёсць помнік там апошняму ваўку». Дарэчы, цудоўна, што творы напісаныя рознымі памерамі. Так аўтар унікнуў эфекту «каніцелі», бясконцай песні.

Кніга пераказвае як вядомыя гісторыі — пра кнігаўку, бусла, зязюлю, — так і не надта распаўсюджаныя (пра хамяка і яго зернясховы, якія ўратавалі ад галоднай смерці цэлы народ). На карысць творам трапныя натуралістычныя заўвагі, а таксама — назвы некаторых вершаў, гучаць якія даволі ваяўніча — «Вавёрка і яе помста», «Чаму лютуе расамаха» (хлопчыкам спадабаецца, асабліва з улікам іх дасведчанасці ў марвэлаўскіх коміксах). Далей размова ідзе ўжо не пра жывёльны свет, але пра гісторыю горадоў і легендарных асоб. Вось вы, напрыклад, ведалі, што Авідзій пахаваны на Палессі?..




Асобнай увагі заслугоўвае мастак Віталь Дударэнка, які не проста стварыў атмасферныя ілюстрацыі, вытанчаныя і разам з тым запамінальныя, але патрапіў у настрой кнігі.

Калі б нехта мужны ўзяўся сёння за стварэнне анталогіі сучасных дзіцячых твораў, вершы Віктара Гардзея з кнігі «Мудры воран» немінуча туды патрапілі б.

# Каралі і смаўжы

**Кароль**. *Няма нашага Міністра. Сарока праглынула. Застаецца ўзнагародзіць яго пасмяротна ордэнам салатнага ліста.*

**Канцлер**. *Будзе зроблена. Як шкода нашага дарагога Міністра. Як шкода!..*

**Кароль**. *Не трэба яго шкадаваць. Ён загінуў героем за тое, каб жыло і красавала наша каралеўства. Нашы ўнукі і праўнукі будуць падрастаць з ягоным імем на вуснах.*




Кніга Зінаіды Дудзюк «Канікулы на астэроідзе» (Выдавецкі дом «Звязда») складаецца з п'ес, а гэта не самы папулярны жанр дзіцячай літаратуры — што прыцягвае тым большую да іх увагу. Адкрываецца кніга творам «Лятавіцы». Мараль яго няхітрая — людзі легкадумныя, каханню здраджваць нельга. Нічога новага Зінаіда Дудзюк не сказала, але ў літаратуры не больш за пару дзясяткаў сюжэтаў, так што справа ў іншым — як падае пісьменніца праблему. Героі нагадваюць маскі: за кожным замацавана пэўная рыса. Вылучае п'есу хіба атмасфера, створаная імёнамі герояў і вобразам саміх лятавіц, апалых зорак. Але наступны твор карэнным чынам змяняе сітуацыю. Героі — самі ж дзеці — ажываюць, гавораць ад сябе, а не ад місіі, зададзенай аўтарам. З'яўляецца і дынаміка, і сапраўдны антыгерой (легкадумны прынц з папярэдняй п'есы на такога не цягнуў), які да ўсяго яшчэ і змяняе знак «мінус» на «плюс».

«Гадзіннік Лікбога» спалучае цягу да міфалогіі з першай п'есы і праблему правільнага выбару з другой. Самае ж цікавае, што найбольш злавеснымі і рэалістычнымі атрымаліся персанажы другога плана — Злыдні (іх песенка немінуча нагадвае пра «Сон на кургане» Купалы).

П'еса «Пралеска» працягвае міфалагічную лінію ў зборніку. Хлопчык ідзе за матылём, трапляе ў іншы свет, сустракаецца з міфічнымі істотамі, якія адорваюць яго магічнымі артэфактамі, а потым высвятляецца, што час тут ідзе намнога хутчэй і мінула насамрэч дзесяць год… Усё гэта ўжо было.

Зусім іншага кшталту п'есы «Кароль смаўжоў» і «Сінязорка», блізкія па духу творам Радары і Носава. Дзеці будуць смяяцца з глупства дарослых, а дарослыя — скрозь слёзы. Праблемы старыя як свет: свабода, сумленне, мужнасць і г. д. Але раскрываюцца яны арыгінальна. Прынамсі, нідзе я не сустракала аповед пра вайну смаўжоў і вусеняў. Падобнае — так, але не такое. У гіпатэтычную анталогію дзіцячай літаратуры, пра якую мы згадвалі раней, абавязкова трэба ўключыць п'есу «Кароль смаўжоў». На тое ёсць яшчэ адна прычына — актуальнасць п'есы менавіта для беларускіх дзяцей.

У «Сінязорцы» аўтар зноў выкарыстоўвае міфалагічныя матывы і зноў спакушаецца на экзатычныя імёны. Гэта апраўдана, бо прыцягвае ўвагу гледача. Яшчэ адзін матыў — адказнасць за свае ўчынкі, абавязак кожнага спачатку думаць, а потым дзейнічаць і не давяраць безаглядна чужым загадам. Носьбітамі гэтых думак становяцца робаты, героі некалькіх п'ес, дзе яны прыслужваюць злым персанажам. Аўтарка паказвае, што гэтыя ж робаты здольныя і на добрыя ўчынкі, але… Але.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Чацвёрты летапіс

Прэзентацыя другога выдання «Летапісу жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова» (аўтар — Тэрэза Голуб) адбылася ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна. Падчас сустрэчы размова датычыла не толькі гісторыі стварэння кнігі, але і запатрабаваных жанраў навуковай літаратуры, таямнічых лістоў А. Куляшова да Алесі Карыткінай, адметных рыс вядомага паэта…

## ЖАНР ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

Першае выданне «Летапісу жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова» пабачыла свет у 2012 годзе. Па словах выдаўца Георгія Кісялёва, кніга разышлася хутка: цікавасць да яе выявілі і бібліятэкі, і ўстановы кнігагандлю. Гэта чацвёртая кніга такога жанру ў беларускім літаратуразнаўстве — пасля летапісаў, прысвечаных Якубу Коласу, Міхасю Лынькову, Максіму Гарэцкаму. Галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская навука» адзначыў, што гэты жанр з'яўляецца вельмі запатрабаваным, але, на жаль, слаба асвойваецца беларускімі літаратуразнаўцамі: «выданне кніг залежыць ад даследчыкаў, — як кажуць, кадры вырашаюць усё».

На думку акадэміка Міхася Мушынскага, летапісы жыцця і творчасці — «адзін з самых перспектыўных напрамкаў у развіцці беларускай літаратуры і беларускага літаратуразнаўства. Тут спалучаны творчасць, прыватнае жыццё чалавека, яго адносіны да іншых літаратараў, радавод, перапіска і многае іншае. Калі супаставіць і паглядзець на пісьменніка ў кантэксце шырокіх стасункаў з асяроддзем, то можна ўбачыць, што такое індывідуальнасць пісьменніка, чым ён адрозніваецца ад іншых, у чым яго заслуга перад прыгожым пісьменствам, навуковай думкай і грамадствам». Натуральна, размова пра адметныя рысы літаратуразнаўчага летапісу была б немагчымай без выдатнага прыкладу гэтага жанру — чарговай кнігі Т. Голуб, тэкстолага з дваццаціпяцігадовым стажам, аўтара многіх публікацый і некалькіх навуковых выданняў.

## ДА ГЛЫБІНЬ...

«Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова» змяшчае галоўныя факты з біяграфіі і літаратурнай дзейнасці паэта — ад нараджэння да пастановы Савета Міністраў БССР аб выданні акадэмічнага збору твораў А. Куляшова. Т. Голуб была адным з супрацоўнікаў Інстытута літаратуры, якія распачалі працу па ажыццяўленні гэтага выдання. Даследчыца збірала звесткі пра асноўныя падзеі жыцця і творчасці А. Куляшова, але падрыхтоўка навукова каменціраванага збору твораў была перапынена. Па словах літаратуразнаўца Міхася Кенькі, «Летапіс…» стаў адзіным томам з запланаваных сямі, адзіным кавалачкам вялікай працы, якому давялося пабачыць свет. Т. Голуб вырашыла, што сабраны і сістэматызаваны матэрыял, якому было аддадзена шмат сіл і часу, не павінны назаўсёды «легчы ў стол»…

Юбілейнае выданне ўтрымлівае новыя звесткі пра стасункі А. Куляшова з іншымі пісьменнікамі, яго ўдзел у розных мерапрыемствах. У параўнанні з першым выданнем кніга выйшла ў цвёрдай вокладцы, дапоўнена новымі ілюстрацыямі. Так, цікавым матэрыялам пра А. Куляшова як перакладчыка і асобу з'яўляюцца яго адказы на анкету часопіса «Вопросы литературы», што праводзілася да 175-годдзя з дня нараджэння А. Пушкіна.

Па ўласных словах, Т. Голуб заўсёды імкнулася падсвяціць факты прыкладамі: напісаны твор — можна звярнуцца да рэцэнзіі альбо водгуку, адбылася значная падзея — можна прывесці радок з ліста, дзённіка, успамінаў. «Кожны факт у кнізе вельмі змястоўны, паказальны, наводзіць на роздум, — адзначыў М. Мушынскі. — Якую б каляндарную пазіцыю мы ні ўзялі, аўтар не толькі інфармуе пра падзею, але і раскрывае псіхалагічны стан, расказвае, якія былі ўражанні, як яны «леглі» на твор. У выніку твор робіцца цікавым, адмысловым, ён мае дачыненне і да нас! Біяграфія пераплятаецца з творчасцю, і гэта дапамагае глыбей зразумець змест напісанага: якія прататыпы, якія падзеі ў яго аснове. Жыццёвае дазваляе пранікнуць у глыбіні мастацтва, падказвае, як нараджаўся твор, чым ён з'яўляўся для пісьменніка. Такім чынам мы пачынаем уяўляць псіхалогію творчасці паэта, а ў гэтым сутнасць далучэння да культуры!» Да таго ж, у кнізе «вельмі поўна вызначана кола асоб, з якімі меў стасункі А. Куляшоў, раскрыта псіхалогія асяроддзя».

М. Кенька падкрэсліў, што ў «Летапісе…» прываблівають і залацінкі ўспамінаў, і новыя штрыхі да біяграфіі паэта. Успаміны пра А. Куляшова зрабілі запамінальнай і прэзентацыю кнігі. Калі галоўныя моманты з расповеду Уладзіміра Берберава — старэйшага ўнука А. Куляшова — можна знайсці ў лютаўскім нумары «Нёмана», то пляменнік паэта Віталь Маслоўскі многія рэчы распавёў упершыню.

## «ПАБЕДА» І ФУТБОЛ

Асоба паэта ў многіх прамоўцаў выклікала выключны піетэт, узнёслае і трапяткое стаўленне. Вядома, даследчык, які прысвяціў дзесяцігоддзі асэнсаванню творчасці адзінага пісьменніка, пачынае ўспрымаць свайго галоўнага паэта даволі незвычайна. А Куляшоў яшчэ любіў і піва з ракамі, лавіў рыбу ў роднай Бесядзі, глядзеў па тэлебачанні футбол і розныя высокія пасяджэнні. Ён прыязджаў у лес, хадзіў і слухаў як зачараваны. А для вясковых хлапчукоў самым цікавым было дабрацца да лесу на ўнікальнай «Пабедзе», якой не меў у раёне ніхто. Паэт любіў слухаць, як плёхаецца ў рацэ рыба, а пляменнік сустракаў яго гарой ракаў — не сто, а добрых трыста, чатырыста штук!

Цікава, што кіроўцам у паэта працаваў той самы Іван Яртымік, які вазіў Янку Купалу. Куляшоў ставіўся да кіроўцы з выключнай павагай, і сям'я ніколі не сядала есці, пакуль не павячэраў І. Яртымік. Дарэчы, на вёсцы Куляшова клікалі Кадзікам, імя Аркадзь гучала для сялян нязвыкла. Запамінальнымі падзеямі для Віталя Маслоўскага былі паездкі на раку, калі дзятва дапамагала мыць машыну, наведванне футбольных матчаў на стадыёне «Дынама» — у кампаніі Алеся Кучара і Віктара Саковіча. У. Бербераў тлумачыў схільнасць А. Куляшова да гульні ў шахматы і гульні ў карты патрэбай заўсёды практыкавацца ў камбінаторыцы. Напэўна, з гэтай падставы паэт быў таксама футбольным і хакейным аматарам.

На прэзентацыі знайшлося месца і для лірычных эпізодаў: артыстка Зінаіда Феакцістава прачытала вядомы маналог Таццяны з «Яўгенія Анегіна», перакладзенага А. Куляшовым на беларускую мову, а даследчыца Людміла Хрышчановіч распавяла пра сваю сустрэчу з Алесяй Карыткінай (па шлюбе — Белазаравай). Аляксандра Васільеўна не толькі захоўвала лісты А. Куляшова, але і мела сшытак, у якім былі занатаваны ўспаміны пра паэта, уражанні юнацтва, думкі пра колішнія стасункі. Фрагменты з лістоў выкарыстаны ў «Летапісе жыцця і творчасці А. Куляшова», а дзённік Алесі пакуль знік з даляглядаў беларускага літаратуразнаўства (верагодна, ён застаецца ў Алесінай дачкі Кацярыны). На сустрэчы прагучала і знакамітая песня «Алеся» — у выкананні шаноўных навукоўцаў!

Відаць, што і літаратуразнаўцы, і сваякі паэта захоўваюць светлую памяць пра А. Куляшова. Па словах Т. Голуб, пісьменніку пашанцавала нарадзіцца на пачатку года: выстаўкі, канферэнцыі, сустрэчы могуць ладзіцца яшчэ доўга, што будзе нагодай для новых публікацый. Але было б выдатна, каб працяг мела не толькі святкаванне юбілею А. Куляшова, але і выданне «летапісаў жыцця і творчасці» іншых самых значных беларускіх пісьменнікаў!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Віецца дым над комінам...

Месца нараджэння Аркадзя Куляшова, як добра вядома, — мястэчка Саматэвічы, што ў Касцюковіцкім раёне, на Магілёўшчыне. Пасля Чарнобыльскай аварыі Саматэвічы апынуліся ў зоне адчужэння, яны перасялены. А жыццёвыя шляхі-дарогі неаднойчы прыводзілі А. Куляшова і ў суседні з Касцюковіцкім Хоцімскі раён.

Паэт неаднаразова бываў як у самім Хоцімску, дзе працяглы час (больш як 50 гадоў) жылі яго бацькі, так і ў недалёкіх ад райцэнтра вёсках (Ялавец, Альшоў, Бяседавічы, Язапоўка), дзе ў розныя гады настаўнічала яго маці Кацярына Фамінічна Ратабыльская.

Дагэтуль у гарадскім пасёлку Хоцімск захаваўся дом на вуліцы Камсамольскай. А на сядзібе памянёнага дома ў глыбіні саду, які вырошчваў і даглядаў яшчэ да вайны бацька паэта Аляксандр Мікалаевіч, стаіць «будачка», дзе сям'я жыла пасля вайны, у час якой хата згарэла. «Будачка», як усе яе звалі, прыкметная тым, што служыла А. Куляшову рабочым кабінетам — тут ён напісаў паэму «Новае рэчышча», адзначаную Дзяржаўнай прэміяй СССР.

Сядзіба, на якой збудавана хата, была прыдбана маім дзедам Аляксандрам Мікалаевічам яшчэ да вайны. У 1935 годзе купіў ён яе ў спадара Мікалая Майсеевіча Смарчкова. З сядзібай майму дзеду адышлі невялікі драўляны дамок, некаторыя гаспадарчыя пабудовы і вялікі сад.

Пасля вайны быў пабудаваны новы дом. У звестках з «Летапісу жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова» за 1946 год знаходзім пацвярджэнне, што паэт, які прайшоў цяжкімі ваеннымі дарогамі, звездаў на сабе, як апынуцца без даху над галавой, пастаянна турбуецца пра бацькоў, непакоіцца, каб дапамагчы ім у будаўніцтве новай хаты. У тым годзе А. Куляшову была прысуджана Сталінская прэмія першай ступені за паэму «Сцяг брыгады», і атрыманыя грошы пайшлі на будаўніцтва.

Менавіта тады А. Куляшоў стварыў свой вобраз хаты, якая дае прытулак людзям, увасабляе аднаўленне разбуранага вайной жыцця людзей на вызваленай зямлі. Пра гэта ў 1946 годзе быў напісаны верш «Дом».

*Яшчэ вокны ягоныя*
*Небам зашклёны.*
*А ўжо здаецца,*
*Што выгляд зменіўся ягоны.*
*Гэткім зрабіўся ён,*
*Што нават хмарка, і тая*
*Стала над домам*
*І далей плысці не жадае,*
*Стала над ім нерухома,*
*А людзям здаецца,*
*Што гэта з коміна*
*Дым першы віецца.*

У 1948 годзе новая хата была пабудавана. Шмат хто за мінулыя больш як 60 гадоў жыў, выхоўваўся пад яе дахам, шмат хто мог бы сказаць, што менавіта ёй абавязаны сваім станаўленнем. А хрэстаматыйны верш «Я хаце абавязаны прапіскаю...» створаны А. Куляшовым акурат 50 год таму. У назве, у першым радку галоўнае месца займае слова «хата» — сімвал, збіральны вобраз роднага, блізкага, цёплага гнязда, куды з радасцю вяртаешся пасля доўгіх дарог.

З мэтай увекавечання памяці народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова Савет Міністраў БССР у 1978 годзе прыняў пастанову, дзе прызначалася надаць імя Куляшова Магілёўскаму дзяржаўнаму педінстытуту, Саматэвіцкай сярэдняй школе і адной з вуліц горада Мінска. Вуліца гэтая знаходзіцца ў Заводскім раёне, якраз у тым напрамку, якім паэт заўсёды ехаў па Магілёўскай шашы ў свой крынічны край. Добра, што гэта зроблена. Але подпіс на памятнай шыльдзе на будынку № 2/70 выкананы на рускай мове. Чаму?



*Хата бацькоў Аркадзя Куляшова ў Хоцімску. Абудавана ў 1946 годзе на сродкі паэта ад Дзяржаўнай прэміі СССР, прысуджанай за паэму "Сцяг брыгады". Адно з апошніх месц адпачынку паэта.*

Хата ж у Хоцімску, на вуліцы Камсамольскай, стаіць і да гэтага часу — трохі абноўленая, пафарбаваная. Магу сказаць, што і я абавязаны гэтай хаце прапіскаю. Мы, цяперашнія гаспадары, даглядаем яе, не пакідаем дом бацькоў паэта і дзядоў нашых.

Віецца дым над комінам... Жыве хата. Жыве памяць пра паэта! Людская памяць.

**Віталь МАСЛОЎСКІ**

*Паралелі*

Яна пераклала кнігу Святланы Алексіевіч на французскую мову, з'яўляецца сузаснавальніцай рускай серыі выдавецтва «Вердзье» і мае ўласны забабон — не адкрываць толькі што атрыманы свежаадрукаваны асобнік кнігі, каб не пабачыць там страшнай памылкі. «А потым, прыкладна праз 10 гадоў, калі я хачу паказаць нейкі ўрывак студэнтам, то гартаю кнігу, якую сама калісьці пераклала і выдала, канечне, знаходжу памылку, але прайшло столькі часу, і гэта для мяне ўжо не такі вялікі шок», — смяецца спадарыня Анн. Пра адметнасці працы перакладчыцкага семінара ва ўніверсітэце Сарбона (Парыж), уласнае стаўленне да перакладу і выбар кніг для перастварэння па-французску прафесар Сарбоны Анн Кальдэфі-Факар распавяла падчас канферэнцыі «Пераклад і перакладазнаўства ў XXI ст.: стан і перспектывы», што прайшла ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Пагутарыла шаноўная госця і з карэспандэнтам «ЛіМа».

# З рускай — на французскую



### ПЕРАКЛАДЧЫЦКІ СЕМІНАР? ВУЛЬГАРШЧЫНА!

— Мой прафесар і кіраўнік Жак Катто, буйны спецыяліст па Дастаеўскім і адзін з самых вядомых даследчыкаў рускай літаратуры, у канцы 1960-х вырашыў стварыць у Сарбоне асобны семінар, прысвечаны вывучэнню літаратурнага перакладу. Гэта быў скандал, бо лічылася, што пераклад — не навуковы занятак, і для Сарбоны такая «навінка» крыху вульгарная, таму пра яе нават гаворкі не можа весціся. Але прафесар быў вельмі аўтарытэтны і вельмі настойлівы ў сваім рашэнні, таму да яго прыслухаліся. Семінар існуе і сёння, але цяпер яго вяду я.

Павінна сказаць, што гэта адзіны семінар у Францыі, дзе займаюцца мастацкім перакладам рускай літаратуры, і дзе кожны год — новы набор студэнтаў. Я стараюся яго развіваць. У нас многія з'явы сталі іншымі, да прыкладу, 50 працэнтаў нашых студэнтаў — з Расіі. Раней семінар наведвалі толькі французскія студэнты, і мы думалі толькі пра тое, што трэба перакладаць рускую літаратуру на французскую мову.

**…чым больш працую ў гэтым кірунку, тым больш пераконваюся, што літаратура не паддаецца перакладу.**

Але калі палова студэнтаў родам з Расіі, то ўмовы зусім іншыя. Таму мы вырашылі адкрыць і новы кірунак працы — пераклад з французскай на рускую мову. Гэта вельмі цікава і для студэнтаў, і для нас, выкладчыкаў, вельмі карысна і пазітыўна. Студэнты працуюць разам, дапамагаюць адзін аднаму, і семінар стаў духоўна і інтэлектуальна багацейшы. Гэта відавочна.

### НАВУКА І МАЙСТЭРСТВА…

— Нельга сказаць, што ў мяне з адміністрацыяй Сарбоны нейкія цяжкасці, як было ў майго прафесара, бо цяпер пераклад у модзе. Наш семінар карыстаецца досыць вялікай папулярнасцю, але, з іншага боку, меркаванне пра тое, што пераклад — не навуковая дзейнасць, усё яшчэ актуальнае. У прынцыпе, я і сама не магу сцвярджаць, што пераклад — гэта навука. Ніякай навукі тут няма. Напэўна, таму ў Францыі, асабліва ў Сарбоне, не прынята займацца тэорыяй перакладу. З гэтага пункту гледжання ў нас вельмі мала цікавых работ, няма асобнай школы тэорыі перакладу ці работ па перакладазнаўстве.

Многія літаратурныя перакладчыкі цяпер прытрымліваюцца меркавання пра тое, што пераклад — гэта мастацтва. А я лічу — не. Ёсць думка, што тыя літаратурныя перакладчыкі, якія лічаць сваю справу мастацтвам, звычайна самі хацелі б быць пісьменнікамі, але не ўдалося. Яны карыстаюцца працай, творчасцю, талентам аўтараў, чые кнігі перакладаюць. Я тлумачу на семінары студэнтам: можа, вы вельмі таленавітыя і адораныя людзі, але гэта не значыць, што пераклад — мастацтва. Аднойчы на стэндзе Кніжнага салона ў Парыжы я проста перажыла шок, таму што пабачыла выданне перакладу рамана Дастаеўскага на французскую мову. Прозвішча перакладчыка — а ён сёння вельмі папулярны ў Францыі — на вокладцы было напісана намнога большымі літарамі, чым імя аўтара.

### ЗДАРОВЫ СЭНС ПАДКАЖА

— Я пераклала прыкладна 60-65 літаратурных твораў, ёсць сярод іх і «крутыя», кшталту раманаў Гогаля, Дастаеўскага. Але чым больш працую ў гэтым кірунку, тым больш пераконваюся, што літаратура не паддаецца перакладу. Чаму? Таму, што тут важныя не толькі словы, атмасфера, персанажы, дзеянні, гісторыя, інтрыга, а існуе цэлы комплекс, ансамбль розных рэчаў, якія іншы чалавек не можа ўзнавіць, асабліва на іншай мове. Але калі літаратура неперакладальная, то пра які літаратурны пераклад мы можам казаць?

Мне падаецца, тут трэба звярнуцца да здаровага сэнсу. Як ён адкажа на пытанне: навошта патрэбны пераклад? Каб дазволіць людзям, якія не разумеюць чужую мову, чытаць кнігу, мець пэўнае, правільнае ці няправільнае, уяўленне пра пісьменніка, творчасць аўтара, недаступную ім на мове арыгінала. Перакладчыку трэба быць вельмі сціплым, бо ў выніку яго працы не атрымаецца ідэальны твор, напісаны на ўзроўні арыгінала, але менавіта ён дазволіць людзям чытаць тое, з чым яны самі не змаглі б пазнаёміцца. Гэта не значыць, што трэба перакладаць літаратуру вельмі кепска. Наадварот. Ад таго, што гэта немагчыма, трэба старацца яшчэ больш. Праца перакладчыка вельмі складаная і няўдзячная.

**Многія літаратурныя перакладчыкі цяпер прытрымліваюцца меркавання пра тое, што пераклад — гэта мастацтва.
А я лічу — не.**

### МАСТАЦКІ СКЛАДНІК

— Я разумею ўсе хітрыкі студэнтаў. І вельмі многія, асабліва навучэнцы з Расіі, выбіраюць семінар літаратурнага перакладу, таму што лічаць: мы вельмі добра ведаем рускую мову, разумеем французскую, бо ўжо некалькі гадоў жывём у Парыжы, — значыць, вучыцца будзе лёгка. Але звычайна ў такім выпадку здараецца поўная катастрофа. І самі студэнты вельмі хутка разумеюць, што было б намнога прасцей напісаць працу па літаратуры, цывілізацыі, лінгвістыцы, чым па літаратурным перакладзе. Але ўжо позна.

Ёсць вельмі таленавітыя студэнты. І вось тут важна падкрэсліць наступнае. Нават калі я кажу, што літаратурны пераклад — гэта не мастацтва, то яго сувязь з мастацтвам усё роўна можна прасачыць. Нават праз кароткі час пасля пачатку заняткаў я адчуваю, ці маюць студэнты талент, хто з навучэнцаў можа стаць выдатным перакладчыкам. Мой прафесар заўсёды называў пераклад рамяством. І мне падаецца, што гэта выдатнае азначэнне.

### «ДРОБЯЗІ» НЕ ДЛЯ ШЫРОКАЙ ПУБЛІКІ

— У выдавецтве «Вердзье» я курырую серыю «Дробязі», яна так называецца ў гонар аўтабіяграфічнай сатырычнай кнігі Юрыя Аненкава «Аповесць пра дробязі». «Дробязі», пра якія ён распавядае ў гэтым рамане, — Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, грамадзянская вайна. Мы разам з сукіраўніком серыі, досыць вядомай пісьменніцай і перакладчыцай, выкладчыцай Сарбоны Любай Юргенсон узялі менавіта гэтую назву, бо ў «Вердзье» ёсць іншая серыя рускай літаратуры, якая называецца «Слова». Мы падумалі, што назва «Слова» гучыць надта горда і ўрачыста, таму вырашылі быць не такімі пафаснымі. Больш за тое, мы вельмі любім «Аповесць пра дробязі», ды і Аненкава я сама добра ведала. Адна з характэрных рыс рускай мастацкай літаратуры ў яе цеснай сувязі з гісторыяй, палітыкай, дакументальнымі тэкстамі. Мы вырашылі выдаваць пераклады і дакументальных тэкстаў, і мастацкіх кніг.

Першы праект, рэалізаваны ў межах гэтай серыі, — выданне зборніка лістоў раскулачаных. Перш за ўсё лісты адрасаваліся Калініну, які сам быў выхадцам з сялян, і людзі вельмі спадзяваліся, што менавіта ён дапаможа. Канечне, ім не адказалі. Але самі па сабе лісты проста неверагодныя, іх знайшлі, калі пасля 1991 года для карыстання адкрылі архіў у Маскве. Я не магу сказаць, што гэтая кніга прадавалася мільённымі тыражамі, але былі выдатныя водгукі з боку крытыкаў і журналістаў.

Потым мая студэнтка пераклала на семінары і абараніла пераклад кнігі Уладзіміра Гіляроўскага «Масква і масквічы». Таксама проста выдатная праца! А адзін з маіх студэнтаў нават атрымаў прэмію за пераклад кароткага апавядання Яўгена Замяціна «На куличках». Нас цікавіць і літаратура 1920-х гадоў ці напісаная раней, і нарысы, і гістарычныя матэрыялы. Апошнім часам друкуем пераклады тэкстаў сучасных расійскіх пісьменнікаў. Да прыкладу, мая калега адкрыла для Францыі творчасць пісьменніка Леаніда Гіршовіча. Ён цяпер жыве ў Германіі, але сам родам з Пецярбурга. Мы ўжо выдалі пераклад трох яго раманаў. Гэта вельмі сур'ёзная літаратура, даволі складаная, але Леанід Майсеевіч заваёўвае свайго чытача ў Францыі.

Мы наладзілі і досыць плённае супрацоўніцтва з Уладзімірам Сарокіным. Я апублікавала яго старую кнігу, раман, які дагэтуль ніхто не перакладаў і не выдаваў у Францыі, а пасля аўтар сам прапанаваў нам сваю «Завіруху». Не так даўно мы выдалі першы раман маладога, але ўжо даволі вядомага празаіка Сяргея Лебедзева.

Кожны наш праект — складаная, сур'ёзная кніга. Мы працуем з цікавымі аўтарамі, але іх творчасць не абавязкова арыентаваная на шырокую публіку. Гэта, лічу, сапраўдныя пісьменнікі.

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Беларуская літаратура**




***Арабей, Л. Л.** Выбраныя творы / Лідзія Арабей; [укладанне і каментар аўтара; прадмова Лідзіі Савік]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 604 с. — Рэзюмэ на англійскай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7057-77-1 (у пер.).*

*Лідзія Арабей адносіцца да пакалення жывых класікаў нашай літаратуры. Яна пачынала творчы шлях у пасляваенным Мінску, працавала сакратаром Міхася Лынькова, які тады быў старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, потым у Якуба Коласа. Праз некаторы час з дапамогай яшчэ аднаго славутага пісьменніка і свайго земляка — Кандрата Крапівы — маладая пісьменніца стала супрацоўніцай рэдакцыі часопіса «Вожык». Магчыма, пастаяннае суседства з выдатнымі талентамі паспрыяла і развіццю творчай індывідуальнасці пісьменніцы, а з-пад яе пяра выйшлі аповесці, апавяданні, абразкі. Дарэчы, Лідзія Львоўна шмат гадоў прысвяціла даследаванню жыцця і творчасці Цёткі, яе працу «Стану песняй» таксама можна прачытаць у гэтым выданні.*

**Бацечка, І. В.** Гарады старажытнага краю: кніга паэзіі / Іосіф Бацечка. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 115 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7057-74-0.

**Буланда, В. А.** Сараматніца: інтымная лірыка / Вера Буланда; [малюнак Юліі Мельнік]. — Мінск: Віктар Хурсік, 2013. — 336 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7025-17-6 (у пер.).

**Васько, У. Г.** Лясная рапсодыя: проза / Уладзімір Васько. — Ліда: Лідская друкарня, 2013. — 199 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6437-27-7 (у пер.).

**Гардзей, В. К.** З мінулага не вяртаюцца...: аповесці, апавяданні / Віктар Гардзей. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 508 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1487-4 (у пер.). — ISBN 978-985-02-1276-4 (памылк.).

**Дудзюк, З. І.** Слодыч і атрута: раман / Зінаіда Дудзюк. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 396 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1491-1 (у пер.).

**Жырандоля**: літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2008–

№ 5 / [рэдкалегія: Мікола Сянкевіч (галоўны рэдактар) і інш.]. — 2013. — 323 с. — Частка тэксту на рускай і ўкраінскай мовах. — Змяшчае аўтараў: Аверын М., Авечкін А., Азгір Я., Аляксандраў М., Аляхновіч М., Анішчук А., Арабейка І., Арчакоў А., Бакун-Кульбеда В., Барадзіньчык Д., Белаяр С., Белы А., Божуль А., Бурдыка В., Бясчасны Я., Валасюк Л., Воронік С., Галаскок А., Ганчук А., Гарай А., Гарбенка А., Губарэвіч В., Гэдзік Г., Дацкевіч І., Дрозд А., Дрык Н., Дэбіш А., Дэбіш В., Ждановіч В., Жмінько К., Жылко В., Зялёнка С., Ігнацюк А., Ільючык М., Кавальчук Н., Капуза Ю., Карпук Г., Каско А., Кацін В., Качан Т., Коктыш С., Кукуня У., Купрэеў М., Лагвіновіч І., Лебедзеў У., Мельнікава З., Мельнічук І., Осіпава В., Папека М., Папко К., Парчук Н., Паталкоў Ю., Пацяюк М., Підэнка С., Пракапчук Я., Праневіч Г., Прастапчук В., Пыж'янава Д., Пясецкая Т., Рыбак Д., Рызо А., Сідарук В., Сідорка Н., Сцепусь Н., Сянкевіч М., Тарасевіч М., Татусь К., Толін Г., Туміловіч В., Тураў У., Тэлычко М., Філатаў А., Хрысцюк У., Чарэўка В., Якімук М., Янковіч М., Яцкіў Г. — 250 экз. — ISBN 978-985-524-153-0.

**Казько, В. А.** Бунт незапатрабаванага праху: раман / Віктар Казько. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 286 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1463-8 (у пер.).

**Кароль, М. В.** Дарога за небакрай: [вершы] / Мікалай Кароль. — Мінск: Віктар Хурсік, 2013. — 137 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-7025-12-1.

**Клемянок, А. Л.** Не пускайце ў сэрца адзіноту: вершы / Ала Клемянок; [фота Міхаіла Разумніка]. — Мінск: Канфіда, 2013. — 127 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-6777-51-9 (памылк.).

**Лынькоў, М.** Выбраныя творы / Міхась Лынькоў; [укладанне, прадмова і каментар Дзмітрыя Бугаёва]. — Мінск: Беларуская навука, 2013. — 556 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-08-1602-3 (у пер.).

**Марчук, Г. В.** Ласточки над Горынью: новеллы: [перевод с белорусского] / Георгий Марчук. — Минск: Международный благотворительный фонд «Семья – единение – Отечество», 2013. — 189 с. — Содержит переводчиков: Ерохин П., Кононец И., Кочеткова И., Марчук Г., Марчук Н. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7072-01-9 (в пер.).

**Прыналежнасць-4** = Сопричастность-4: зборнік вершаў да 20-годдзя Закрытага акцыянернага таварыства «Атлант» / Закрытае акцыянернае таварыства «Атлант»; [складальнік А. М. Мяльгуй]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 175 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Змяшчае аўтараў: Абрамович И., Асеенко Н., Бжезовская Ж., Богуш Е., Гасюль В., Горбик Е., Гордин Л., Кондера Н., Коровина Т., Ляхович А., Максимчик М., Малец Я., Пожидаев А., Прокопенко Т., Соколин С., Соловьев А., Соловьев Г., Сюрин М., Хмелевский Н. — 350 экз. — ISBN 978-985-7057-88-7.

**Сергіеня, Я. А.** Насуперак: лірыка, гумар / Яўген Сергіеня. — Брэст: Брэсцкая друкарня, 2013. — 111 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-524-154-7.

**Ткачоў, В. Ю.** Так і жывём, брат: аповесці, апавяданні, маленькія былі / Васіль Ткачоў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2013. — 381 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1476-8 (у пер.).

**У Дняпра на магутным плячы**: Быхаўшчына літаратурная: паэзія, проза, публіцыстыка, літаратуразнаўства / [укладанне Міхася Пазнякова]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 414 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Змяшчае аўтараў: Аношка Я., Баравікова Р., Баранкевіч І., Барысевіч В., Вайнова Л., Гардзей В., Голубева Н., Данілаў С., Дзмітрыеў А., Жураўкоў А., Зізаній Л., Ільічоў Я., Казека А., Карніловіч Э., Кенька М., Кныш У., Коршыкава Т., Леўчанка М., Макарцоў А., Макарцоў М., Марозаў З., Мушынская Т., Мушынскі М., Пазнякоў М., Рагойша В., Саверчанка І., Сакалоў А., Саладоўнікава Л., Сліва М., Сматрыцкі М., Соцікаў Я., Стральцоў Б., Ткачоў В., Украінка С., Хатчанкова Н. — Змяшчае перакладчыка: Саверчанка І. — 550 экз. — ISBN 978-985-02-1459-1 (у пер.).

**Літоўская літаратура**

**Лауцюс, Я.** Прощаюсь с депрессией: истории выздоровления пациентов психотерапевтического отделения / Яронимас Лауцюс; перевод с литовского [Г. Шалыгиной]. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2013. — 63 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-471-647-3.

**Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва**

**Бакстер, Н.** Спокойной ночи, малыш!: Сладкие истории для чтения перед сном. На все случаи жизни!: [для детей до 3 лет (для чтения родителями детям)] / истории придумала и написала Никола Бакстер; пересказала [с английского] для малышей Ольга Муравьева; иллюстрации нарисовала Полина Сиверт. — Москва: АСТ, 2013. — 79 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-077957-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2069-2 (Харвест) (в пер.).

**Барто, А. Л.** Наша Таня громко плачет: [стихи: для детей до 3 лет: для чтения взрослыми детям] / Агния Барто; художник Ю. Молоканов. — Москва: АСТ, 2013. — 59 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-014627-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1488-2 (Харвест) (в пер.).

**Баум, Л. Ф.** Волшебник страны Оз: [для младшего школьного возраста] / Лаймен Фрэнк Баум; иллюстрации Чарльза Санторе; перевод и пересказ Е. Каргановой. — Москва: АСТ, 2013. — 93 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080644-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1790-6 (Харвест) (в пер.).

**Бианки, В. В.** Муравьишка-хвастунишка: [(по мотивам сказки «Как муравьишка домой спешил»): для дошкольного возраста / В. Бианки; автор сценария М. Вольпин; художник-постановщик А. Трусов]. — Москва: АСТ, 2013. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-079765-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2173-6 (Харвест) (в пер.).

**Будзи, Р.** Волшебные мечты: чудесные истории Лейлы, Блум и Стеллы: [для младшего школьного возраста] / Риджина Будзи; [перевод с итальянского Т. М. Котельниковой, А. В. Голубцовой]. — Москва: АСТ, 2013. — 187 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-076611-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1233-8 (Харвест) (в пер.).

**Гном-Тихогром**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-598-8.

**Гримм, Я.** Волк и семеро козлят: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста: сказка братьев Гримм] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-7056-23-1.

**Гуси-лебеди**. Сестрица Аленушка и братец Иванушка: [для младшего школьного возраста / составитель Дмитриева Валентина Геннадьевна; иллюстрации И. В. Горбуновой]. — Москва: АСТ, 2013. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-081283-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2303-7 (Харвест) (в пер.).




***Зарэцкая, Ю. Ф.** Суседзі: апавяданні / Юлія Зарэцкая. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 140 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1492-8.*

*Кажуць, што мець добрага суседа — вялікае шчасце. І гэта сапраўды так. Суседзяў мы бачым нават часцей, чым сваякоў, маем агульныя клопаты, перажыванні. Вось і героі кнігі Юліі Зарэцкай шмат гадоў жывуць побач, як і іх прататыпы, жыхары мястэчка Дунілавічы, малой радзімы аўтаркі. Гэта людзі розных пакаленняў, нацыянальнасцей, рознага веравызнання, але яны і ў радасці, і ў горы — разам.*

**Дружаева, И. В.** Тормоза для башмаков: [стихи: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Ирина Дружаева; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-30-0.

**Землянин, Е. В.** Сказки: [для чтения взрослыми детям, для младшего школьного возраста] / Е. В. Землянин. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 63 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7056-30-9 (в пер.).

**Золушка**: [для младшего школьного возраста / составитель Дмитриева Валентина Геннадьевна; иллюстрации И. В. Горбуновой и Т. А. Емельяновой]. — Москва: АСТ, 2013. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-080088-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2264-1 (Харвест) (в пер.).

**Карапетьян, Р. А.** Внимание!!! Сегодня в четыре часа!: [стихи: для младшего школьного возраста] / Рустам Карапетьян; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-24-9.

**Карапетьян, Р. А.** Подожду зеленого: [стихи: для младшего школьного возраста] / Рустам Карапетьян; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-26-3.

**Карганова, Е. Г.** Вам, дети, про все на свете: [стихи, песенки, считалки, игры, азбука: для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Е. Карганова; [иллюстратор Г. Соколов]. — Москва: АСТ, 2013. — 189 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-079433-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2186-6 (Харвест) (в пер.).

**Король Дроздобород**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-599-5.

**Кот в сапогах**: [для младшего школьного возраста / составитель Дмитриева Валентина Геннадьевна; иллюстрации И. В. Горбуновой и Т. А. Емельяновой]. — Москва: АСТ, 2013. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-080137-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2263-4 (Харвест) (в пер.).

**Красная Шапочка**. Крошечка-Хаврошечка: [для младшего школьного возраста / составитель Дмитриева Валентина Геннадьевна; иллюстрации И. В. Горбуновой]. — Москва: АСТ, 2013. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-080091-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2261-0 (Харвест) (в пер.).

**Красная Шапочка**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Н. Теребун]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-600-8.

**Майер-Скуманц, Л.** ...И пусть себе воробьи чирикают...: истории о Доне Боско: [для юных читателей] / Лене Майер-Скуманц; [иллюстрации Елизабет Сингер; перевод с немецкого Анны Наталии Малаховской]. — Минск: Про Христо, 2013. — 133 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-7074-06-8.

**Мальчик-с-пальчик**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-601-5.

**Маршак, С. Я.** Детям про все на свете: [для детей до 3 лет: (для чтения родителями детям)] / С. Маршак. — Москва: АСТ, 2013. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-079588-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2201-6 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Сказки и про кошек, и про мышек...: [басни: для дошкольного возраста] / С. Михалков; [художники: С. Бордюг и Н. Трепенок]. — Москва: АСТ, 2013. — 44 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-079223-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2167-5 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Вредные советы: [для младшего школьного возраста] / Г. Остер; [художник А. Мартынов]. — Москва: АСТ, 2013. — 94 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-062785-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2258-0 (Харвест) (в пер.).

**Перро, Ш.** Кот в сапогах: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / Шарль Перро; художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-7056-22-4.

**Петушок – золотой гребешок**. Лиса и Журавль: [для младшего школьного возраста / составитель Дмитриева Валентина Геннадьевна; иллюстрации И. В. Горбуновой]. — Москва: АСТ, 2013. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-080093-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2257-3 (Харвест) (в пер.).

**Петушок и Курочка**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-602-2.

**Пляцковский, М. С.** Разноцветные зверята: [сказки: для дошкольного возраста] / М. Пляцковский; рисунки В. Сутеева. — Москва: АСТ, 2013. — 77 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-080624-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2223-8 (Харвест) (в пер.).

**По щучьему веленью**: русская народная сказка: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-7056-24-8.

**Подарки маленького народа**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Саханько]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-603-9.

**Поляков, Ю. А.** История в королевстве: [стихи: для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Поляков; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-25-6.

**Поляков, Ю. А.** Прогулялся до угла: [стихи: для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Поляков; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-28-7.

**Сестрица Аленушка и братец Иванушка**: русская народная сказка: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Дидковская Е. М. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 16 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-7056-25-5.

**Ситников, Ю.** Недобрый клоун: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2013. — 250 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-671-8 (в пер.).

**Сказки в рисунках В. Сутеева**: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2013. — 93 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Барто А., Михалков С., Мурадян С., Чуковский К. — Содержит переводчика: Токмакова И. — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-070711-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2203-0 (Харвест) (в пер.).

**Сказки веселой семейки**: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Е. М. Дидковская. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 253 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6791-90-4 (в пер.).

**Снежная королева**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Н. Теребун]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-604-6.

**100 стихов малышам**: [для дошкольного возраста]. — Москва: АСТ, 2013. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Александрова З., Барто А., Берестов В., Ивенсен М., Карганова Е., Маршак С., Михалков С., Орлов В., Пикулева Н., Степанов В., Токмакова И., Чистякова М., Чуковский К., Чумичева Э. — Содержит художников: Бордюг С., Булатов Э., Васильев О., Глазов И., Запесочная Е., Кострина И., Морозова Д., Муратова А., Салиенко Н., Сутеев В., Трепенок Н., Чижиков В., Ярина З. — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-081076-5 (АСТ). — ISBN 978-985-16-9525-2 (Харвест) (в пер.).

**Стрельникова, К. И.** Беспокойная двойка: [рассказочка: для младшего школьного возраста] / Кристина Стрельникова; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-23-2.

**Сутеев, В. Г.** Петя Иванов и волшебник Тик-Так: [для младшего школьного возраста] / В. Сутеев; рисунки М. Салтыкова. — Москва: АСТ, 2013. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-079357-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2190-3 (Харвест) (в пер.).

**Сутеев, В. Г.** Сказки и картинки: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / В. Сутеев; [рисунки автора]. — Москва: АСТ, 2013. — 125 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-062763-9 (АСТ). — ISBN 978-985-16-7680-0 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Истории про Чебурашку и крокодила Гену: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Э. Успенский. — Москва: АСТ, 2013. — 127 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит художников: Артюх А., Бай О., Васильев Н., Короев Л., Крыжановский Г., Лопатина Е., Тер-Захарянц К., Черкасова Т., Щербаков Н. — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-064878-8 (АСТ). — ISBN 978-985-16-7998-6 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Трое из Простоквашино: [для дошкольного возраста] / сценарий Э. Успенского; [художники-постановщики: Н. Ерыкалов, Л. Хачатрян]. — Москва: АСТ, 2013. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-081079-6 (АСТ). — ISBN 978-985-16-8490-4 (Харвест) (в пер.).

**Храбрый портняжка**: читаем по слогам: [для дошкольного и младшего школьного возраста / художник А. Бушкин]. — Минск: Букмастер, 2013. — 16 с. — 7050 экз. — ISBN 978-985-549-605-3.

**Чуковский, К. И.** Айболит; Федорино горе: [для дошкольного возраста] / К. Чуковский; рисунки В. Сутеева. — Москва: АСТ, 2013. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-079391-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2168-2 (Харвест) (в пер.).

**Чуковский, К. И.** Мойдодыр; Тараканище: [сказки в стихах: для дошкольного возраста] / К. Чуковский; рисунки В. Сутеева. — Москва: АСТ, 2013. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-079852-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2193-4 (Харвест) (в пер.).

**Шломан, В.** Хозяин саванны: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Ситников [т. е. Владимир Шломан]. — Минск: Букмастер, 2013. — 349 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-618-3 (в пер.).

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Жуковская, Т. И.** Удивительные истории, или О чем поет сверчок: сказки: [для младшего школьного возраста] / Татьяна Жуковская; [художник О. Ф. Хомко]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 55 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0716-8.

**Серый, З. А.** Тайна великого молчуна: [сказка: для младшего школьного возраста] / Захар Серый; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-29-4.

**Беларуская літаратура**

**Даніленка, М.** Як дажджы памірыліся: апавяданні, казкі: кніга для дзяцей малодшага школьнага ўзросту / Міхась Даніленка. — Мінск: Народная асвета, 2013. — 54 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-12-2221-2.

**Крынічка народнай творчасці**: зборнік фальклорных твораў: [для малодшага школьнага ўзросту / складальнікі: А. У. Івановіч, А. А. Сабіч]. — Мінск: Беларусь, 2013. — 221 с. — 21000 экз. — ISBN 978-985-01-1039-8 (у пер.).

**Муравейко, И. А.** Салодкія смяшынкі: [стихи: для младшего школьного возраста] / Іван Муравейка; [художник Олег Гуцол]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 8 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-27-0.

**Пазнякоў, М.** Званочкі велічнай красы: вершы, скорагаворкі, загадкі: для малодшага школьнага ўзросту / Міхась Пазнякоў. — Мінск: Народная асвета, 2013. — 23 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-12-2191-8.

**Пазнякоў, М.** Лясныя дарункі: вершы, скорагаворкі, загадкі: для малодшага школьнага ўзросту / Міхась Пазнякоў. — Мінск: Народная асвета, 2013. — 23 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-12-2192-5.

**Ткачоў, В.** Жыла-была ёлачка: п'есы-казкі: для малодшага школьнага ўзросту / Васіль Ткачоў. — Мінск: Народная асвета, 2013. — 110 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-12-2222-9.

**Тэорыя літаратуры. Вывучэнне літаратуры**




***Беларускія народныя казкі: расказваў неяк Міхалка з Данеяк: [для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту] / літаратурная апрацоўка Анатоля Клышкі; [мастак У. С. Пашчасцеў]. — Мінск: Народная асвета, 2013. — 127 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-2055-1.***

*Чаму кот мыецца пасля ежы? Чаму крот жыве пад зямлёю? Ці могуць лось і ліса памяняцца нагамі, а воўк і дзік — займець чалавечы розум? Натуральна, падручнік па біялогіі здольны даць вычарпальныя адказы на гэтыя пытанні. Але хіба цікава дзецям чытаць толькі навуковыя факты? Зусім не. Намнога лепш з гэтай задачай справіцца казка. У выданне ўвайшлі казачныя расповеды, сабраныя і апрацаваныя выдатным беларускім пісьменнікам, букварыстам Анатолем Клышкам. На іх раслі многія пакалені беларускіх дзетак, думаецца, творы захопяць і сучасных маленькіх чытачоў.*

**Башкиров, Д. Л.** Воплощение «идеального» в русской литературе конца XVIII – начала XX века и традиции восточнославянской словесности / Д. Л. Башкиров. — Минск : БГУ, 2012. — 366 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-771-5 (в пер.).

**Верина, У. Ю.** История русской литературы второй половины XIX века: учебно-методическое пособие для студентов, обучающихся по специальностям 1-21 05 01 «Белорусская филология», 1-21 05 04 «Славянская филология» / У. Ю. Верина; Белорусский государственный университет. — Минск: БГУ, 2013. — 129 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-518-866-8.

**Михайловская, Л. В.** Литературное чтение: учебное пособие для 5-го класса специальных общеобразовательных школ: в 2 ч. / Л. В. Михайловская, А. В. Киселева. — Минск: Издательский центр БГУ, 2013. — 395 экз. — ISBN 978-985-553-106-8 (в пер.).

Ч. 1. — 125 с. — ISBN 978-985-553-107-5.

Ч. 2. — 127 с. — ISBN 978-985-553-108-2.

**Синило, Г. В.** История немецкой литературы XVIII века: учебное пособие для студентов учреждений высшего образования по специальностям «Культурология», «Романо-германская филология» / Г. В. Синило. — Минск: Вышэйшая школа, 2013. — 574 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-06-2304-1 (в пер.).

**Шостак, Л. П.** Карточки-напоминалки: литературное чтение: 2–4-е классы / Л. П. Шостак, Т. М. Дименкова; под редакцией И. Б. Головановой. — Мозырь: Образовательная компания «Содействие», 2013. — 113 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-520-786-4.

**Беларуская літаратура**

**Белорусская литература как модель развития «малых» (славянских) литератур**: материалы к тематическому блоку на XV Международном съезде славистов (Минск, 20–27.08.2013 г.) / [составители и научные редакторы: Гун-Бритт Колер, Павел Науменко]. — Минск: Бизнесофсет, 2013. — 131 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6939-68-9.

**Бобла, І. М.** Літаратурнае чытанне: вучэбны дапаможнік для 7-га класа 1-га аддзялення дапаможнай школы з беларускай мовай навучання / І. М. Бобла, Л. І. Данільчанка, Ф. І. Шалабасава. — Мінск: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2013. — 205 с. — 765 экз. — ISBN 978-985-553-122-8 (у пер.).

**Вольскі, А. В.** Літаратурнае чытанне: падручнік для 4-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання: у 2 ч. / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. — 2-е выд., выпраўленае і дапоўненае. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2013. — ISBN 978-985-559-217-5 (у пер.).

Ч. 2. — 2013. — 134 с. — 20000 экз. — ISBN 978-985-559-219-9.

Загурская, А. Л. Літаратурнае чытанне: рабочы сшытак: 4-ты клас устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з рускай мовай навучання / А. Л. Загурская, Т. А. Няборская. — 2-е выд., перагледжанае. — Мінск: Пачатковая школа, 2013. — 103 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-565-026-4.

Запрудскі, І. М. Метафізіка беларускай літаратурнай крытыкі: артыкулы, нататкі, рэцэнзіі, водгукі / І. М. Запрудскі; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. — Мінск: БДУ, 2013. — 218 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-821-7.

# Раскрыць таямніцы Тэслы




У гісторыі, навуцы, літаратуры ёсць асобы, чые жыццё і творчасць стала выклікаюць інтарэс шырокай публікі. Іх лёс звязаны з мноствам легенд, загадак, а самі постаці натхняюць на стварэнне новых і новых версій развіцця падзей, напісанне літаратурных біяграфій, раманаў, сцэнарыяў для кіно. Вядомы сербска-амерыканскі фізік і вынаходнік Нікола Тэсла — з кагорты менавіта такіх асоб. Не так даўно пры падтрымцы ААТ «Харвест» пабачылі свет адразу дзве яго літаратурныя біяграфіі.

### ПАМІЖ ДЗВЮМА РЭАЛЬНАСЦЯМІ

Кнігу **Энтані Флако «Нікола Тэсла. Геній-вар'ят»** па глыбіні і псіхалагізме вобраза галоўнага героя часта параўноўваюць з раманамі Фёдара Дастаеўскага. Думаецца, невыпадкова. Пагадзіцеся, плоскую асобу, уключаную ў спіс «Сто выдатных вынаходнікаў XX стагоддзя», пазначаную амаль дыягназам «геній», ператварыць у «выпуклага» літаратурнага героя, жывога чалавека досыць складана. Пісьменнік ідзе на наступны крок: уводзіць Тэслу ў сістэму дзвюх рэальнасцей, двух светаў.

У адной ён — знакаміты фізік-вынаходнік, што перамог вялікага Эдысана. У іншай — візіянер-вар'ят, які не можа спакойна існаваць у паўсядзённасці, бо страшна баіцца мікробаў і лічыць, што нумар у атэлі, дзе ён жыве, абавязкова мусіць дзяліцца на тры. Яго свет поўны складаных машын, формул, электрычнасці і небяспечных эксперыментаў. А яшчэ Тэслу наведвае таямнічая муза Карына, чыё з'яўленне штораз суправаджаецца яркімі ўспышкамі белага святла і новымі неверагоднымі навуковымі адкрыццямі.

Такім чынам, чытачу патрэбна разгадаць адразу дзве загадкі: які з аспектаў існавання Тэслы рэальны і сапраўдны і хто такая Карына — частка яго вар'яцкага свету, сапраўдная асоба ці прывід каханай, якая трагічна загінула?

### ВЕЛЬМІ САКРЭТНА

Калі Энтані Флако ў сваім рамане звярнуў больш увагі на асобу Нікола Тэслы, то расійскага пісьменніка **Міхаіла Ішкова** перадусім цікавяць таямніцы знакамітага вынаходніка. Гэты аўтар вядомы перш за ўсё па сваіх гістарычных раманах, прысвечаных загадкавым падзеям і незвычайным асобам. Вось і постаць Нікола Тэслы як нельга лепш падыходзіць на ролю галоўнага героя рамана **«Вынаходнік таямніц»**. І ў якасці самай вялікай загадкі выступае, безумоўна, сам навуковец, даследчык, эксперыментатар Тэсла.

Аўтара цікавіць літаральна ўсё: яго досыць слабая адукацыя (вядома, што Тэсла так і не скончыў універсітэт), сямейныя карані, асабістае жыццё, натуральна, вынаходніцтвы. Бо атрымаўшы за свае адкрыцці больш як 800 патэнтаў, ён стаў чалавекам, што «вынайшаў XX стагоддзе». І хоць апошнія гады жыцця вучоны правёў фактычна адзін, настойваючы, каб не турбавалі ў атэльным нумары, яго пахаванне было досыць маштабным, а ў апошні шлях даследчыка праводзілі многія ўплывовыя асобы.

Адметна, што і пасля смерці Тэслы яго постаць, адкрыцці выклікаюць досыць шырокі грамадскі рэзананс. Так, толькі ў 1943 годзе вярхоўны суд ЗША канчаткова прызнаў першынство Тэслы ў вынаходніцтве радыё, дагэтуль застаецца нявысветленым, ці быў Тэсла адкрывальнікам рэнтгенаўскіх праменяў.

Аматараў гісторыі і фізікі, безумоўна, зацікавіць гэтая кніга. Яна прываблівае перш за ўсё грунтоўнасцю і сур'ёзнасцю аўтарскага падыходу, вытрымкамі з газетных артыкулаў і афіцыйных дакументаў, што прыводзяцца побач з аўтарскім тэкстам, дакладнасцю ў датах і апісанні месца падзей. Але пакуль не ўсе таямніцы Нікола Тэслы раскрытыя. Думаю, нас чакаюць новыя дакументальныя раманы, мастацкія біяграфіі, здагадкі і нечаканыя адкрыцці.

**Юзэфа ВОЎК**

# Следам за Умбэрта Эка




Гэта не фантастыка, не фэнтэзі, не класічны раман жахаў. Гэта хутчэй філасофскі дэтэктыў, які дапускае магчымасць зусім іншага развіцця гістарычных падзей. Таму невыпадкова расійскую пісьменніцу Надзею Папову называюць шчырай прыхільніцай і паслядоўніцай італьянца Умбэрта Эка. Не так даўно пры падтрымцы ТАА «Харвест» пабачыў свет яе новы раман «Пастыр добры» — працяг папулярнага цыкла «Кангрэгацыя».

Уявіце: старая Еўропа, XIV стагоддзе. Гістарычныя ўмовы зусім іншыя. Славуты «Молат вядзьмарак» створаны на паўтара стагоддзя раней, адпаведна Інквізіцыя — раней на стагоддзе. Раней з'явіліся і яе працаўнікі. Аднак існаванне людзей, якія валодаюць звышнатуральнымі здольнасцямі, — не выдумка, а факт, і наяўнасць арганізацыі, якая не дазваляе ім выкарыстоўваць свае ўменні з добрымі мэтамі, проста неабходная. Гэта і ёсць Кангрэгацыя.

Сюжэт новай кнігі Надзеі Паповай разгортваецца ў сярэднявечным Кёльне. У горадзе адно за адным адбываюцца жорсткія забойствы дзяцей. Сведкі сцвярджаюць, што справа выходзіць за межы звычайнага крыміналу, і на арэну выходзіць кёльнскае аддзяленне Інквізіцыі. У ходзе працэсу следчы Кангрэгацыі сутыкаецца з персанажам паўзабытай легенды…

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Викинги не плачут




Позвольте представить: Ульф Черноголовый, один из самых грозных и бесстрашных викингов средневековья. Правда, с довольно странным прошлым. В паспорте у главного героя цикла «Сага о викинге», вышедшего в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», значилось: Николай Григорьевич Переляк, что на словенском наречии означает «перепуг». Думаете, это какая-то ошибка? Нет, всего лишь скромное обаяние юмора Александра Мазина, автора произведения, известного российского писателя, первооткрывателя отечественной исторической фантастики — авантюрной и остроумной.

Сюжет книги переносит читателей во времена междоусобных войн, когда Европу поглотило жестокое противостояние потомков Карла Великого и свирепых норманнов. Скучать главному герою не приходится, ведь вокруг подстерегают сплошные опасности в лице врагов и… красивых женщин! Ульф Черноголовый — человек, случайно оказавшийся в своих мечтах. Мастер спорта России по историческому фехтованию, коллекционер холодного оружия загадочным образом переносится в IX век, ни капельки этому не удивляется, выживает и завоёвывает доверие могущественных воинов Севера. «Для меня всегда самое интересное — это люди. Остальное просто декорация», — говорил автор в одном из своих интервью, но, похоже, немного лукавил. Если заглянуть в один из романов «Саги о викинге», причём, на любой странице, обязательно столкнёшься с размышлениями героя, весёлыми, но поверхностными. Александр Мазин не считает себя учёным-историком или психологом, его задача — показать читателям прошлое, заинтересовать их тем, что давно стало достоянием памятников и летописей, но имеет свою ценность.

Стиль повествования, несмотря на исторический фон, в изобилии насыщен современной лексикой: «здоровенный, как вставшая на дыбы “субару-импреза”» или «начал с полновесного тычка в брюхо и далее про программе». Сложно сказать, недостаток это или нет, но слух режет. Всё зависит от того, кто берёт в руки книгу — неискушённый подросток или человек взрослый и мудрый. Первому, на мой взгляд, «Сага о викинге» принесёт большее удовольствие.

**Мария ВОЙТИК**

# Храбрые дети и их родители




Книга «Час презрения» Анджея Сапковского, четвёртая часть фэнтезийной саги о Ведьмаке, увидела свет в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест». Роман, один из самых жестоких и живописных в цикле, был создан ещё в 1995 году, но множество раз переиздавался, не теряя своего магнетизма.

В чём его волшебство? В мастерстве автора, «поселившего» на страницах не только удивительных чудовищ и чародеев, но и острый юмор, колоритные диалоги, реалистичные боевые сцены и, конечно же, головокружительную любовь. Анджей Сапковский, как и его герой Ведьмак Геральт, нашел свое предназначение не сразу. Польский писатель взялся за перо в 38 лет, хотя увлёкся фантастической литературой ещё в детстве и перечитал всех советских и польских законодателей жанра, включая Станислава Лема.

Литературная карьера Анджея Сапковского началась с небольшого, примерно в 30 страниц, рассказа «Ведьмак», основанного на одной из польских сказок, которую по совету сына Сапковский отправил на конкурс. Творение получило премию, а его автор, занимавшийся до этого внешней торговлей, стал писать, погрузившись в уникальный мир, созданный своим же воображением. Среди толпы чародеев, краснолюдов и эльфов, озлобленных на человечество, безжалостных разбойников и трусливых воинов, обворожительных вампиров и уродливых василисков, как ни странно, осталось место для простых человеческих чувств. Необычный по своей сути и весьма непредсказуемый Геральт близок читателю. Мастер меча и волшебства по кличке Белый Волк, убивающий чудовищ за деньги, избавляя людей от хлопот, не идеальный супермен. Он довольно ранимый, тонко переживающий, всегда преданный своим близким.

Анджей Сапковский не делит персонажей на добрых и злых, его проза, несмотря на сказочный колорит, реалистична. Но вернёмся к «Часу презрения». В четвёртой книге цикла Ведьмака начинают терзать усталость и тревога, буквально впитавшиеся в кожу, воздух и одежду. Герой как будто отходит на второй план, уступая пространство повествования маленькой девочке, которой пришлось повзрослеть слишком быстро. Её зовут Цири, она княжна осаждённого врагами королевства Цинтры, лишившаяся родителей и, если вспомнить сюжет предыдущих книг, ставшая приёмной дочерью и Предназначением главного героя. Цири собирались отправить в школу для юных чародеек, но ей, любительнице свободы, захотелось приключений.

Дорога увела хрупкое с виду, но сильное в душе создание в эпицентр мрачной и запутанной истории, заговоров и интриг, где каждый сам за себя. «В жарком неподвижном воздухе висела война», люди и волшебные существа затеяли кровавое побоище и гибнут, а девочка становится камнем преткновения в их соперничестве. Её забрасывает на чужую землю, за ней охотятся, она скитается по пустыне и становится разбойницей, но всё ещё ждёт своего спасения… До самой последней страницы не угадаешь, как поведёт себя судьба и каков финал. Ясно одно: книга учит действовать, причём, не откладывая, прямо сейчас. Не по годам мудрая Цири знает, что «если и придётся о чём-то жалеть, то пусть это будут действия и поступки». «Час презрения», как и все романы в цикле о Ведьмаке, — литература для ума, а не для простого развлечения. Более того, это своеобразная психологическая проза, где на первом плане — внутренний мир человека.

**Мария ВОЙТИК**

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Чытаць… смачна!

Ці не падаецца вам, сябры, што мы незаслужана забыліся пра чараўнікоў, якія будуюць масты і дарогі да нашых сэрцаў, пра бясстрашных капітанаў, што ствараюць карты навігацыі ў свеце літаратуры? Пра кнігагандляроў?

Улічваючы магічны аспект, не варта тым не менш атаясамліваць прафесію гандляра кнігамі з фантастычным сюжэтам Аляксандра Бяляева «Гандляр паветрам». Хоць кнігагандляр па сваёй сутнасці — асоба ўнікальная і часткова таксама фантастычная: ён прадае адначасова рэальнасць і выдумку.

Чалавечая свядомасць працуе такім незразумелым чынам, што выдумка для нас часам больш адчувальная за паветра. Ужо не раз мы звярталі ўвагу на тое, што кнігагандляры разам з мастацкімі творамі адначасова прадаюць і эмоцыі. А якім чынам ажыццяўляецца сусветны кругазварот пачуццяў? Натуральна, праз органы гэтых самых пачуццяў. Магчыма, у такой простай схеме і хаваецца сённяшняя папулярнасць кавярняў-чытальняў. Мяркуйце самі.

Што мы робім з кнігамі? Чытаем, любуемся ілюстрацыямі, дакранаемся да карэньчыкаў, гладзім старонкі. Ідзём далей. Сёння існуюць тысячы і тысячы аўдыёкніг. Таму тэму можна з задавальненнем паслухаць — нібыта блізкі чалавек чытае ўслых ваш любімы раман. Вушы працуюць. Карыстальнікаў высокага ўзроўню таксама зачароўвае непаўторны пах кніг… Кажуць нават, што берлінскі парфюмер стварыў новы водар *Paper Passion* (папяровая страсць), і яго ўладальніца будзе пахнуць не марскім брызам ці ўсходнімі прысмакамі, а новай кнігай.

Што ў выніку? Засталіся па-за ўвагай толькі кнігалюбы-гурманы. Напэўна, ім стала крыўдна, што кніга не задавальняе яшчэ адну страсць. І вось ужо ва ўсім свеце складана знайсці буйны горад, дзе не быў бы рэалізаваны модны праект «Кніга + кава». Цяпер, бадай, нікога не здзівіш кнігарняй, дзе вам прапануюць кубачак арабікі і шакаладны кекс.

Гэта стала для многіх натуральным, але можна пайсці і далей. У моду ўваходзяць кнігарні, паліцы якіх займаюць выключна кулінарныя кнігі. І бонусам ужо служыць не проста маленькая кавярня з кавай і выпечкай, але і такая, дзе можна пакаштаваць любую страву са старонак прадстаўленых у асартыменце крамы кніг. Зразумела, што шэф-повар установы дае майстар-класы і вучыць ахвочых самастойна гатаваць стравы.

Сёння ў гэтай сферы найчасцей абмяркоўваецца лонданскі магазін *Books For Cooks* (Кнігі для кухараў) і сінгапурскі *25°С*. І калі з назвы першага відавочна, што ён мае такую вузкую спецыялізацыю, то загадку другога не так і проста разгадаць кнігалюбу, пакуль яшчэ не абазнанаму ў мастацтве кулінарыі. Уладальнікі гэтай незвычайнай кнігарні тлумачаць свой палёт фантазіі так. Па-першае, тэмпература мае вялікае значэнне для правільнага прыгатавання страў. А лацінская літара «С» азначае не толькі прыняты спосаб вымярэння тэмературы, але і працэс прыгатавання страў (Cooking), кулінарыю (Culinary), шакалад (Chocolate), торты (Cake), вішню (Cherry), каву (Coffee). Лічба ж 25 — не толькі тэмпературны складнік назвы, але і адрас крамы — *Keong Saik, 25*.

А студэнты з Браціславы не так даўно злучылі кнігарню, кавярню і… канферэнц-залу. Атрымаўся выдатны культурны цэнтр *Alexis*, дзе праводзяцца разнастайныя паказы, чытанні, семінары, канцэрты. Словам, можна знайсці яшчэ тысячу і адзін спосаб продажу эмоцый, а значыць, казцы з назвай «Кніжны свет» не будзе канца.

## Першая сусветная вайна ў літаратуры

# Пацеркі на абярэг

Распачынаючы рубрыку напярэдадні стагоддзя Першай сусветнай вайны, варта перадусім узгадаць яе прычыны. Знайсці вытокі больш патаемныя і глыбокія, чым проста палітычныя падзеі. Сваю аўтабіяграфічную кнігу «Свет учора. Успаміны еўрапейца» (1942) Стэфан Цвейг напісаў у эміграцыі, у Паўднёвай Амерыцы, куды нарэшце занесла яго хваля нянавісці ідэолагаў Трэцяга рэйха. Хутка пасля заканчэння працы над кнігай аўтар і яго жонка скончылі жыцці самагубствам — акалічнасць, якая надае шмат якім радкам сэнс запавету.

«Калі я імкнуся знайсці дарэчнае вызначэнне эпохі, якая папярэднічала Першай сусветнай вайне... мне здаецца, што найбольш дакладна было б сказаць: гэта быў залаты век надзейнасці». Так: гэта быў час самазаспакаення — вынік малітоўнай веры ў тое, што наша з вамі свядомасць бачыць ужо насцярожана: веры ў Яго Вялікасць Прагрэс, які, паміж іншым, здольны сціраць вызначальныя адрозненні паміж этнасамі і нацыямі, — калісьці гэта ўяўлялася дабром. «З пагардай глядзеў ён (той час. — **Т. С.**) на мінулыя эпохі з іх войнамі, голадам і смутамі — нібыта чалавецтва тады было яшчэ непаўналетнім і недастаткова дасведчаным. <…> У такія рэцыдывы варварства, як войны паміж народамі Еўропы, верылі гэтаксама мала, як у вядзьмарак і прывідаў; нашы бацькі... шчыра меркавалі, што межы і непаразуменні паміж нацыямі і веравызнаннямі паступова знікнуць ва ўсеагульным чалавекалюбстве, што чалавецтву ўрэшце наканаваныя мір і бяспека».

Нягледзячы на тое, што наступная акалічнасць не акцэнтуецца пісьменнікам як непасрэдны вынік Першай сусветнай, у кантэксце ўсёй карціны яна будзе выглядаць вельмі і вельмі істотнай. Размова ідзе пра... школу ў XIX стагоддзі. «Вучэбная казарма», «засценак нашага юнацтва», дзе панаваў «затхлы дух», «педантычная зададзенасць і чэрствы схематызм», «нелюбоў да чалавека». «Усе мае школьныя гады — спрэс неадольная туга... нясцерпнае жаданне пазбавіцца штодзённага ярма». Справа ў тым, тлумачыць Цвейг, што рэпутацыя кожнай «годнай» сям'і патрабавала, «каб кожы з адзін з сыноў зваўся доктарам якіх-небудзь навук». Да ўніверсітэта — пяць год у пачатковай школе, восем — у гімназіі, занняткі дома «жывымі» і старажытнымі мовамі (нормай лічылася ведаць пяць моў). «Гэтага было больш чым дастаткова, каб на фізічнае развіццё, спорт і прагулкі... часу не заставалася. <…> Тое стагоддзе яшчэ не вынайшла, што юным арганізмам патрэбныя рух і паветра. Перапынак на дзесяць хвілін у халодным вузкім калідоры лічылі дастатковым; два разы на тыдзень нас вадзілі ў спартыўную залу, каб там пры наглуха зачыненых вокнах без сэнсу таптацца на дашчанай падлозе, з якой пры кожным кроку ўздымалася на метр клубы пылу».

У «казарменнай» школы была яшчэ адна адметнасць. Паколькі грамадства найпершай каштоўнасцю лічыла адсутнасць радыкальных змен, то да моладзі — патэнцыяльнага носьбіта наватарства — ставіліся вельмі насцярожана. Галоўнае, што патрабавалася ад маладых людзей, — поўнае маўклівае падпарадкаванне, якое дасягалася мэтанакіраваным абезасабліваннем. Такі падыход, заўважае С. Цвейг, або паралізаваў, або звышстымуляваў энергію. «Колькі комплексаў непаўнацэннасці спарадзіў гэты абсурдны метад выхавання, можна даведацца са справаздач псіхааналітыкаў; магчыма, невыпадкова <псіхалагічны> комплекс адкрылі людзі, якія самі прайшлі скрозь нашы старыя аўстрыйскія школы».

С. Цвейг адзначае, што энергія асабіста яго і яго аднакласнікаў стымулявалася і накіроўвалася ў вельмі пазітыўнае рэчышча. Тэатр, музыка, літаратура — вось сфера яе прыцягнення і рэалізацыі. Аўтар прыгадвае свае неафіцыйныя «універсітэты» — не толькі з насалодай, але таксама з пачуццём сораму і жалю. Калі на мяжы двух стагоддзяў у размеранае жыццё, быццам ураган, уварвалася палітыка, Цвейг і яго сябры звярталі мала ўвагі на небяспечныя змены. «Горад прыходзіў у хваляванне з-за выбараў, а мы ішлі ў бібліятэкі. Масы паўставалі, а мы пісалі і абмяркоўвалі вершы. Мы не бачылі вогненных літар на сцяне... Толькі калі праз дзесяцігоддзі абрынуліся сцены і на нашы галовы грымнуў дах, мы ўсвядомілі, што фундамент даўно сапсаваны і разам з новым стагоддзем пачаўся заняпад індывідуальнай свабоды ў Еўропе».

Пачатак XIX стагоддзя запомніўся росквітам матэрыяльнага дабрабыту, няспынным паскарэннем рытму жыцця. «Усё ішло наперад. Перамагаў той, хто рызыкаваў. <…> Таму ў свет прыйшла… бестурботнасць, бо што ж здольнае было сапсаваць гэты пад'ём, спыніць узлёт?.. Ніколі Еўропа не была мацней, багацей, прыгажэй. <…> Ад гонару за трыумфы навукі і тэхнікі — а яны кожную гадзіну абганялі адзін аднаго — упершыню ўзнікала пачуццё еўрапейскай супольнасці, еўрапейская нацыянальная свядомасць. Няма нічога больш бессэнсоўнага, казалі мы сабе, чым нашы межы, калі самалёт лёгка пералятае іх». Трагічна і парадаксальна, але першыя гады поўнага ўзаемадаверу ў Еўропе сталі апошнімі, канстатуе С. Цвейг.

Чаму так? Хіба па законе дыялектыкі: лішак ператварае тое, чаго праз меру, у супрацьлеглую якасць: дабрабыт — у інфляцыю і галечу, заспакаенне — у агрэсію і варварства, урэшце — у прадчуванне Апакаліпсісу.

Што да моцы (выніку «прагрэсу»), яна «заўсёды спакушае людзей і дзяржавы пусціць яе ў ход і нават злоўжыць ёй. <…> Паўсюль лішак крыві кідаўся дзяржавам у галовы. Добрая воля да супольнасці… пераходзіла, нібы эпідэмія, у захопніцкі азарт».

«Наіўная вера ў розум, у тое, што ён у апошні момант спыніць вар'яцтва, — толькі яна і была нашай віной». І «лішак крыві» — галоўны вытак Першай сусветнай, паводле С. Цвейга. Сведчаннем «апаплексічнага» парадоксу цывілізаванага часу служыць малюнак першых дзён вайны ў Аўстрыі. «Цягнікі напаўняліся прызыўнікамі… грымела музыка, Вена была быццам у экстазе. Першы шок ад вайны… перайшоў у нечаканы энтузіязм. На вуліцах узнікалі шэсці, паўсюль раптам паплылі сцягі, стужкі… маршыравалі набаранцы, чые твары ззялі ад шчасця, таму што віталі апантана менавіта іх, звычайных людзей, каго кожны дзень нхіто не заўважае і не славіць». Ці не прысутнічае тут, дарэчы, яшчэ адна *causa militare*?

Іх шмат яшчэ — ментальных, псіхалагічных, сацыяльных прычын г. зв. імперыялістычнай вайны. Шмат якія стануць потым вытокамі Другой сусветнай. Навошта іх узнаўляць, лічыць, сістэматызаваць, нанізваючы, нібы пацеркі? Натуральна, дзеля таго, каб зрабіць з іх абярэг.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

## На паліцы

# Эльдарада для перакладчыка

Ва ўніверсітэце на занятках у межах спецкурса «Інтэрпрэтацыя паэтычнага тэксту» мы працавалі ў асноўным з рускамоўнымі перакладамі англійскай і амерыканскай класікі. Ды што казаць, нават тыя пераствараэнні, што сталі метадычным матэрыялам, ужо самі могуць лічыцца класікай перакладу. Гэта работы Самуіла Маршака, Барыса Пастарнака, Уладзіміра Набокава… У той час я заўсёды думала: няўжо ніхто з сучасных беларускіх паэтаў не наважыўся, апроч Шэкспіра, перакласці, да прыкладу, вершы Эдгара По, Эзры Паўнда ці Джона Дона?




Натуральна, я ведала пра тое, што ў нас актыўна працуюць перакладчыкі, але іх творчыя эксперыменты тады было досыць складана знайсці. Новая кніга паэта **Андрэя Хадановіча «Разам з пылам»** (Мінск: Кнігазбор, 2013) мяне пераканала канчаткова. У нас ёсць вартыя ўвагі пераклады, ёсць творцы, якія не ленуюцца шукаць спосаб укласці шырокі змест кароткіх англамоўных радкоў у такія ж кароткія ды змястоўныя беларускамоўныя. Асобна падкрэслю: гэта не той выпадак, калі аўтару перакладу патрэбна сарамлівая і сціплая хавацца ў апошнім радку пад тэкстам ці проста «залезці» ў змест.

Пра такую калекцыю перакладаў (а менавіта так пазначаецца на вокладцы), думаю, марыць кожны, хто спрабуе сябе на ніве перастварэння паэзіі. Бо здаецца, і перакладаеш шмат, і вартых увагі варыянтаў перакладу хапае, але скласці іх усе ў адну кнігу, пры гэтым на вокладцы пазначыўшы, што спробы менавіта твае, досыць складана. Патрэбна сапраўдная сістэма, колькасць, якасць. Але ў Андрэя Хадановіча ўсё атрымалася выдатна.

У кнігу ўвайшлі пераклады з сямі моў свету, якія рабіліся цягам пятнаццаці гадоў. Гэта і класіка, і сучасная паэзія, і нават песні. Некаторыя з тэкстаў можна было пачытаць раней у адмысловых тэматычных зборніках (да прыкладу, у кнізе беларускамоўных перакладаў Эдгара По «Маска чырвонае смерці») ці ў паэтычных зборніках самога Андрэя Хадановіча, але менавіта разам, сабраныя пад адной вокладкай, яны распавядуць нашмат больш. І пра густы іх аўтара, і пра ўласна яго майстэрства да перастварэння сусветнай класікі паэзіі па-беларуску. Ды што казаць, гэтае выданне можа стаць выдатным матэрыялам для дысертацыйнага даследавання па тэорыі паэтычнага перакладу.

Ці можна давяраць Хадановічу? Думаю, можна. У перакладзе паэзіі з пэўнай мовы свету ёсць свае «экзаменатары», чые творы асабліва складана перастварыць. У амерыканскай такім аўтарам з'яўляецца Эмілі Дыкінсан. Мала каму ўдавалася выразна і таленавіта перакласці яе кароткія, але такія змястоўныя вершы. Чытаць Дыкінсан у перакладзе Хадановіча — адно задавальненне. І аўтарскі стыль паэтэсы не губляецца, і радок застаецца такім жа сціслым, і дадатковыя сэнсы захоўваюцца.

*«Мой ліст — да Свету, хоць пісьма / Свет не напіша мне»,* — кажа ўслед за амерыканскай аўтаркай беларускі паэт. Ці ж не выдатна? Можа, Свету захочацца адказаць на гэты своеасаблівы перакладчыцкі ліст?

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Вялікдзень. Напярэдадні



Уладзімір Кожух «Святочны хлеб», 1992 г.



Канстанцін Качан «Велікодны дзень у Лебедзеве», 2007 г.

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася сумесная выстаўка жывапісу «Духоўны свет» двух знакамітых беларускіх мастакоў Уладзіміра Кожуха і Кастуся Качана.

Кастусь Качан — майстар рэалістычнага пейзажа. У яго работах — вялікая любоў да родных мясцін. Карціны Уладзіміра Кожуха не перагружаныя дэталямі, але шчодра насычаныя фарбамі. Розных на першы погляд мастакоў аб'яднала тэматыка — Вялікдзень, духоўны свет. Цэрквы і касцёлы, велікодныя кулічы і фарбаваныя яйкі — усё гэта можна пабачыць на іх карцінах.

— У нас блізкія погляды, але ў манеры пісьма мы выкарыстоўваем розныя прыёмы, — прызнаецца Кастусь Качан. — Валодзя выношвае тэмы ў майстэрні, а ў мяне яны нараджаюцца падчас падарожжаў, асабліва па заходнебеларускіх мястэчках. Мне падабаецца іх аўра, энергетыка. Там сабрана столькі культур!

— Зрабіць выстаўку разам прапанаваў дырэктар музея, — прызнаўся Уладзімір Кожух, — бо Вялікдзень у праваслаўных і католікаў адзначаецца ў гэтым годзе ў адзін дзень. У Кастуся пераважае каталіцкая тэматыка — касцёлы, а ў мяне — праваслаўная. Мы прынялі гэтую прапанову, і, лічу, атрымалася нядрэнна.

Творы жывапісцаў душэўныя, цёплыя. Цікавыя мястэчкі на карцінах мастака-падарожніка Кастуся Качана з людзьмі, жыццём ды каларытам і незвычайная падача звычайных рэчаў на палотнах Уладзіміра Кожуха. Тым, хто хоча глыбей адчуць надыход вялікага свята і пабачыць па-мастацку розныя, але тэматычна блізкія карціны, абавязкова трэба наведаць выстаўку, якая будзе працаваць да 18 красавіка.

**Марыя ГАЛУБЦОВА**

# Вясковае, сваё

**У Беларусі шмат таленавітых маладых мастакоў. Знаёмцеся: Уладзіслаў Петручык. Малады творца скончыў мастацкае вучылішча імя А. Глебава, вучыцца ў Беларускай акадэміі мастацтваў і ўжо некалькі гадоў актыўна прадстаўляе свае работы на рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках.**

Адзін з улюбёных жанраў творцы — пейзаж, асабліва вясковы, выкананы ў рэалістычнай манеры, якому ён прысвяціў сваю першую персанальную выстаўку «Вясковая лірыка» ў сталічнай галерэі «VILNIUS».

Нягледзячы на пастаянныя спробы некаторых крытыкаў і творцаў прынізіць рэалістычны жывапіс, назваць яго састарэлым, рэалізм працягвае заставацца сучасным і актуальным. А гэта магчыма толькі пры ўмове пастаяннага пошуку новых шляхоў, пераасэнсавання традыцый, знаходжання новых рашэнняў, сугучных сучаснаму жыццю.

Каб данесці ўласнае светаадчуванне, нагадаць пра вечныя каштоўнасці, неабходна мець багаты ўнутраны свет. Мастаку нялёгка знайсці сюжэт для карціны, які сапраўды кранае, не пакідае абыякавым. Тут усплываюць на памяць словы А. Саўрасава: «справа... ва ўменні бачыць прыгажосць». У межах выстаўкі У. Петручык адкрывае гледачу малую радзіму, пра якую можна забыцца ў наладжаным гарадскім жыцці. Карціны маладога жывапісца вызначаюцца эмацыянальнасцю, спагадлівасцю, адкрытасцю, імкненнем да дасканаласці.

З выстаўкай «Вясковая лірыка» можна пазнаёміцца да 5 мая ў галерэі «VILNIUS» пры сталічнай бібліятэцы № 18.

**Кацярына ЗВЕРАВА,**
**куратар галерэі «VILNIUS»**

# Карона Расійскай імперыі

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь упершыню ў межах сусветнага турнэ прадстаўляе Вялікую імператарскую карону Расіі (рэпліка) — імператарскую рэгалію 1762 — 1917 гадоў.

Вялікай імператарскай каронай каранаваліся ўсе імператары пачынаючы з Кацярыны II Вялікай. Апошнім разам рэліквія дэманстравалася на дзяржаўных мерапрыемствах у 1906 годзе — на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця Першай Дзяржаўнай думы з удзелам апошняга імператара Расійскай імперыі Мікалая II. Сёння арыгінал знаходзіцца ў складзе пастаяннай экспазіцыі ў скарбніцы Алмазнага фонду Расійскай Федэрацыі.

Для вырабу кароны майстрам спатрэбілася 4 936 брыльянтаў агульнай вагой 2 858 карат. Паўшар'і кароны знаходзяцца на вянку з 19 брыльянтаў, кожны вагой каля 5 карат, па версе іх абрамляюць два рады з 54 буйных матавых жамчужын. У цэнтры вянка — брыльянт авальнай формы масай 12,63 карата. Вянчае карону брыльянтавы арнамент у выглядзе ружы з дванаццаці пялёсткаў, на якой знаходзіцца алмазны крыж. Лічыцца, што гэта другая па велічыні высакародная шпінэль у свеце.

У 2012 годзе Вялікай імператарскай кароне споўнілася 250 гадоў. У гонар гістарычнай даты смаленскія майстры прынялі рашэнне ўзнавіць гістарычны сімвал расійскай дзяржаўнасці. Рэалізацыя ідэі прымеркавана яшчэ і да 50-годдзя флагманскага ў алмазаапрацоўчай галіне Расіі ювелірнага вытворчага аб'яднання «Крышталь» (г. Смаленск). Над творам паўгода працавала больш як 60 смаленскіх майстроў ювелірнай групы «Смаленскія брыльянты». Карона выраблена з белага золата. Пры яе вырабе былі скарыстаны ўвесь патэнцыял сучаснай ювелірнай вытворчасці.

Рэпліка Вялікай імператарскай кароны стылістычна паўтарае арыгінальны выраб. Адметная асаблівасць — сучасны дызайнерскі падыход да дэкарыравання каркаса брыльянтамі ідэальнай аграні і прынцыпова іншыя метады іх замацавання. Мінск — першы горад, які прымае рэпліку кароны па-за межамі Расіі. У наведвальнікаў ёсць унікальная магчымасць пабачыць гэты ўзор рускага ювелірнага мастацтва.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

# Баланс эмоцый

Ёсць нешта чароўнае ў французскіх камедыях. Менавіта ў французскіх! Амерыканскія — занадта кідкія, абавязкова з банальным хэпі-эндам. Англійскія — са спецыфічным гумарам. У рускіх — шмат сацыяльных пытанняў. А вось французскія — лёгкія для ўспрымання, часам з ноткай трагізму…

У Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі прэм'ера — камедыя Франсіса Вебера «Кантракт». Знакаміты французскі сцэнарыст і рэжысёр стварыў процьму фільмаў, падчас прагляду якіях можна шчыра смяяцца: «Няўдачлівыя», «Бацькі», «Беглякі», «Цацка»… У гэтым спісе і «Зануда», што быў пастаўлены па п'есе «Кантракт». На сцэне РТБД — «знаёмыя ўсё твары». Няўдачлівы неўрастэнік Франсуа і прафесійны кілер Ральф. Тыповае сутыкненне двух антыподаў у прасторы аднаго нумара атэля спараджае традыцыйную камедыю палажэнняў з лёгкім адценнем меладрамы.

Як рэжысёр можа паставіць такі папулярны сцэнарый? Ёсць два варыянты. Можна эксперыментаваць з формай, перайначыць увесь сюжэт. А можна захаваць класіку, да якой усе прызвычаіліся. Аляксандр Гарцуеў зрабіў апошняе: ніякіх мудрагельстваў, вытанчаныя дэкарацыі Парыжа, мінімум светлавых эксперыментаў, глянец і выразныя дэталі ў стыльных касцюмах персанажаў. І — удала падабраная французская музыка.

Але ж гэта тэатр! Хацелася нейкіх рэжысёрскіх «гульняў». Да прыкладу, дэкарацыі, хоць і прыгожыя, паўколам абрамлялі сцэну. І гэта звужала сцэнічную прастору — не хапала паветра, лёгкасці, а недзе — і сімвалічнасці, дадатковых сэнсавых адценняў. Гамерычны смех выклікалі «свавольствы» портак, што «лёталі» па сцэне і ніяк не слухаліся разлаванага Ральфа.

Зразумець задуму рэжысёра няцяжка: максімальна спрошчваючы сцэнаграфію, ён вырашыў зрабіць акцэнт на гульні акцёраў. Успомнім, што і фільмы Франсіса Вебера ззяюць так яскрава менавіта дзякуючы таленавітым П'еру Рышару, Жэрару Дэпардзье, Патрыку Тымсіту і Рышару Беры. Як вынік — не адно пакаленне адпачывае і разважае разам з персанажамі французскіх камедый. Што атрымалася ў беларускіх акцёраў? Без перабольшання, усё на «выдатна» ў Сяргея Шымко — выканаўцы ролі Франсуа. Нізенькі, са смешнай залысінай і вялікімі вачыма… Але ж не толькі каларытны від чапляе — міміка, пластыка, голас… Ці то хочацца самому выхапіць вінтоўку ў Ральфа і стрэліць у гэтага балбатуна, ці то абняць яго моцна-моцна і плакаць разам: настолькі па-майстэрску перададзены супярэчлівы вобраз Франсуа Піньёна!



Сцэна са спектакля «Кантракт».

Максім Брагінец у ролі Ральфа таксама пераконвае, але ж цікава, што малады і таленавіты акцёр найбольш удала выглядае ў камедыйных, а не ў сур'ёзных момантах. Мноства адметных камічных сітуацый падараваў спектаклю Гарсон — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Валянцін Салаўёў, добра ўвасоблены Фелікс (Андрэй Дабравольскі) і Вольф (Дзяніс Паршын). Мабыць, толькі апошні з-за свайго юнацкага запалу часам перабольшвае.

Але… Сума акцёрскіх эмоцый дае неверагодны вынік. Ён нагадвае велізарны эмацыянальны ком, што коціцца і часам нават не разумее куды, знішчаючы асобныя цікавыя жарты і дыялогі. Мараль гэтай байкі простая: калі адзін акцёр надта каларытны, іншаму лепей быць больш стрыманым — баланс эмоцый. Інакш дзеянне на сцэне рызыкуе ператварыцца ў аглушальны лямант.

**Паліна ПЛАТАВА,**
**фота з архіва РТБД**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*




**Ірына НАВАГРОДСКАЯ, настаўнік гісторыі, загадчык гісторыка-краязнаўчага музея Лабжанскай сярэдняй школы Клімавіцкага раёна, распавядае пра стварэнне не першага ў сваім жыцці музея:**

— У глыб стагоддзяў адыходзіць гісторыя любога краю. Але ў многіх жыве цікавасць да мінулага сваёй Бацькаўшчыны. Для мяне вывучэнне спадчыны даўно стала не проста захапленнем, а стылем жыцця. Першы краязнаўчы досвед атрымала яшчэ на Віцебшчыне, дзе стварыла свой першы музей. Воляй лёсу апынулася ў г. Клімавічы. Тады ўжо сур'ёзна «захварэла» на краязнаўства. Як вынік — тры музейныя куткі ў раёне і музей пры Лабжанскай СШ. Музей святкаваў сваё адкрыццё ў Год роднай зямлі.

Сёння ў нас можна пабачыць каля дзвюх тысяч унікальных экспанатаў, аб'яднаных у дзве экспазіцыі: «Гісторыя Лабжанскага краю» і «Этнаграфія Лабжаншчыны». Экскурсіі па кожным раздзеле — «Мастацтва беларускай вышыўкі», «Гісторыя Лабжаншчыны», «Рэчы з мінулага», «Лаўка ганчароў», «Народжаныя ў СССР», «Парад ручнікоў» — рыхтую сама. Усе расповеды — вершаваныя, бо ў такім выглядзе яны больш падабаюцца юным экскурсаводам, вельмі жывыя і цікавыя, лёгка ўспрымаюцца наведвальнікамі.

На базе музея працуе гасцёўня «У беларуса», дзе можна даведацца шмат цікавага пра традыцыі розных рэгіёнаў нашай краіны, пакаштаваць нацыянальныя стравы, пагуляць у народныя гульні. Адным з галоўных кірункаў застаецца адраджэнне рамёстваў. Школьнікі вучацца вышываць, лозапляценню, ткацтву.

Музей з задавальненнем наведваюць жыхары Клімаўшчыны, а таксама госці з суседніх раёнаў. Былі і турысты з Аўстрыі, Галандыі, Іспаніі, Расіі, Бельгіі. А нашай калекцыяй ручнікоў, якая была прадстаўлена Магілёўскай вобласцю ў Гродне падчас першага нацыянальнага форуму «Музеі Беларусі», зацікавіўся прадстаўнік гістарычнага музея г. Амстэрдама (Галандыя). І невыпадкова.

Багатая калекцыя гэтых вырабаў (54 адзінкі) падказала даследчы кірунак дзейнасці з умоўнай назвай «Ручнік у жыцці беларуса». Поле даследаванняў вельмі шырокае: спосаб вырабу, мова і віды вышыўкі, прызначэнне ручніка, кім быў вытканы і вышыты, рэгіянальныя асаблівасці вырабаў і многае іншае.

Сёлета, у Год гасціннасці, мы адзначаем пяцігадовы юбілей. Спадзяюся, наведвальнікаў у музеі будзе яшчэ больш.

*Музейны ўнікат*

# Падарунак малой радзіме

Студэнт гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Ігар Кандратовіч, прыязджаючы на сваю малую радзіму, ніколі не абмінае музей кнігі і друку, які працуе ў сярэдняй школе № 3 г. Міёры.

Нядаўна ён завітаў да нас, каб перадаць чарговыя экспанаты, якія набыў у Мінску. Найперш у экспазіцыю патрапіць выданне "Газета А. Гатцука", якое ўбачыла свет у 1881 годзе ў Маскве. Гэты штотыднёвік выходзіў на працягу пятнаццаці гадоў — з 1875-га па 1890-ы.

Рэдактарам і выдаўцом быў Аляксей Гатцук (1832 — 1891), вядомы археолаг, пісьменнік і публіцыст. Газета асвятляла самыя разнастайныя тэмы: гістарычныя, літаратурныя, палітычныя, мастацкія і г. д.

Для нашага музея І. Кандратовіч набыў манеты Расійскай імперыі: 2 капейкі з медзі 1758 і 1841 гадоў. Акрамя таго, падараваў набор сучасных паштовак з тэматыкай беларускага мастацтва і маркі для раздзела "Філатэлія".

У вольны час юнак, як і раней, калі быў яшчэ вучнем нашай школы, прыходзіць у музей і карпатліва займаецца аднаўленнем і рэстаўрацыяй старых кніг, дакументаў, газет.

**Вітольд ЕРМАЛЁНАК,**
**кіраўнік музея кнігі і друку**


ГАЗЕТА А. ГАТЦУКА
Т. VII. ГОДЪ 7-й № 31
1 АВГУСТА 1881
Ив. Хр. Бунге.
ОТЪ РЕДАКЦІИ.

# Каб залячыць і боль, і раны

Мясцовы перыядычны друк — унікальная крыніца гістарычнай памяці, дасведчаны памагаты ў краязнаўчым пошуку. Праўда, мы часцей зазіраем на старонкі, звязаныя з лёсамі пісьменнікаў, дзеячаў культуры, на артыкулы, прысвечаныя школе, асветніцтву. А між тым «раёнкі» — найперш гісторыя сацыяльных, эканамічных пераўтварэнняў. І часам даволі цікавая.

Быў некалі калгас імя Чапаева. Ён яшчэ ў памяці жыхароў Пухавіцкага раёна. Цэнтральная сядзіба — у вёсцы Зацітава Слабада. А першая назва гаспадаркі — «Пуцілавец». Біяграфія сельгаспрадпрыемства настолькі шматаблічная, што пра калгас у Зацітавай Слабадзе можна пісаць шмат. Давайце паспрабуем зазірнуць у 1946 — 1947 гг. А дапаможа нам у гэтым пухавіцкая раённая газета «Сцяг камунізма» (менавіта так называліся ў той час «Пухавіцкія навіны»).

Чым вызначальны быў той няпросты перыяд у жыцці беларускай вёскі і рэспублікі? Галоўны клопат — узнаўленне нармальнага жыцця. На пачатку 1946 г. ішлі выбары ў Вярхоўны савет СССР. Чытаем у невялікай нататцы за подпісам жыхара вёскі Машчонава Пухавіцкага сельсавета П. Фурса (называецца публікацыя «Аддам свой голас за сыноў партыі Леніна-Сталіна»): «Мне 76 год, я ўжо старык, стары партызан грамадзянскай вайны. Я жыў на тэрыторыі, акупіраванай немцамі. Быў арыштаваны. Немцы здзекаваліся нада мною. Нішто мяне не запалохала. Я ведаў, што Чырвоная Армія вызваліць нас. Такое спраўдзілася, я разам з мільёнамі свабодны. Я аддам свой голас за Вялікага Сталіна, за кандыдатаў блока камуністаў і беспартыйных, за таварыша Панамарэнка і таварыша Сцяпанаву і прызываю ўсіх выбаршчыкаў падняць вытворчасць працы кожнаму на сваім участку работы».

Традыцыйная ў стылістыцы таго часу патэтыка, словы хутчэй за ўсё прыдуманыя газетчыкамі, але ж у тэксце — і подых часу, і боль яго.

Машчонава — з вёсак, што ўваходзілі раней у калгас імя Чапаева. 31 сакавіка 1946 г. газета друкуе верш Яніны Крайнік (вядомая партызанка, лёс якой звязаны з суседняй да Зацітавай Слабады вёскай Беразянка). У час Вялікай Айчыннай вайны маладая жанчына змагалася з ворагам і словам. Яе паэма — пра спаленую Беразянку — і цяпер на старонках анталогій партызанскай творчасці. А ў 1946 г. Я. Крайнік піша такія простыя і важныя па тым часе радкі: «Каб залячыць і боль, і раны / Вайны суровай — усё аддай: / Працуй сумленна, / будзь старанны, / Каб мець багаты ўраджай / <...> / Змагайся, горды мірны край! / За пашырэнне сева плошчаў, / За добры слаўны ўраджай!»

У 1946 — 1947 гг. газета то згадвае імя агранома «Пуцілаўца», то прадстаўляе яму слова на сваіх старонках. І гэта невыпадкова. Жыхары Зацітавай Слабады, ды і не толькі яе, памятаюць, што ў калгасе імя Чапаева існаваў гатункавыпрабавальны ўчастак. А гісторыя яго стварэння між тым досыць даўняя. Чытаю ў газеце за 25 верасня 1947 г. артыкул Н. Тадэўша (ён і ёсць той пасляваенны агранам) «Вынік трохгадовай працы»: «Адразу пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў пры калгасе «Пуцілавец» Пухавіцкага сельсавета быў арганізаваны гатунка-выпрабавальны ўчастак. Вынікі трохгадовай работы паказалі, што лепшымі гатункамі пшаніцы ва ўмовах нашага раёна з'яўляюцца Лютэсцэнс і Тулун. Гэтыя гатункі скараспелыя, найбольш устойлівыя да кліматычных і глебавых умоў калгасаў раёна. Як недахоп у гатунках пшаніцы Лютэсцэнс, гэта схільнасць да палягання ва ўмовах звышмернай вільготнасці. На працягу трох год, пры захаванасці агульнатэхнічных мерапрыемстваў, пшаніца Лютэсцэнс 0,62 давала сярэдні ўраджай 16 цэнтнераў з гектара. Гэта сведчыць аб тым, што ва ўмовах нашага раёна ёсць усе ўмовы атрымліваць стопудовы ўраджай пшаніцы».

Так, з вышыні сённяшняга часу ні лічбай гэтай, ні такім вытворчым аптымістычным спадзяваннем не здзівіш. Наадварот — можна радавацца, якая дыстанцыя ў здабытках і здзяйсненнях пройдзена болей як за паўвека. Але нагадаем для параўнання. Нават у 1949 г. у тым жа «Пуцілаўцы» ў цэлым па гаспадарцы ўраджайнасць азімай пшаніцы склала 3,4 цэнтнера з гектара (планавалі, праўда, 13,5). Яравой пшаніцы і жыта — па пяць цэнтнераў, ячменя — 3,8 цэнтнера з гектара. Так што гатунковавыпрабавальніцкая праца вяла наперад.

Вытворчая дзейнасць «пуцілаўцаў» праходзіла на фоне адраджэння, узнаўлення вёскі пасля жорсткай вайны. 27 чэрвеня 1946 г. «Сцяг камунізма» ў заметцы «Калгаснікі перасяляюцца ў новыя дамы» расказвае пра гэта наступным чынам: «У калгасе «Пуцілавец» Пухавіцкага сельсавета дружна працуе будаўнічая брыгада — брыгадзірам якой тав. Карэлаў. Брыгадай пабудавана 5 дамоў у першую чаргу для інвалідаў Айчыннай вайны і сем'яў чырвонаармейцаў. Цяпер будаўнічая брыгада заканчвае будаўніцтва кароўніка».

У кастрычніку 1946 г. газета зноў вяртаецца да тэмы будаўніцтва жылля. Па гэтай інфармацыі ўжо можна, патрапіўшы ў Зацітаву Слабаду, разгледзець першыя пасляваенныя дамы. Чытаем у заметцы «Клопат аб інвалідах Айчыннай вайны»: «Калгаснікі сельгасарцелі «Пуцілавец» Пухавіцкага сельсавета на сваім мінулым сходзе рашылі пабудаваць за свае сродкі дамы інвалідам Айчыннай вайны і сем'ям, пацярпеўшым ад нямецкіх акупантаў. Для гэтага кожны працаздольны калгаснік на будаўніцтва адлічыў па 7 працадзён. Тут жа было створана 4 будаўнічыя брыгады.

Пабудавана ўжо 7 дамоў і пастаўлена 10 зрубаў. Перасяліліся ў новыя дамы, пабудаваныя калгаснікамі, інвалід Айчыннай вайны Папоў Нікалай, калгасніца Ількевіч Антоля, у якой муж і сын загінулі ў барацьбе з нямецкімі захопнікамі, калгасніца Майко Амілія, другія. Усе яны дзякуюць калгаснікаў за аказаную ім вялікую дапамогу».

І ўжо ў 1947 г. адну з «пуцілаўскіх» брыгад прызнаюць лепшай у Пухавіцкім сельсавеце. Кіруе калектывам з пяці цесляроў Васіль Майко. Улетку 1947 г. зацітаваслабадчан нават накіроўваюць на дапамогу найболей пацярпеламу ў вайну калгасу «Бальшавік». І там руплівыя, старанныя майстры праяўляюць сябе найлепшым чынам.

Такі вось фрагмент пасляваеннага жыцця дапамаглі нам узнавіць пажоўклыя старонкі газеты «Сцяг камунізма». Шкада, што падобнай гісторыі вельмі мала ў серыі гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Мо з часам у гэтага выдавецкага праекта будзе працяг? Варта быць больш уважлівым і да старых раённых газет.

**Максім ЗАЗЕРКА**

*Асобы*

# Чалавек з легенды

Поўную версію дакументальнага фільма «Кірыл Мазураў. Непакорлівы беларус» з серыі «Зваротны адлік» прадставіў шматлікім гасцям у сталічным Доме Масквы Агульнанацыянальны тэлеканал. На паказ, прымеркаваны да 100-годдзя з дня нараджэння легендарнай асобы, былі запрошаны яго дочкі — Алена Мазурава і Наталля Капітонава, якія ўжо доўгі час жывуць у Маскве, іх дзеці і ўнукі.

Энергічны, мэтанакіраваны Кірыл Мазураў увайшоў у гісторыю як бескампрамісны дзяржаўны дзеяч. У 39 гадоў ён быў, кажучы сучаснай мовай, прэм'ер-міністрам нашай рэспублікі, а ўжо ў сорак два стаў яе кіраўніком. Арганізатарскі талент К. Мазурава праявіўся як падчас вайны, так і ў мірны час, калі трэба было ўзнаўляць рэспубліку, якая ляжала ў руінах. «Праблем было столькі, а людзей так мала, што здзіўляюся, як нам гэта ўдалося», — успамінаў праз гады Кірыл Трафімавіч.

З сакавіка 1965-га і да 1978 года ён быў першым намеснікам старшыні Савета Міністраў СССР. Курыраваў работу 29 міністэрстваў і ведамстваў. Не баяўся пярэчыць Мікіту Хрушчову, а потым і Леаніду Брэжневу. Настойваў на працягу рэформ у Савецкім Саюзе і прасоўваў інтарэсы БССР, дапамагаючы свайму пераемніку Пятру Машэраву. Наша рэспубліка дасягнула вялікіх поспехаў як у сельскай гаспадарцы, так і ў развіцці прамысловасці.

Кірыл Мазураў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны І ступені, медалямі, а ў 1974 годзе яму прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

Алена Мазурава па просьбе журналістаў падзялілася сваімі ўспамінамі пра адносіны ў сям'і Мазуравых і ўражаннямі ад наведвання Мінска. «На асабістым досведзе я ўпэўнілася: галоўнае ў выхаванні дзяцей — бацькоўскія любоў і давер, асабісты прыклад, — распавяла дачка легендарнага беларуса. — Адзін раз у жыцці я атрымала двойку, з-за чаго вельмі засмуцілася. Гэта было ўжо ў Маскве. Бацька запытаўся, у чым справа. Калі пачуў адказ, рассмяяўся і сказаў: «Нарэшце ты стала сапраўдным чалавекам!» Апошні раз наведвала Мінск у 1974 годзе. Праехалі з бацькам па месцах, дзе ён ваяваў. Мы ўбачылі, што беларуская сталіца вельмі змянілася. Зусім іншы горад! Прыгажосці невыказнай! Мы ў захапленні і шчаслівыя, што прывезлі сюды сваіх дзяцей і ўнукаў». А. Мазурава з вялікім шкадаваннем адзначыла, што ў Беларусь прыехала ненадоўга, але спадзяецца, што абавязкова вернецца летам. Ёсць добрая нагода: яе, доктара эканамічных навук, запрасілі прачытаць лекцыю ў Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Сястра Алены — Наталля Капітонава, доктар гістарычных навук, — таксама не была ў Беларусі больш як дзесяцць гадоў. «Убачанае ў Мінску мяне вельмі ўзрушыла, — зазначыла яна. — Вы прывыклі да гэтага, таму і не заўважаеце. Усюды — чысціня, дагледжанасць. Няма мітусні. Пабудаваны новыя раёны і прыгожыя будынкі. Людзі добразычлівыя. Усё гэта ўражвае».



Фота Кастуся Дробава

Алена Мазурава дае інтэрв'ю журналістам.





Наталля Капітонава (злева) і Наталля Голубева.

Выступаючы пасля паказу фільма перад публікай, Наталля Кірылаўна падзякавала беларускім уладам, каналу АНТ і асабіста пісьменніцы, сцэнарысту і аўтару цудоўнай, на яе погляд, кінастужкі Наталлі Голубевай за стварэнне фільма «Кірыл Мазураў. Непакорлівы беларус». «Прыемна, што вяртаюцца імёны людзей, якія шмат зрабілі не толькі для Беларусі, але і для ўсяго Савецкага Саюза, — адзначыла яна. — Праз некалькі дзён у Маскоўскім доме нацыянальнасцей таксама будзе прадстаўлена гэтая кінастужка. Упэўнена: паказ пройдзе на такім самым высокім узроўні, як і ў беларускай сталіцы».

**Раіса МАРЧУК**

# Працяг астрамечаўскай «энцыклапедыі»

Пабачыў свет чарговы выпуск брэсцкага раённага краязнаўчага альманаха «Астрамечаўскі рукапіс» — першы ў гэтым годзе і пяты па ліку. У выпуску прадстаўлены традыцыйныя рубрыкі: «Астрамечава і астрамечаўцы», «Астрамечаўскі рукапіс: мінулае і сучаснасць», «Народныя святы на Берасцейшчыне», «Скарбніца народных талентаў» і інш.

Раздзел «Старажытныя песні Прыбужжа» змяшчае тэксты песень, запісаныя ў 1991 годзе ад Тамары Гучко. Ёсць тут і сямейна-бытавыя песні ад Ірыны Макарэвіч.

Наступная рубрыка — «Народныя святы на Берасцейшчыне», у якой з цікавым матэрыялам выступае доктар філалагічных навук Іна Швед. Расказваючы пра Грамніцы, даследчыца прыводзіць цікавыя назіранні нашых продкаў: «На Грамніцы нап'ецца пэвень вадзіцы»; «Як на Стрэчанне петух нап'ецца водіцы, то на Юр'я карова наесца травіцы»…

У «Літаратурнай сядзібе» супрацоўнікі Чэрнаўчыцкай сельскай бібліятэкі Тамара Кучко і Ірына Рабчэўская расказваюць пра повязь з Берасцейшчынай пісьменніцы Клаўдзіі Каліны (1925 — 1994): «Яна дорыць дзецям радасць сустрэчы з цудоўным, далучае іх да родных вытокаў, да фальклорных традыцый, раскрывае чароўнасць і багацце нашай спеўнай, прыгожай мовы». Калі ёсць прыязнае стаўленне да зробленага папярэднікамі, ёсць і будучыня ў самой цікаўнасці да беларускага мастацкага слова.

«Астрамечаўскі рукапіс» — уражлівы прыклад рэгіянальнай літаратурна-краязнаўчай работы, якая ажыццяўляецца на высокім узроўні. Высілкі, якія ўкладвае ў гэтую працу найперш пісьменнік Аляксандр Валковіч, патрабуюць шырокай увагі і падтрымкі. Чаму б не стаць сузаснавальнікам такога творчага праекта Брэсцкаму абласному аддзяленню Саюза пісьменнікаў Беларусі?

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Гімназіст ды калаўрот

Традыцыйныя адкрытыя раённыя краязнаўчыя чытанні адбыліся ў гімназіі № 25 г. Мінска. Юныя аматары гісторыі і іх настаўнікі падвялі вынікі карпатлівай працы за апошнія некалькі гадоў.

Арганізатарамі выступілі ўпраўленне адукацыі адміністрацыі Заводскага раёна, Мінскі дзяржаўны турысцка-экалагічны цэнтр дзяцей і моладзі, гімназія № 25. Гімназісты сустракалі гасцей (а іх было больш як сотня) у беларускіх нацыянальных строях. На свята запрасілі ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы.

Дырэктар гімназіі Сяргей Дзенюшкін распавёў прысутным пра работу навучальнай установы ў межах рэспубліканскай акцыі «Жыву ў Беларусі і тым ганаруся», якая дапамагае школьнікам ва ўсебаковым вывучэнні гісторыі, культуры і прыроды роднага краю.

Праца семінара ладзілася ў чатырох секцыях. У першай — «Беларусь гасцінная» — праходзіў кастынг экскурсаводаў. Яго ўдзельнікі прадставілі гісторыка-культурныя, сацыяльныя, прыродныя ды іншыя адметнасці малой радзімы ў форме цікавай візіткі.

Для ўдзельнікаў другой секцыі працавала выстаўка работ, створаных рукамі хлопчыкаў і дзяўчынак. У розных гуртках Заводскага раёна вывучаюць традыцыйныя народныя рамёствы і фальклор больш як тысяча чалавек. Падчас «чытанняў» былі праведзены майстар-класы па вырабе рэчаў з саломкі, гліны, воўны, лёну…

Госці наведалі гісторыка-краязнаўчы музей «Невычэрпная крыніца гісторыі», які працуе пры гімназіі. Асабліва ўразіў вучань Аляксандр Юшкевіч, які, седзячы за калаўротам, праў кудзелю!

Праца трэцяй секцыі прысвячалася Вялікай Перамозе. Даследаванні былі праілюстраваны эпізодамі з уласнай пошукавай дзейнасці. Навучэнцы звярнуліся да старых фотаздымкаў, запісалі ўспаміны ветэранаў, выкарысталі сямейныя архівы. Цікавыя работы прадставілі юныя краязнаўцы сярэдніх школ № 43 і № 172, якія распавялі пра паэта і разведчыка Язэпа Семяжона, пра імёны герояў, што далі назвы вуліцам Заводскага раёна.

У чацвёртай секцыі гаворка ішла пра Беларусь спартыўную. Асабліва запамінальным атрымалася выступленне Аліны Пpановіч і Марыі Кудзінай з гімназіі № 25, прысвечанае Аляксандру Журыку, вядомаму хакеісту, майстру спорту міжнароднага класа.

**Аляксандра БЕЗМЕН**

# Прыцягальная Гомельшчына

Сумесны праект дзяржаўнай гісторыка-культурнай установы «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль» і мастака Яўгена Шаціхіна «Залатое кальцо Гомельшчыны» быў рэалізаваны пры падтрымцы аблвыканкама яшчэ дзевяць гадоў таму.

Супрацоўнікі музея Гомельскага палаца распрацавалі адмысловы турыстычны маршрут з наведваннем найбольш важных гісторыка-культурных аб'ектаў вобласці, а Яўген Шаціхін напоўніў яго канцэпцыю мастацкімі ідэямі. Цяпер работы творцы можна пабачыць на выстаўцы «Залатое кальцо Гомельшчыны» ў Палацы чыгуначнікаў імя У. І. Леніна.

Дарэчы, творчы праект мастака атрымаў высокую ацэнку не толькі на Гомельшчыне, але і за межамі Беларусі. У 2009 годзе яго работы экспанаваліся ў Маскве падчас правядзення Дзён культуры Гомельскай вобласці ў Паўднёва-Заходняй адміністрацыйнай акрузе расійскай сталіцы.

Адкрыццё азначанай выстаўкі ў Палацы чыгуначнікаў арганічна ўпісваецца ў калейдаскоп шматлікіх мерапрыемстваў, якія запланаваны ў Год гасціннасці ўстановамі культуры Гомельскай вобласці. А знаёмства з экспазіцыяй дазволіць глыбей спазнаць гісторыю і культуру гэтага рэгіёна.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# На вяселле!

Мюзікл «Вяселле ў Стараселлі-2» у пастаноўцы заслужанага аматарскага фальклорна-этнаграфічнага ансамбля Белдзяржуніверсітэта «Неруш» прадставілі гледачам на пачатку тыдня на сцэне сталічнага Палаца культуры ветэранаў.

Яркае прадстаўленне — сапраўднае фальклорнае дзейства з захаваннем традыцый і абрадаў нашай нацыянальнай культуры. Гледачы ўбачылі вяселле, узноўленае ў адпаведнасці са звычаямі цэнтральнай і паўднёвай абласцей Беларусі.

Спектакль прасякнуты гумарам, нацыянальным каларытам, напоўнены народнымі песнямі, якія адлюстроўваюць рэгіянальныя асаблівасці мясцовай культуры. Матэрыял для стварэння пастаноўкі ўдзельнікі калектыву запісалі падчас неадназовых фальклорных экспедыцый.

**Бажэна СТРОК**

# Дзе лялькі так падобныя да нас

Першая міжнародная выстаўка аўтарскіх лялек у Беларусі «Панна DOLL'я» прайшла ў Палацы мастацтва. Яна аб'яднала больш як сотню мастакоў з Беларусі, Украіны, Расіі, краін Балтыі ды іншых. Як вынік – 42 стэнды лялек, майстар-класы ад творцаў, а яшчэ – эмоцыі і шчырыя абмеркаванні.



*Фота Вольгі Зубенка*

*Г. Дзмітрук «Высокія абцасы».*



*А. Катлярова «Айрын».*

### ТАКОГА ЯШЧЭ НЕ БАЧЫЛІ

Сама назва намякае на інтэрнацыянальнасць выстаўкі. Між іншым, раней падобныя мерапрыемствы праходзілі толькі ў Маскве і Еўропе. Сітуацыю змяніла куратар «Панны DOLL'і» Надзея Цыганоўская. А вецер замежжа «прынесла» на выстаўку знакамітая мастачка з Германіі Сью Лінг Ванг, якая прадставіла парцалянавых дзяўчынак з пранікнёнымі, задумлівымі вачыма. Цэлы стэнд быў прысвечаны мастацтву лялек Японіі. Яны вабілі шчырай адкрытасцю і ледзь улоўным наівам. Наведвальнікі змаглі пабачыць экспазіцыю мастакоў-лаўрэатаў і намінантаў конкурсу «Пандора Платынум» — «Оскар лялечнага свету» ўпершыню ў Беларусі! Розныя, але ў аднолькавай ступені таленавітыя аскараносцы адразу ўсталявалі высокую планку для ўсіх творцаў.

### ЦІКАВЫЯ І РОЗНЫЯ

Маленькія і вялікія, мяккія і цвёрдыя, статычныя і рухомыя выставачныя лялькі… Беларуска Ніка Радзюк перамагла ў намінацыі «Фільцаванне», то бок адметная тэхніка рукадзелля (валянне воўны). Лепшую тэкстыльную ляльку стварыла Кацярына Зінкевіч, яшчэ адзін цікавы напрамак — шарнірныя лялькі (пераможцай прызнана Ларыса Насановіч).

Галоўны прыз «Залатая рука майстра» ў намінацыі «Лялька года» таксама атрымала наша суайчынніца Таццяна Хаберская. Сам прыз быў зроблены беларускай мастачкай Галінай Дзмітрук.

### СТАРЫЯ ДОБРЫЯ МЯДЗВЕДЗІКІ

Яшчэ адна намінацыя выстаўкі — «Мядзведзік Тэдзі». Публіцы прапануецца вобраз старэнькага ўтульнага мядзведзіка. Паводле легенды, сваё імя Тэдзі атрымаў ад амерыканскага прэзідэнта Тэадора Рузвельта. На паляванні апошні адмовіўся страляць у медзведзяня, якое прыцягнулі загоншчыкі. Выратаваную жывёлу назвалі Тэдзі. На выстаўцы «Панна DOLL'я» перамаглі мядзведзікі ў вінтажным стылі Вікторыі Голубевай. Ужо чацвёрты год запар работы мастачкі цешаць дабрынёй, індывідуальнасцю і непаўторнасцю. Сваімі думкамі падзяліўся майстар з Масквы Юрый Падкапаеў: «Мы, мастакі, робім персанажа, які мае сваё аблічча і характар. У кожнага павінна быць гісторыя, бо гэта не проста пашытая рэч, а сапраўдны вобраз».

### У СТЭПЕ КАЗАХСТАНА

Мастачка з Казахстана Наталля Ляпіхіна прадставіла на выстаўцы частку свайго вялікага праекта «Цені ветру». Яе «Гарлачыкі» — пяць чоўнаў з задуменнымі, крыху журботнымі лялькамі. Куды яны плывуць? Ці ад чаго адплываюць? Адказ можна знайсці ў разважаннях аўтаркі: «Я жыву ў вялікім мітуслівым горадзе, дзе няма магчымасці застацца сам-насам з уласнымі пачуццямі. Для таго, каб «дабрацца да сябе», мне трэба было выехаць у стэп. Там і з'явілася вельмі шмат цікавых думак. Усім раю на некаторы час збегчы з мітусні жыцця». Напэўна, гэта самы філасофскі стэнд на выстаўцы. Акрамя таго — адзіная інсталяцыя, своеасаблівы тэатр у мініяцюры з дэкарацыямі і персанажамі. Лялькі тут не проста мадэлі — яны жывуць асобным жыццём і не звяртаюць увагі на чалавечую мітусню.

### НА ВЫШЫНІ ШПІЛЕК

Галіна Дзмітрук — вядомы ў Беларусі і за мяжой майстар аўтарскай інтэр'ернай лялькі. Ні да каго не падобная, яскравая, эпатажная мастачка прапанавала калекцыю «Высокія абцасы», якая ўжо экспанавалася ў Азербайджане і Расіі. «Мае лялькі — жанчыны з вялікай літары, — распавядае творца. — Пагадзіцеся: шпілька змяняе жанчыну, дапамагае адчуць сябе сапраўднай каралевай!» Галіна Дзмітрук наўмысна змяняе прапорцыі: падаўжае целы, робіць шмат выгінаў. Дарэчы, гэта не столькі аўтарскі почырк, колькі сродак, з дапамогай якога мастачка дасягае сваіх мэт, ствараючы вобраз жанчыны дваццаць першага стагоддзя. І няхай зайздроснікі абвінавачваюць аўтарку ў прапагандзе анарэксіі, сапраўдныя знаўцы мастацтва ўбачаць у яе работах толькі лебядзіную грацыю.

### КАЗАЧНЫ МЯЦЕЖ

Ганна Чапурная-Алейнік дваццаць гадоў займалася жывапісам, а вось аўтарскай лялькай захапілася нядаўна. І перамагла ў намінацыі «Скульптура»! «Лялька зацікавіла мяне багатымі магчымасцямі ў перадачы вобраза. Ды яшчэ праца з новым матэрыялам», — прызналася мастачка. Яе лялька «Цудоўная мяцежніца» (з серыі «Туман-прозвішча») — спалучэнне неспалучальнага. Мяцеж не абавязкова павінен быць крывавым і жорсткім, ён можа быць узвышаным і светлым. «Цудоўная мяцежніца» — парыў, заклік скінуць кайданы, усё, што перашкаджае нам быць такімі, якія мы ёсць. Я заклікаю ўвасабляць творчыя ідэі і фантазіраваць», — адзначыла творца.



*Сью Лінг Ванг «Тоска».*

### САМЫЯ СМЕЛЫЯ

Вольга Лахіна, выканаўчы дырэктар Фонду «Лялькі свету», галоўны рэдактар часопіса «Лялечны майстар» (Расія) слушна адзначыла: «Чаму менавіта сярод мастакоў-лялечнікаў больш за ўсё прадстаўнікоў розных відаў мастацтва: фатографаў, ювеліраў, мультыплікатараў, дэкаратараў, дызайнераў, жывапісцаў і г. д.? Таму што лялька — аб'ект, які дазваляе выкарыстоўваць усе іх таленты ў іншым цікавым напрамку, у іншай падачы. Усё ў нашым жыцці паскараецца, і дынамічная мастацкая лялька лідзіруе. Яна прыцягвае самых яркіх, смелых і рызыкоўных мастакоў».

**Паліна ПЛАТАВА**

## Нібыта ў чароўным садзе

У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася выстаўка па выніках IX Міжнароднага конкурсу жывапісу і графікі дзяцей і моладзі «На сваёй зямлі».

Гэтым разам удзел у конкурсе ўзяло больш як трынаццаць тысяч юных мастакоў з Аргенціны, Балгарыі, Бангладэш, Інданезіі, Індыі, Ірана, Кітая і многіх іншых краін.

Арганізатары не абмежаваліся адборам лепшых кампазіцый і ўзнагародай пераможцаў. За гады існавання конкурс ператварыўся ў маштабны праект, які спрыяе творчаму, адукацыйнаму і прафесійнаму развіццю ўсіх удзельнікаў. У яго межах разгортваюцца такія праекты, як Міжнародная канферэнцыя мастакоў-педагогаў «Сучасная мастацкая адукацыя дзяцей і моладзі», Міжнародны культурна-асветніцкі праект «Перазоў стагоддзяў». З іх дапамогай арганізатары спрабуюць прааналізаваць багаты матэрыял, што назбіраўся ў фондах конкурсу, а таксама аб'яднаць асобных педагогаў і цэлыя навучальныя ўстановы для супольнай дзейнасці і абмену досведам.

Экспазіцыю выстаўкі складае больш як 300 дзіцячых твораў. Аўтары працавалі над тэмамі: «Бяспечная праца на зямлі», «Казка», «Сапраўднае свята», «Партрэт старога дома», «Чароўны сад». Багацце прыёмаў і тэхнік, разнастайныя мастацкія і культурныя традыцыі, непаўторны каларыт кожнага рэгіёна дазволілі сабраць яскравую калекцыю дзіцячага мастацтва.

Арганізатарамі выстаўкі выступілі Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, грамадская арганізацыя «Беларускі зялёны крыж».

Выстаўка працуе да 23 красавіка.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

ЛіМ
**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2511.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 10.04.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1473.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686